

ТАРАС ГУШЧА

# РОДНЫЕ ЗЬЯВЫ.

Вільня — 914.

ТАРАС ГУШЧА

# РОДНЫЕ ЗЬЯВЫ










ВІЛЬНЯ 1914
ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУХТЫ.



# Думкі ў дарозе

---

Грыміць па карэньнях цялежка, мігацяцца стракатые вярстовые слупы, мігаюцца пахіліўшыся, абросшые мохам хваёвые крыжы на абапал дарогі; бягуць лясы, гаі, мешаюцца палі, грамадзяцца горы, расцілаюцца шырокіе лугі, блішчаць азёры, срэбрам перэліваюцца рэкі, золатам рассыпаюцца пяскі, глыбокімі, зялёнымі ямамі раскідаюцца балоты...

І куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?

А неба! Далёкае, няведамае, сіняе неба! Тысячы, мільлёны гадоў пазіраеш ты, бяз болі, бяз трывогі, пазіраеш на ўсіх роўна: на чэлавека, на зьвера, на птушку, на самую меньшую мушку, на жывых і нежывых, на нашу бедную зямлю, на зямлю прагноеную людзкімі трупамі, залітую крывёю і горкімі сьлязьмі сіраты—народа.

Далёкае неба, сіняе неба! Чаму не дасі атказу на нашу пакуту, на нашы надзеі, на нашы блуканьня? Чаму не асушыш нашы горкіе слёзы? не супакоіш хворую душу і сэрцэ? Чаму не папаліш агнём справедлівым таго ліхога зьвера, што сее заразу, топчэ праўду і носіць нешчасьце па нашай зямлі?

Далёкая неба! Сіняе неба! Што ёсьць на сьвеці дзіўнейшэ, як ты? Высокае сонцэ, белые хмаркі, як пух, плывуць і плывуць адна за адною, родзяцца, прападаюць, сплываюцца ў цёмную хмару, зьвісаюць над полем і лесам, блішчуць маланкамі, трасуцца громам, разліваюцца чыстымі халоднымі каплямі і шчыра льюцца на зямлю.

Далёкае неба! сіняе неба! Як ціха на небі у ночы! Серэбраны месячык то круглы, то вузкі, як серп, як хораша сьвеціць над чорнаю цьмою, што густа засьцілае Божы сьвет! А далёкіе зорачкі! Божэ мой! Як добра у ціхую ночку!

Далёкае неба! сіняе неба! І як, можэ асьмеліцца думка чэлавека выдумаць у табе, яснае неба, пекла, агонь, што ніколі ня тухне, смалу, што вечна кіпіць!

Далёкае неба! сіняе неба! І як апага-

нілі людзі хараство тваё, божае неба, у сваіх думках!

А дарога мая чуць віднаю, шэраю ніткаю ідзе ўсё далей і далей, круціцца, абвіваецца ўвакруг курганоў, узбегае на горы, спушчаецца ў лагчыны, прападае у лесі пад жывою страхою высокіх хвой і елін; трасе цялежка, паткідае па каўдобінах, усё роўна, як хочэ яна выкінуць мяне пасярод дарогі. Зноў пашла раўней мая дарога, зноў вочам аткрываюцца новые абразы божаго сьвета, іншые галасы чуе маё вуха, іншые думкі родзяцца у маім сэрцы.

Куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?

О, мой родны край! Хмурна пазіраеш ты с сіняго тумана, што лёг па краёх палёў, гдзе неба, спусьціўшыся нізка, абнімаецца з беднаю зямлёю. Парэзалі цябе вузкіе селянскіе дарогі, чорные сьцежкі, рэкі і азёры, лахчыны і балоты, лясы і горы. А бедные вёскі і сёлы без уселякаго парадку параскідаліся то там, то сям: па горах, лахчынах, па беразі рэчак, сярод далёкаго поля, па цёмных лясох. Пакрывіліся хаты, абвіслі стрэхі на гумнах, сініе купіны моху таўстою карою ляглі па гнілых саломяных стрэхах. Збіўся ў кучу бу-

дынак. Распаўзліся па полю, як чэрві ў нягоду, бедные мужыцкіе хаты. Навалены ў кучу бярвеньня, стружкі, салома. Дзе-недзе гляне нудная вярбіна, блісьне бярэзіна, выскачыць клён. Як нявесела, як непрытульна пазіраеш ты, мужыцкая вёска, сірата між людзкой будовы!

А поруч з убогімі людзкімі будынкамі упёрліся ў неба панскіе палацы, зялененеюць сады, ломюць гальлё яблыкі і грушы; шырока і сьмела раскідаюцца дваровые палеткі, каласуюцца багатые панскіе нівы, пасуцца сытые коні, валы-рагалі, тысячы авец разсыпаюцца па полю... О, мой родны край! Поруч з галітвою ходзіць роскаш і багацьце; разам з людзкімі слёзамі мешаюцца панскіе вальцы, льюцца вясёлые галасы песень, грыміць му́зыка с панскаго саду; разам з мужыцкім потам цякуць дарагіе віна.

Толькі нудные песьні твае, Беларус, хапаюць за сэрцэ, жалобяць душу, туманяць вочы сьлязьмі, плачуць і стогнуць, і горкаю упекаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, няведамаму, сінему, спакойнаму небу.

# Дудар.

Тром родным братом Бог даў аднакі розум, аднакіе мысьлі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнаго брата у жыцьці. Хоць усім братом ня вельмі соладка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула між мхоў і балот. Кепска жылося Меншаму Брату. Плакаў ён, і ніхто не бачыў яго сьлёз, ці не хацеў бачыць. Сьпеваў ён і песьні, доўгіе, нудные песьні, песьні нядолі. Гаварыў і казкі, і толькі ў казках ён бачыў сябе шчасьлівым. Яго сьлёзы капалі разам з расой на зямлю. Грэла сонцэ, і сьлёзы, змешаные з божай расой, падыймаліся к небу і аттуль кідаліся назад на зямлю чыстымі капелькамі. І так яны вечна кружацца з зямлі на неба, з неба на зямлю. І ніколі не

высыхалі вочы Меншаго Брата. Таўсты высокі лес адзін толькі слухаў яго песьні і сам памагаў яму сьпеваць сваім доўгім шумам. Выходзіў Меншы Брат у вечэр на двор, браў сваю дудку, садзіўся на прызбі сваей хаты і граў. Месячык каціўся па небі, плылі белые хмаркі. Божые зоркі, як саромлівые дзеўчаткі, пазіралі на зямлю праз белые, тонкіе хмаркі і слухалі Меншаго Брата, як граў ён на дудцы. І ціха было на сэрцы, як ціха была сама ночка. І думкі, як тые хмаркі, лёгка радзіліся ў сэрцы і плылі яны Бог знае куды, далёка - далёка, умiралі ціха-ціха, як паволі раставалі і белые хмаркі ў небі. Толькі пугач і сава злым крыкам сваім будзілі ад шчасьлівых думак Меншаго Брата. Ён прачыхаўся, як ад сну, і думкі другіе, думкі нядолі, як нажом, калолі яму ў сэрцэ.

Ні думак, ні песень яго ніхто не знаў і ня чуў, ці не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам. Разбіраў яго адзін толькі лес, і лесу атрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі сьмеяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося вальней: лес не давіў яго, не гнаў, як гналі і давілі яго людзі. І Меншы Брат

зрабіўся ціхі, спакойны, асьцярожны і нікому не аткрываў сваей душы. Меншы Брат адзічэў. Лес і балоты адгарадзілі ад Божаго сьвету.

Прайшло многа часу.

Усе тры браты сустрэліся. Старшы Брат пазіраў сьмела. Ён быў у ботах, у крамных портках і кашулі, а паверх кашулі — камізэлька. Гаварыў Старшы Брат скора, мова яго была адменна, і Меншы Брат ледзьве мог разбіраць яго.

На Срэднім Браце была высокая шапка, шырокіе белые порткі, боты. У зубах — круглая люлька на кароткім цыбуку; гаварыў ён мала.

Меншы Брат выглядаў старэйшым за іх абодвых. Барада яго была сівая, рукі дрыжалі. Сам ён быў тонкі, худы. Яму як бы брыдка было перэд братамі, што на ім сівая рваная сьвітка, круглая шапка-кучомка; на нагах лапці, а каравые анучы абвівалі худые ногі.

Гаварылі браты аб усім: а горкай сваей долі, а праўдзі, а жыцьцю.

Меншы Брат маўчаў. Яму не давалі гаварыць тэй мовай, каторай гаварыў ён сам с сабой, с сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы сьмеяліся старшые браты.

— Гавары ты так, як гавару я, — кажэ Старшы Брат, — і не страхай ты мову людзкую. Твая мова — нямая мова. Што сказаў ты сьвету на сваей мове? Дзе песьні твае? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песьняры твае? Чым ты пахвалішся?

— Лепшай мовы я ня чуў. Гавару, як знаю. Брат! хто доўга маўчаў, таму хочэцца многа гаварыць. А я маўчаў ўсё жыцьцё, і мне хочэцца гаварыць: не адбірай ты ад мяне хоць гэтаго права. Спытайся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны сьлязьмі, а сьлёзы разам з думкамі разліліся ў рэчцы. Вецер — песьняр мой. Горэ і боль радзілі мае песьні, і слухаў іх лес. Спытайся у леса — ён скажэ пра песьні мае.

Скажу табе казку. Пасадзіў пан дудара у глыбокім склепі за каменные сьцены. Кажэ яму пан: „Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песьні, і тагды я пазволю табе сьпеваць людзям песьні, дарую права расказаць сьвету пра думкі твае“.

Праз каменные сьцены ня выбілася песьня дудара, і ніхто яго не пачуў. — „Ты павінен маўчаць! — кажэ пан дуда-

ру, — бо песьня твая нічога не сказала майму сэрцу. Нехай астаюцца ў табе тваe думкі і песьні". І дудара с таго часу слухала пустое поле, балота і лес.

Брат! усе мы шукалі шчасьця, толькі йшлі мы не аднакімі дарогамі. Табе хоць трохі сьвяціла сонцэ, а я йшоў, як у ночы. Запалім-жэ мы лучыны і пойдзем ешчэ шукаць долі, будзем памагаць адзін аднаму, а як заблудзіць хто з нас, падамо яму голас. Ня сьмейцеся-ж, браты, і не адбірайце ў мяне таго, што можэ адабраць толькі Бог!

І сьлёзы блішчэлі на вачах Меншаго Брата.

1906 (15/XII)

## Зло не заўсёды—зло.

Цэлае лета вісеў жолуд на старым дубе. Бог ведае, як далей, а пакуль ён быў малы, вялікаго гора зазнаць яму не прышлося. Праўда, на яго тады ніхто не звярачаў і ўвагі: якбы яго і на сьвецi не было, толькі сонейка, выплыўшы з-за лесу, узіралася на яго і пеставала сваім цяплом, бы тая маці. А калі, бывала, яно прыпекала надта горача — любоў часта пераходзіць свае граніцы, — маленькі жалудок хаваўся у цяньку густых лістоў, як пан пад парасонам, і яму заўсёды было добра.

Так і вісеў ён, ні для каго незаметны.

Але-ж ўрэшці вісець яму абрыдла.

Яно такі і праўда: якбы там ні было добра, але калі гэтае дабро цэлы век астаецца без усякай зьмены, то яно лёгка

перэстае быць дабром. Гэтак было і з жолудам: захацелася яму другога жыцьця: так і цягнула яго саскочыць з галіны і пакачацца па мягкай зямлі. Не раз ён ужо парываўся зрабіць гэта. Сказаўшы праўду, трохі з ветру гарыць сьвет. Бывала, чуць што ўзыйдзе сонцэ, гэты жартаўнік і штукар-вецер зараз і паткрадзецца, але так, каб ня чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў. Што казаў жолуд, ня ведаю. Болей сьмелы вецер гаварыў грамчэй, і вось што ён шэптаў раз жолуду.

— Дурны ты? я пражы́ў на сьвеці болей вякоў, як лістоў на гэтым дубе, і кажу табе: раз у цябе ёсць сіла, ты заўсёды знайдзеш спосаб жыць на сьвеці, і ты праб'еш сабе дарогу — што́ жывое, жывым і застанецца. —

А стары дуб тым часам гаварыў так.— Сынок! патрывай ешчэ трошкі, падрасьці, ўздужай. О! ты ешчэ ня ведаеш, як цяжка жыць на сьвеці. Паслухай мяне, старога. Ведама бацька: шкада яму сына. — Не пускае бацька, — ціханька шэптаў жолуд на намову ветра.

І трэба-ж было, каб гэту гутарку прачула сьвіньня! Раз, ужо зусім пад восень, жолуд убачыў, як пад дуб, рохкаючы, труш-

ком падбегла лапавухая асоба. Углядзеўшыся добра, жолуд абамлеў: на зямлі ляжала шмат такіх-жэ, як і ён, жалудоў, і сьвіньня хрумстала іх без усякай жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня, даруй Божэ грэх. З вялікага страху бедны жолуд задрыжаў, вылузаўся з мiсачкі і упаў на зямлю у двух кроках ад сьвіньні! Але упаў ён як раз у тую яміну, што вырыла сьвіньня сваім ўласным доўгім лычом.

І вось што вышла: сьвіньня хацела паесьці жалуды — і памагла вырасьці аднаму жолуду, вырыўшы яму пасьцельку. Жолуд на другі год прарос і стаў дубком, а сьвіньню людзі закалолі, і яна стала мясам.

---

# Старасць—не радасць.

---

Аб чым гэта думае стары Базыль, седзючы ўсю зіму на печы, а вясною і летам гдзе небудзь на дварэ, або на прызьбі ў халадку? Сядзіць ён цэлымі гадзінамі і моўчкі пакурывае такую-ж старую, як і ён, люлечку, і сьліна часта цячэ па кароценькім цыбучку. Падыдзе да яго хто — сын ці нявестка, ці унук, або хто с суседзеў, ён скажэ колькі слоў, і скажэ ціха, спакойным роўным голасам. У гэтым голасе не чутно ні задору моладасьці, ні злосьці і крыўды сталаго чэлавека, ні жальбы старасьці. Так гаворыць толькі той, хто усё перажыў, усё пахаваў і каму ўжо нічога не асталося у жыцьці. Скажэ ды ізноў сядзіць маўчком, апусьціўшы многа пажыўшую на сьвеці пасівелую галаву.

А была і яго пара! Была у яго мола-

дасць, былі сілы і здароўе, радасьці і надзеі, былі і нягоды, і іх нават было больш, як дабрá. Гучны, поўны сілы голас яго не раз калісь будзіў поле, як с конікам ціха йшоў ён за сошкай, або як востраю касою рэзаў траву ў лузі, ці як сякерай ссекаў ён векавые дзерэвякі ў лясох і выдзіраў з зямлі, глыбока і моцна засеўшые ў ёй, карчы, каб прыгатаваць для збажынкі мяккую пасьцельку.

І дзе яно усё падзелася?

Ці было ўсё гэта?

Жыў чэлавек на сьвеці, многа бачыў усякай прыгоды, не адно пакаленьне прашло прад вачыма старога Базыля, а прышла пара і здаецца, што ты якбы і ня жыў на сьвеці, якбы усё гэта рабілася у сьне, бо усё злілося у адну чорную пляму, катораяя вот-вот гатова патануць у багне прошласьці.

Выйдзе стары Базыль на вуліцу і сядзе на прызьбі. Ён ужо нічога не бачыць, толькі вушы ешчэ злучаюць яго з жыцьцём, каторае шуміць і гамоніць усюды, ідзе ды ідзе сваім парадкам, але сам Базыль стаіць з боку, здалёк ад яго. Шарасьцяць па пяску вуліцы калёсы і крэкчуць ад ціжару наваленаго гною ці дроў, забараба-

ніць пустое вядро на плечах маладзіцы, ці дзяўчыны, з рэчкі дакоціцца крык плытнікаў і рыбакоў, дзесь-то з боку звонка гучаць дзіцячые галасы, адным словам ад усюль даносяцца зыкі жыцьця; ўсе, каму йшчэ трэба прайсьці свой круг, шумяць і гаманяць і робяць сваю работу. Адзін толькі Базыль лішні тут і усім чужы, толькі для аднаго яго міма праходзіць гэтае жыцьцё.

І сядзіць ён, пакурывае старую люльку, абапёршыся на кіёчак, і нешта думае, апусьціўшы у зямлю свае невідушчые вочы. Аб чым-жэ ён думае? Можэ аб тым, што ён такі адзінокі і забыты, што ўсе яго таварышы даўно ўжо лежаць пад крыжамі, і толькі ён, як той стары падгніўшы дуб, растраціўшы сваё лісьця, стаіць між зялёнымі дубамі і ўжо ня можэ сьпеваць з імі у вадзін тон песьню жыцьця.

Адно толькі чуецца ў гэтых думках старасць — чуецца ў іх смутак, бо цяжка стаяць над магілаю свайго жыцьця і пазіраць на яго разваліны.

---





# У старых дубох.

Цэлы гай старасьвецкіх дубоў раскінуўся па беразі Нёмна.

Такіх дубоў цяпер рэдка дзе убачыш. Іх не чапіла рука людзкая, толькі доўгіе часы палажылі на іх свой сьлед—печаць глыбокай старасьці. І многа ўсякіх зьмен часаў бачылі гэтые нямые сьведкі прошласьці! Жыцьцё многіх людзкіх пакаленьнёў прайшло перад імі і праходзіць, бы тые хвалі Нёмна, што пакручастым зьмеем абвівае тут іх сялібу, іх высокі, роўны груд; а яны ўсё стаяць, спакойные, важные, і жывуць сваім асобным жыцьцём. Праходзяць дні, ідуць сваёю чэрадою зімы і леты з іх халадамі і сьпякотамі, з іх бурамі і навальніцамі, а яны спакойны, як чэлавек, каторы ўсё пераведаў на сьвеці, ўсё пераҗыў і ўжо нічога новаго не чэкае ад

жыцьця, апроч сьмерці. Зваленые-ж на дол таўстые камлі з асмаленымі знізу жэраламі іх таварышаў напаміналі жывым аб апошняй іх долі.

Ў леці пачыналася ўжо тая чуць значная зьмена, той паварот часу, калі жыцьцё прыроды ідзе на убытак. Скошэны луг і раскіданые курганамі стагі, парыжэўшые ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым уміраньні. Буслы зьбіраліся ў чароды і доўга стаялі па грудах, або ляніва аглядалі лагчыны. Але было заметна, што не на пажытак пазьбіраліся яны сюды, а для якойсь-то другой справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, уздымаліся яны ў гару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх ўсё вышэй і вышэй. Там яны сплеталіся у адну фігуру, ў адзін шырокі круг і, не махаючы крыльлямі, плаўна і сагласна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх небясоў... Асірацелые старые дубы у чорных шапках бусляных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістом, і купалі на сонцы свае адвечные лапы. На скошэным лузе, нідалёка ад дубоў, пасьвіліся стадкі. Там і сям сядзелі пастушкі. У кожнай іх кучы былі свае інтэрэсы, свае забаўкі і гутаркі. Сонцэ даў-

но ўжо звярнула с поўдня, але сьвяціла ешчэ горача. У воздусі было ціха, толькі звон летнікоў (кузуркі, падобные да пчол) зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песьню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам. Маленькіе камарыкі - таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, якбы чыясь-то нявідная рука трасла у воздусі маленькую сетачку.

— Чаго яны таўкуцца тут? — спытаў Грышка свайго таварыша Базыля і махнуў рукою па кучцы камарыкаў.

— Гуляюць, — кажэ Базыль: — ты думаеш, і ім ня хочэцца пагуляць? Цяпер іх час, і гуляюць.

Базыль і Грышка найлепшые дружакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба — як запамятаюць. Дзьве зімы у школцы сядзелі яны на аднэй лаўцы і трэйцяе лета пасуць разам кароўкі. Калі каторому маці дасць у торбачку сала, то гэтае сала разрэзвалі папалові і пяклі яго на ражончыках. А смачнае сала, спечанае над агнём у полі! Прыгнаўшы з раніцы, хадзілі разам лавіць рыбу і купацца. І ні с кім яны не злучаліся і, апроч свае кампаніі, другой не хацелі. Раз толькі сварыліся хлопцы і пасварыліся за глупства — за ножык-цыган-

чык, катораму уся цэна тры грошы. І тольки ў злосьці назваў Грышка Базыля Насалём — у Базыля быў дойгаваты нос, — а Базыль Грышку абазваў Рабэйзаю. Але рэдкіе здарэньня лаянкі толькі на кароткі час раскідалі іх дружбу, і хлопцы скора зноў гадзіліся, посьле чаго Базыль, водзячы пальцамі па носі, гаварыў:

— Здаецца, мой нос, Грышка, не такі ўжо вялікі?

— Ды не! — супакоіваў яго Грышка: — твой нос — мерны нос. Вось я, дык праўда рабы! — гаворачы так, Грышка хацеў учуць пацьвярджэньне Базыля, што ён не так-то рабы, бо сам Грышка не лічыў сябе рабым.

— Што тваё за рабаценьне! — казаў Базыль: — зімою зусім не знаць, а цяпер проста сонцэ трошкі асмаліла твар.

І хлопцы зноў былі дружкамі і пачыналі гульню або гаворку аб чым-небудзь. Гаворка у іх бадай ніколі ня зводзілася, а вакруг было так многа ўсяго, што давала ім страву для гутаркі.

Улягуцца часамі хлопцы пад дубом; Грышка ляжэ на спіну і колькі мінут моўчкі угледаецца на той дуб, пад каторым лежалі.

— Як ты думаеш, Базыль: ці ёсьць на сьвеці такі чэлавек, каторы-б панёс гэты дуб?

Базыль акідаў вокам дуб і, крыху падумаўшы, казаў.

— А пэўне ёсць.

І тут-жэ расказываў свайму сябру здарэньне з якім-небудзь асілкам. Так адзін мужык (Базыль нават назваў яго прозвішчэ) паехаў красьці хвою у княжэцкі лес. Ссек ён такую таўстую хвою, што і два чэлавекі не абнялі-б яе. Узваліў на воз і паганяе каня. Конь — ані з мейсца! А якраз насунуўся лясьнік. „Стой-жэ, думае ён: — нігдзе ні ты нядзенешся: не ўцячэш ты з гэтай хвоей“, і сам пазірае, што будзе далей. Чэлавек гэты, нічога не гаворачы, выпраг каня, прывязаў яго да канца калоды і, сказаўшы: „ніхай-жэ будзе брыдка каню“, узяўся за аглоблі і пацягнуў калоду! Лясьнік толькі галавою пакруціў — і слова не сказаў мужыку.

— Вось каб мы былі такіе дужые: усіх бы зарэчэнцаў пабілі!—Уздыхнуўшы, гаварыў Грышка.

— Вось дзіва! што-ж іх тады біць? дзьмухнуў бы, і ўсе-б пакідаліся.

— А ці праўда, што наш Нічыпар Шу-

лай дужаўся с чортам? — Запытаўся зноў Грышка.

— Нёж не: у яго самога чортава рабро — яго ніхто не пакоціць. —

— Ну, ніхто! а калі ў каго два рабры?

— Ведама паборэ той, у каго два... Але, мусіць той, хто мае чортава рабро, пойдзе ў пекла, — памаўчаўшы, зноў сказаў Базыль.

— Чаму ў пекла? ён-жэ родзіцца з гэтым рабром. Калі і пойдзе хто, дык пэўне маці, бо яна с чортам любілілася, — сказаў Грышка.

Базыль на гэта нічога не атказаў і задумаўся.

— А каб табе, Базыль, сказалі: „Умірай цяперака, і ты пойдзеш у рай“. Ці згодзіўся-б ты уміраць.

Базыль памаўчаў.

— Не! — атказаў ён.

— Чаму? —

— Мне было-б там маркотна аднаму; а тут усе: бацькі, хлопцы, ты. Каб са ўсімі, то пашоў-бы.

— І як гэта памрэ чэлавек, што з ім робіцца? — Як бы сябе самога пытаў Грышка.

— Што-ж? душа выходзіць. Прыйдзе

сьмерць і памрэш. Зяханеш разоў два і німа!.. Я бачыў, як уміраў мой дзед Гаронім. У хаці мы былі адны з дзядзькам. Як дзед сканаў, дык дзядзька атчыніў комін.

— На вошта? — спытаў Грышка

— Каб душа выходзіла... І страшна, брат, страшна стала!

— Я-б у хаці ня ўседзіў! — стрэпянуўшыся, сказаў Грышка і потым дабавіў:

— Вось, каб яе пяруны з гэтаю сьмерцьцю. Каб злавіў дзе, халеру, ды спаліў. Тады людзі жылі-б і жылі.

— Калі-ж бо для яе німа сьмерці.

— У сьмерці німа сьмерці, — сказаўшы гэта, Грышка углыбіўся ў думкі.

— Што-ж, брат: каб гэту сьмерць узяла другая сьмерць, дык зноў-бы сьмерць асталася. Ніяк, брат, ад яе ня выкіруешся.

— А што, Грышка: калі я памру і па сьмерці буду прыходзіць да цябе, ці будзеш ты баяцца?

— Кіньма гаварыць! чорт яе бяры с сьмерцьцю, — сказаў Грышка, падняўся, азірнуўся і пачаў сьвістаць, каб адагнаць паганые думкі.

Хлопцы сьціхлі і задумаліся.

Было тут у дубох адно мейсца, дзе Базыль любіў сядзець, пазіраць і думаць.

Гэта было тое мейсца, дзе над абрывістым бергам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, таўсты дуб. Ад доўгіх часаў бераг, падмываны вадою, паволі асоваўся і агаляў таўстое карэньня старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся на бок, як падгуляўшы гаспадар, а аголены і працягнуты пад вадою яго корэнь здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб збіраўся перэбрысьці Нёман. Сеўшы на гэтым корэні, Базыль пазіраў, як беглі дробные хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раса; вада то ўздымала яе, то апускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, як вецер дымам. Каля самаго берагу стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што борздзенька ківаўся пад напорам вады. І ніколі ня меў спачыну гэты ражон: і ў дзень і ў ночы ківаўся ён, як багамольны жыд. Хіба можэ зімою, як маразы скуюць лёдам ваду, атпачыне гэты пахілак-ражон. Базыль пазіраў і думаў. А вакруг было ціха. І Базылю здавалася, што ён чуе сьпевы гэтай цішыні, доўга ён прыслухоўваўся, але сьпевы былі нейкіе невясёлые, і яму стала маркотна: ўсё йшло, здавалася яму, сваею дарогаю і жыло сваім жыцьцём, сярод катораго ён пачуў сябе чужым. А Грышка тым

часам бегаў па беразі і зварочываў у ваду навіслы бэрэг. Якраз на тым баку ішоў з вудамі рыбак.

— Дзядзька! — гукнуў Грышка: — пэракінь мне закурыць. —

„Дзядзька“ азірнуў Грышку і сказаў:

— Пакуры, браце, ў сабакі!

— Рыбак — дурак! У рыбака голые бака! — атказаў яму на гэта Грышка.

— Аа-а! гэта-ж, здаецца, той самы, што пакраў яйцы с-пад сучкі? — гукнуў с таго берагу рыбак.

Не сьцяміўшы насьмешкі, Грышка не знайшоў нічога сказаць і толькі спытаў:

— С-пад якой сучкі?

— Што брэшэ с-пад анучкі.

— Каб ты-ж, дай Бог, нічога не злавіў, каб ты ўсе вуды папарываў!—

А рыбак рагатаў і начэпліваў на вудачку чэрвяка.

Пабегаўшы па беразі ешчэ колькі часу, Грышка пашоў шукаць Базыля. Углубіўшыся ў свае думкі, Базыль нічога не ўважаў і сядзеў усё на тым-жэ дубовым карэньні, дзе сядзеў і раней. Звесіўшы ногі над вадою, пазіраў ён у ніз, як цёк Нёман. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіны. Аб чым-жэ

думаў хлопчык? Відаць, нешта важнае і сур'ёзнае, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі кудысь-то ў глыб. Схаваўшыся за куст, Грышка моўчкі паглядаў за сваім сябрам. І без усякай злой мысьлі раптам выляцеў з-за куста і гукнуў на ўсю моц:

— Га-а!

Знячэўку Базыль так перэпалохаўся, што ўвесь задрыжаў і патскочыў. Спужаўшыся, ён ня мог ужо утрымацца і ссунуўся ў ніз. На момэнт, зачапіўшыся лапцем за дубовы корэнь, павіс галавой над гладзьдзю вады, а потым шугнуў і... прапаў з вачэй. Нёман злёгка здрыгануўся, вада расступілася і дала нешчаснаму хлопчыку мейсца ў мокрых і халодных сваіх недрах ды колькі кругоў пабегла па вадзе ва ўсе бакі. Разы два ці тры паказалася яго галава; рука незграбна і сударажна лавіла воздух, зрабіўшы невялічкі паўкруг, і, захлёбываючыся, прапаў на зусім...

Грышка ня ведаў, што так можэ кончыцца яго дурасць, і ён падняў праразлівы крык і лямант.

— А Божэ-ж мой! утапі-і-іўся!
— Гвалт, людзі, ратуйце!

Другіе пастушкі зьбегліся на гэты крык і прылучылі свой лямант.

Рыбак дабег першы. Скінуўшы адзежу, адважна рынуўся ён у ваду.

Зьбегліся людзі.

Заламаўшы рукі, маці, разрываючым душу крыкам, галасіла і прычытвала.

Як непрытомная, кідалася яна ў ваду, ды яе трымалі мужчыны...

Сонцэ так сама пазірала любоўна і на гэту зьяву; так сама было ціха ў прыродзі і ўсё жыло сваім жыцьцём. Старые дубы стаялі спакойна, важна, як і заўсягды. Толькі галкі, спуджэные людзкім крыкам, пазлеталі з дубоў ды сіваваронкі с сярдзітым краканьнем кружыліся над дуплястымі дзерэвякамі, якбы злуючы на тое, што патрывожылі без усякай прычыны іх прывольны спакой, зіялі на сонцы сваім зялёным пер'ем.

---

Базыля вратавалі і аткалыхалі, але посьле такога здарэньня, ён утраціў голас і застаўся нямым.

---

## „Дзеравеншчына“.

Як яно будзе далей, сказаць трудна. Скарэй усяго, што кепска, і сам Міхалка так думае, стоячы на каленках па некольκі разоў на дзень. Ён ужо кінуў і жаліцца сабе самому на сваю долю і пакорна згінаў калені ў куточку. І гэты куточэк стаўся яму нават блізкі, якбы родны. Ды яно і ня дзіва: тое мейсца, дзе ронім мы першые сьлёзы і пакідаем частку сябе самых, становіцца дарагое для нас. А ў гэтым кутку Міхалка многа чаго перадумаў. І адзін толькі ён, гэты куток, знаў ўсе яго думкі, бо пагаварыць тут німа с кім..

Ох, гэты горад! На пакуту сюды ўзялі малога Міхалку. А горш за ўсё, дык гэта тое, што ніхто тут яго не шкадуе, ніхто за яго не закіне слова. А часамі выскачыць ён на двор,—куды забяжыць знячэўку які са-

бака, можэ такі самы непрыхыльнік у горадзі, як і сам Міхалка,—каб хоць с сабакай адвясьці душу. І толькі пачне Міхалка заводзіць знаёмасць з ім, кінуўшы яму перад гэтым кусочэк хлеба (а хлеба не ўкраўшы ня возьмеш), як ужо братавая барабаніць у шыбу.

Міхалка ўжо ведае, што яму рабіць: ідзе ў хату і займае свой куточэк. Сам Міхалка, калі хто выпадкам запытае, чаго ён стаіць на каленках, тлумачыць так:

— Я ешчэ — „дзеравеншчына“, ня ведаю гарадзкіх парадкаў і кепска трымаю сябе. От, з мяне і выбіваюць „дзеравеншчыну“.

— А ты любіш вёску? паехаў - бы туды?

Раней чым атказаць, Міхалка баязьліва азірнецца і ціханька скажэ:

— Паехаў-бы.

Праўда, Міхалка нідаўна прыехаў з вёскі. Але гэта толькі гаворка адна „прыехаў“. Проста забралі яго сюды і ўсё, бо дома не было дзе дзецца. Бацька памёр, маці памёрла, от і забралі яго сюды. Цяпер, дзякаваць Богу, ужо нічагутка — прывык; але спачатку, дык было надта дрэнна. Сядуць бывала за стол. На малень-

кім століку каля дзьвярэй стаіць самавар; скавычэ ён на ўсе галасы або пішчыць, як тая свіньня у плоці, аж па́ра з яго верне. На стале стаіць масла; тут-жэ ў місцы лежаць цэлые кавалкі мягкай і белай булкі і такая, на яе ліха, цікавая, што Міхалка ня можэ адарваць ад яе вачэй.

— Чаго ты ўтаропіўся, як воўк на парасё?

Міхалка спускае вочкі і бярэцца за гарачую шклянку і тут-жэ борздзенька адрывае ад яе апечаную руку. Шклянка з гукам кідаецца на ісподак. Гарбата, якбы яе чэрці таўханудь, разліваецца па стале і на порткі Міхалку. Міхалка схватываецца с крэсла і стаіць, расставіўшы рукі.

— Сьвінюк ты! — чуе ён сярдзіты голас брата.

— У карыці цябе трэба карміць, — дабаўляе братавая.

Згарэў-бы ты лепей, гэты чай і гэта булка, каторая цяпер ужо і ў рот ня лезе Міхалку.

А калі абходзіцца без такога ліха, то, выпіўшы шклянку, Міхалка павінен быў падзякаваць. Тут ізноў не заўсёды абходзілася шчасьліва. Заміж „благодарю“ ляп-

не Міхалка ні к сялу, ні к гораду „дзякую“.

— Што за „дзякую“?!

Міхалка чуе, што вушы яго чырванеюць. Яму неяк саромна сказаць „благодарю“, — здаецца, ўсе яго на сьмех падымуць.

Але ўсё гэта было раней. Цяпер ён, дзякаваць Богу, навучыўся казаць „благодарю“, і „благодарыць“ і калі трэба і калі ня трэба. Ды ізноў-жэ — з адным „благодарю“ на сьвеці не пражывеш—зноў знайдзецца якое небудзь ліха. А што гэта ліха нязводзілася, то можна было бачыць хоць-бы і с таго, што Міхалка па колькі разоў ў дзень стаяў на каленках. То скажэш не так, то ступіш ня гэтак, і за ўсё пападала то вушам, то каленям. Дайшло да таго, што Міхалка марокаваў на вушы і калені. Ніхай-бы былі сабе дзірачкі ў галаве, але на чорта ешчэ гэтые храсткі? Або ногі: ці ня лепш было-б, каб яны не згіналіся? Тут Міхалка прабаваў хадзіць, не згінаючы ног.

Выходзіць, што можна.

Найгорэй было яму вясною і летам, калі сіняе неба ласкава зьвесіцца над зямлёю, як маці над калыскаю, дзе ляжыць

яе любое дзіцятка. А гэтые хмурынкі! Хто іх ведае, аткуль яны павыпоўзаюць і ідуць сабе згодненька, лёгка, такіе мілые ды прыветные. От-бы ўзяў ды сеў на іх і паплыў-бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль Сонейка так хорашэнька заглядае ў вокны. Ў садку шчабечуць птушкі. Верабейчыкі з вясёлым чырканьнем снуюць у паветры.

Міхалка доўга пазірае ў вакно. Ў канцы ў яго не хапае сілы працівіцца кліку вясны, і ён, азірнуўшыся, каб яго не затрымаў хто, ціха выходзіць на двор. Прытуліўшыся дзе небудзь каля вугла, доўга стаіць Міхалка. Ў гэтые мінуты ён нічога ня думае. Ён толькі чуе, як прыемнае цяпло песьціць яго маленькае цельца. І добра так і радасна на сэрцы. А што робіцца на душы, то гэтаго і не скажэш. Толькі часамі замігацяцца ў вачах родные зьявы далёкай вёскі, дзе Міхалку так вольна жылося, і сэрцэ неяк ападзе, як успомніць ён сваё тут жыцьцё. Там, на вуліцы, чувацъ, як тупаюць па тратуарах ногі, як грукаюць капытамі пабрукуко-ні, як шуміць і гудзе многагалосы горад.

Доўга стаіць так Міхалка. Потым, ні с таго, ні с сяго, захочэцца прабегчыся,

і ён, як куля, рванецца на двор, ганяецца за верабейчыкамі, покі братавая ня крыкне на яго, каб ішоў забаўляць Лідачку.

Ўсе чары ападаюць з яго душы, і уздыхнуўшы, нехаця пляцецца ён у хату. А тут ешчэ горэй апануюць яго думкі, ешчэ мацней пацягне яго на двор, ешчэ з большаю сілаю, ешчэ ярчэй устануць прад вачыма дзіўныя малюнкі роднай вёскі.

Дом, дзе жыў Міхалка, стаяў на краю горада. Глухаватая вуліца, на абапал каторай ляпіліся дзервяные дамы, скора выходзіла за горад, у поле. Міхалка не адзін раз выбегаў на гэту вуліцу і нюхам вясковаго чэлавека угадываў, што нідалёка тут павінна быць поле. Раз ён, выбегшы на вуліцу, адышоўся ад дому. Тут ён ужо ня мог стрымацца і пабег да таго узгорка, што вясёла пазіраў жоўтым спахам сваіх пяскоў. Міхалка ўзляцеў на гэты узгорак. У нізу рассцілаўся горад з бліш-частымі вежамі цэркваў і касьцёлаў. То там, то сям высака ў небі тырчэлі трубы фабрыкаў і заводаў, распускаючы па ветры доўгіе хвасты чорнаго дыму. А з другога боку раскінулася поле, чарнеўся лес і вясёлые пералескі; а там, ешчэ далей, чуць-



Вмолне Чего хочется „Сидеть... Дурак!

чуць выступалі с сіневатай смагі стрэхі мужыцкіх хат. І так моцна пацягнула Міхалку туды, што аж душа яго млела. І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што, каб меў крыльля, то узняўся-б і паляцеў-бы. Міхалка ўсё цікаваўся у адзін бок. Там, здавалася яму, павінна быць дарога да роднай вёскі. Божэ мой! як добра ў іх вёсцы! От, Міхалка стаіць тут, на гэтым узгорку, а яна вось-вось здаецца тут перэд самымі яго вачыма. І так ясна, як цяпер, не бачыў ён яе і тагды, як жыў у ёй. Вось высокі касагор над самым Нёмнам. Пад гэтым касагорам стаяць пахіленые старые вербы, дзе так многа калісь было ракаў. Там ляжыць зялёны луг, а за лугам цягнецца высокі і заўсёды пануры лес. Гэтаго лесу Міхалка калісь баяўся. Асабліва нешта страшнае і непрыветнае прыдаваў яму густы алешнік, што зялёным доўгім валам цягнуўся каля самаго лесу. Цяпер-жэ гэты лес быў такі мілы і жаданы, што каб прымеў, то абняў-бы яго і цалаваў. Міхалка так задумаўся, што ня чуў, як да яго падышоў брат.

— Чаго ты тут, шыбельнік? — спы-

таў брат і крэпка пацягнуў Міхалку за вуха.

Міхалка задрыжэў увесь, як злоўлены праступнік.

— Пашоў да дому!

Хлопчык, прылажыўшы руку да вуха, каторае быццым гарэла на агні, пабег да дому, ня сьмеючы зірнуць у бок.

За самавольства забаранілі яму гуляць на дварэ.

Але Міхалка не абразуміўся.

Куды там! ён задумаў такую рэч, што ўсе дзівіцца будуць. А покі што ціхачом ён рыхтаваўся споўніць тое, што задумаў. У самы глухі куток пад ложкам, дзе нават венік служанкі іх, Насты, рэдка калі зазіраў, складаў Міхалка розные прыпасы на дарогу, бо Міхалка задумаў уцекаць ад гэтуль. Тут ён запасіў з восем кусочкаў цукру, акрайчык хлеба з асушкам. Праўда, хлябок высахне, але Міхалка знайдзе ў дарозі крынічку і размочыць яго. Усе гэтыя прыпасы лежалі на газэці, каторую Міхалка цішком узяў са стала. Разам з гэтымі прыпасамі лежаў мячык і чэлавек з гумалястыкі, ў каторага трэба было толькі дзьмуханучь, каб ён загукаў, як жывы. Усё гэта Міхалка аткраў ад Лідачкі. Мя-

чык і чэлавечка ён дасць сваім сябром, бо хто-ж ідзе з горада без гасцінца? Асталося толькі пашыць торбачку, каб забраць увесь скарб с-пад ложка. А там... ад аднэй гэтай думкі лёгка рабілася на сэрцы.

А наўперад ён ешчэ па дарозі зайдзе ў тую вёску, дзе яго брат служыў летась. У гэтай вёсцы Міхалка згубіў многа грошэй—капеек пятнаццаць медзякамі. А найці іх лёгка, бо Міхалка, як цяпер, бачыць тое мейсца, дзе згубіў іх, не знайшоў-жэ іх тагды за тым, што скора перабіраліся ў горад і не было калі пашукаць, як належаць быць...

Доўга ня мог заснуць Міхалка у суботу вечэрам перад Сёмухай: заўтра рана, досьвіта, выберэцца ён у дарогу. У тых думках, што цяпер мятушыліся ў яго галаве, трудно было разабрацца... Э, ды што!

Ўстане і пойдзе; пойдзе перш да таго ўзгорка, аткуль ужо лёгка папасьці на дарогу... Скарэй-бы толькі заснуць ды ўстаць заўтра раней. Міхалка плюшчыў вочы, але сон, як сумысля, ня йшоў да яго, і толькі можэ пад поўнач заснуў Міхалка. Ня гледзючы на гэта, ўстаў ён ранютка, асьцярожна падняў галоўку, разглядзеўся, пры-

слухаўся. Брат і бratавая спалі, нават гэта жаба, Лідачка, і тая ня рушылася. Ціхенька адзеўшыся, Міхалка павольненька выцягнуў сваю торбачку, у каторую ешчэ з вечэра зложыў ён усе свае манаткі. Прыгатаваўшыся, як мае быць, ён ешчэ раз азірнуўся і, трасучыся ўвесь, паткраўся да дзьвярэй і ўзяўся за ключ. Павярнуў раз і абамлеў; ключ на яго ліха, так загрымеў, што напэўне ўсе абудзіліся. Са страху Міхалка выпусьціў з рук торбачку. Ўсё было ціха. Відаць, ніхто ня чуў. Узяўшы торбачку, Міхалка ціха скрыпнуў дзьвярмі і вышаў на двор.

Ня ведаю: ці на дабро ці на нешчасьце Міхалкі вароты на дворэ былі замкнёны; агарожа-ж была такая высокая, дашчаная, што ўляпіцца было недзе. Колькі мінут Міхалка парыўся на дварэ, шукаючы пэрэлазу. І ня думаў ён ніколі, што гэтае здарэньне папсуе яму ўсю справу! Можэ-б і пералез як, але на бяду трэба было як раз цяпер выйсьці на двор яго брату!

Міхалка думаў, што ўжо яму будзе цяпер канец — так крэпка лупіў яго брат.

І што ты зробіш, калі не шанцуе? Міхалка, як і наўперад, жыве ў горадзі і тольکі тым і цешыць сябе, што тагды напэўне будзе яму палёгка, як выб'юць з яго — „дзеравеншчыну“.

---

# Адгукнуўся.

Ноч была цёмная, ціхая, цёплая. Ні месяца, ні зорак зусім не было відаць. Праўда, ў гэту ноч месяц і не падымаўся; можэ і ён пёк сабе дзе-небудзь пірагі і бабкі к Вялікадню, повярнуўшыся сьпіною к зямлі. А што належыць да зорак, то яны хаця і былі на небі, але пазакрываліся хмарамі. Можэ яны там мыліся ды прычэсываліся — іх дзявочая справа. А ўрэшці ці ня ўсё роўна? Толькі-ж усюды было ціха. І усё пазірала не так, як заўсёды. Неба і земля абняліся у змроку і маўчалі. Калі-не-калі на зямлю спадала колькі капеляк дожджыку. Здавалася, што хмарка не магла стрымацца, каб не шэпярнуць чагось прыемнаго маладой зялёненькай траўцы і маладзенькім лісточкам на дрэвах, каторые ешчэ нясьмела выглядалі с сваіх калысачэк на Божы сьвет.

У сяле так сама было ціха. Там і сям па хатах сьвяціліся вокны. У двух ці у трох хатах за сталамі сядзелі старые мужчыны і сьпевалі. Так вядзецца з даўных часаў. У ноч перэд Вялікаднем зьбіраюцца старые мужчыны у хаты і там сьпеваюць сьвятые песьні аб пакуці Хрыста, покі бацюшка ня кончыць і не пасьвенціць пірагоў, бабак і скораму. Самы набожны і самы пісьменны селянін сядзіць на покуці, а другіе абапал яго і спеваюць. Часамі мужчыны зьбіваюцца з голасу і сьпевы не ладзяцца.

— Ты, Андрэй, ня гэтак вядзеш, — знаходзілі зараз-жэ вінаватаго.

— Як-то ня гэтак? Вы спытайцеся у Пранціся. Гэта вы зьбіваецеся. Во як трэба.

І Андрэй паказываў, як трэба...

Мужчыны выслухоўвалі Андрэевы сьпевы. Падтрымоўвалі яго старану. Сьпевы зноў наладжываюцца, зноў сьпеваюць згодна, і нота іх сумнай песьні вылетае на вуліцу і, зліўшыся с цішынёю ночы, замірае.

А цэрква поўна народу. Плашчаніца, абстаўлёная маладымі ёлачкамі і залітая блескам капеечных сьвечак, стаіць пасярэ-

дзіне цэрквы. Дзяцюкі чытаюць „Дзеянія св. апосталаў“ на пераменку. Усякаму хочэцца паказаць свой голас, і не адзін пасьля змены пытае:

— А я, як чытаў?

Зацісьнуты народам, прыпёрты у куточак, стаяў селянін Лукаш Глузд разам з другімі у цэркві. На душы было спакойна і лёгка. Ён часамі кідаў погляд на цэркву. Здавалася усе былі вясёлы, давольны і радасны. Людзі прыходзілі, кленчылі каля плашчаніцы, білі паклоны і маліліся. Пахла сьвечкамі і маладымі ёлачкамі. Стоючы тут у гэту ноч, забываў Лукаш пакуту і ціжар свайго жыцьця, сваю горкую бядоту і галоту. І ў Лукашовым сэрцы абудзіліся думкі і ўспомніў ён далёкіе гады свайго дзіцячаго жыцьця. Як лёгка тады жылося на сьвеці! Ні аб чым не балела душа. Як радасна ён сустрэчаў, бывала, Вялікдзень! Як вясёла бегаў с сябрукамі па валачобнаму! А гдзе цяпер яго сябрукі? Іншые, як і ён, даўно пажаніліся, цягнуць гэтае самае ярэмцэ, што цягне і ён, а іншым Бог даў спосаб выбіцца у людзі. Э-эх! Уздыхае Лукаш. Думкі патхапілі Лукаша, моцна узяўшы яго пад сваю абладу, і панясьлі далёка-далёка у той сьветлы

рай успамінаньня, на каторы, як нехта сказаў, кожын з нас мае права, і с катораго нас ніхто ня выкіне. Думаючы так, Лукаш забываўся, дзе ён, і крок за крокам азіраў сваю прошласць.

У гэтай самай цэркві стаяў ён перэд труною свайго бацькі і мацеры; тут-жэ стаяў ён с сваею жонкаю, і над імі трымалі вянцы... І былі мамэнты, калі ў Лукашову душу ўлівалася нейкая горэсць і туманіла яе, якбы яго хто крэпка хапаў за самае сэрцэ. Гэта была сьвядомасць утраты чагось добраго, мілаго, харошаго, далёкаго. Лукаш моцна праводзіў рукою па твары, каб адагнаць гэту гаркату. І раз узварушыўшыся пабеглі гэтай дарогай Лукашовы думкі. Каб адагнаць іх, Лукаш хрысьціўся, ўспамінаў пра Хрыста, пра яго пакуту за людзкіе грахі. Толькі-ж, сам таго ня хочучы, Лукаш зноў думаў аб сваім жыцьцю. А гэтые плыты! Вось дзе ешчэ сабачы заработак! Тры тыдні стаіць яго плыт на адным мейсцы. А ён думаў да Вялікадня загнаць яго у Коўну. Ды дзе там? Вада, як морэ.

А дзяцюкі чытаюць, цягнуць голасам і тым даўжэй, чым горэй хто разбірае славянскі друк. Тымчасам падышла і поўнач.

Народ прыбывае і прыбывае. Пачалася адправа. Бацюшка адзеў сьветлые рызы. Нават і ён сягоньня весялейшы і здаецца лагаднейшым. Зноў Лукашу робіцца лягчэй. Пеўчые на кліpaci стараюцца з усіх сіл. І натоўпілася іх там колькі! Потым пашлі с працэсіей кругом цэрквы. Лукаш бачыў, як да аднэй харонгі сунуліся Гаронім Дзежка і Язэп Чупрына. І таму і другому хацелася несьці харонгу. Бачыў Лукаш, як абодвы мужчыны паляпіліся рукамі, покі Язэп, як часьцей ходзючый каля бацюшкі, ня вырваў у Гароніма харонгу і панёс. Лукаша змарыў сон, і ён заснуў. І ў той час, як народ хадзіў кругом цэркві, Лукаш сьніў сон. Прысьніўся яму праклíты плыт. Вот, здаецца, Лукаш стаіць с прысам на галаве плыта, а Піліп—заднік, яго памочнік, завіхаецца на задзі. Вады чуць-чуць тоўпіцца ў берагох і плыт плыве па ёй лёгка, як трэска, толькі ў нартох звіваецца ён, як вужака, скрыпяць лаўкі, і плыт борзда-борзда бяжыць за вадою.

Працэсія вярнулася у цэркву, і зноў началося маленьне. Вось выходзіць з аўтара бацюшка с трысьвечнікам, кланяецца народу, віншуе яго і радасна кажэ:

— Хрыстос ўваскрос!

Тут толькі прымеціў Янка Бязногі, што Лукаш, с каторым Янка стаяў поплеч, сьпіць. А Лукашу ў гэты момэнт сьнілася, што яго плыт крута заламала ў бераг. „Дам казла! дам казла!“ думае у ва сьне Лукаш і кідае апачыну, хапаецца за прыс.

У гэты момэнт Янка Бязногі пачаў штоўхаць Лукаша пад бок.

— Лукашка! Лукаш! Хрыстос уваскрос! прачніся, адгукніся! Хрыстос уваскрос! — Лукаш не прыйшоўшы ў памяць, лыпнуў вачыма і, думаючы, што ён ешчэ на плыце, загаманіў на ўсю цэркву:

— Пініп! Кідай шырыгу!..*)

---

*) Шырыга—гэта прылада для кіраваньня плытам.

# Бунт.

## I.

Нешта трывожнае і потаённае рабілася ў вёсцы. Мужыкі зьбіраліся ў кучкі, спорылі меш сабою і талкавалі. Як толькі паяўляўся старшына ў гэту кучку, яны змоўкалі, або пачыналі гаварыць аб чым небудзь другім.

Вечэрамі мужыкі зьбіраліся ў крайнюю хату дзеда Юркі. Гэта быў самы стары чэлавек у вёсцы, яе жывая кніжка. Дзед нікому не баяўся сказаць у вочы праўду; на усіх, навэт на земскаго начальніка казаў ён „ты“. Раз на судзе у валасным праўленьні земскі сказаў на дзеда, як дзед рэзнуў яму адну праўду:

— Гэта цябе не касаецца, стары бацук!

Гневам заблішчэлі старые вочы дзеда:

— А што, брат: не так баліць, як сьмярдзіць?

І памаўчаўшы, дабавіў з гневам, глянуўшы на вусы земскаго:

— Ой, падла, хрушч, жабіны начовачкі! — Плюнуў дзед і вышаў с канцыляры і.

Сабраўшыся ў хаці вось гэтаго Юркі і закурыўшы люлькі, мужыкі садзіліся каля стала, над каторым смутна блішчэла лямпа. Дзед сядзеў на лаўцы каля печы. У пячурцы лежаў яго капшук с тутуном і крэсіва. Вакруг дзеда круціліся ўнукі. Некольki мінут у хаце панавала цішыня. Толькі дым ад люлек звісаў пад стольлю, хрыпеў часам чый - небудзь цыбук ды стукаў хто люлькаю аб кіпець, выбіваў з яе попел.

Гутарка йшла аб зямлі, аб цяперашнім уціску народу.

Сцёпка Ляўшун у гэтых справах быў самы дук ў ваўсім сяле. Гарою стаяў ён проці крыўды обчэства і на сходах быў першы праціўнік начальства, Ня любілі яго ні пісар, ні старшына. Нават сам земскі наводзіў часта спраўкі у старшыны пра Сцёпку Ляўшуна. Адным словам, гэта

быў чэлавек „падазрыцельны“. І поп не раз казаў:

— Да, Ляўшын врэдны чэлавек. Ды і народ з яго ласкі стаў не такі, як быў раней: нядобрае ён нешта замышляе; пазірае ваўком і гаварыць с табою ня хочэ. Трэба пазіраць за ім.

— А вот у мяне ёсць свежы, лісток, казаў той самы Сцёпка сабраўшымся мужыком і даставаў з-за пазухі праклямацію.

Мужыкі цесным кружком садзіліся каля Сцепана. Лямпу зьнімалі на стол і ставілі яе ў гаршчок. Лісток чыталі доўга. Многа было ў ім непанятнаго для мужыкоў. Былі там такіе словы, каторые яны ніколі ня чулі.

— А праўда! — казалі мужыкі, як лісток дачытываўся ўвесь: у нашай, напрыклад, воласьці шэсць обчэств, а каб памерыць нашу зямлю, то у нас яе будзе пэўне меней, як у дварэ:

— Меней! — смеяўся Сцепан: у нас усяго 3 тысячы маргоў, а у пана — 27 тысячаў! Гэта я добра ведаю.

— От ты і шукай праўды.

— Шукай — найдзеш!..

Далей мужыкі гаварылі аб тым, як

цяпер трудна ім стала жыць; што дваровае поле, як падкова, акружылі іх благіе палеткі і што нема як і кроку ступіць, каб не папасьці ў панскіе лапы.

— Эгэ! — круціў стары Юрка сівою галавой, — а я, нябогі, ешчэ сам, як быў маладым хлопцам, пасьвіў быдла пад Дубамі. А ў затоках, што цяпер арэндуе старшына і царкоўны стараста, ўсё сяло лавіла рыбу. А рыбы, рыбы было!..

І дзед не раз гаварыў пра зямлю пад Дубамі, пра заплавы на рэчцы, каторые калісь-то належалі да мужыкоў.

Мужыкі слухалі, і злосьцю і зайздрасьцю гарэлі іх вочы.

## II.

— На начлег сюды мы езьдзілі, — гаварыў стары Юрка, ходзячы раз у сьвята з мужыкамі па полю, — каней тут пасьвілі. Пад гэтымі старымі дубамі агонь калісь-то клалі. І дзед прыглядаўся на зямлю, якбы шукаў даўнейшаго вогнішча, каб патцьвярдзіла яно яго праўду. Але не было ніякаго знаку: пяцьдзесят панскіх ніў выраслі ўжо на гэтым полі.

— Сьмех і песьні хлопцаў і дзеўчат будзілі некалі начны спакой гэтых палёў. Увесь кавалак аж да Сярэдніх Дарог засевалі нашы мужыкі... — даканчываў дзед сваю мову.

Мужыкі хадзілі с хмурнымі тварамі і мерылі шырокімі крокамі поле, каторае належала цяпер да двара. Яны астанаўляліся, радзіліся, шукалі спосаб вярнуць назад сваю зямліцу.

— А вы вось шчэ пахадзілі-б па полі, — сьмеяўся з іх дзед: можэ што і выхадзілі бы.

— А што-ж ты кажэш рабіць? -- пыталіся мужыкі.

— Мне ня трэба зямлі. Я, брат, — у вырай скора; досі тапталі мае ногі сырую зямлю. Вунь гдзе мая земля! — і стары Юрка паказаў рукою на могілкі с трухлявымі крыжамі, што сіратамі стаялі ў полі, як і самі могілкі, абкопаные невысокім пешчаным валом.

Раз, ужо ў позную восень, грамада мужыкоў прываліла ў школу. Сцепана выбралі дэпутатам і атправілі яго да вучыцеля.

— Пане вучыцель, — пачаў Сцепан, прышоўшы на кватэру вучыцеля: мы маем

да вас просьбу. Ніколі вы нам кепскаго не рабілі і кажыце нам адну толькі праўду. Напішыце вы нам пэтыцію (прашэньне) да пана. Самі мы малаграматные, а прасіць, апроч вас, німа каго: поп запужае нас пеклам, пісар — казакамі.

І Сцёпка расказаў, ў чым іх просьба.

— Вось паглядзіце на плян, калі не праўду мы гаворым.

Сцёпка дастаў с-пад кажуха бляшаную качалку, ў каторай быў плян і ўсякіе дакумэнты.

— Праўда: па пляну—земля ваша, — сказаў вучыцель, — толькі, браце, ня ведаю, ці паможэ вам гэта пэтыція. Гэта выйдзе ні больш і ні меньш, як стрэляньне вараным гарохам у цэглянную сьцяну. А вы с панам нічога, не гаварылі аб гэтым?

— Як не гаварылі? гаварылі. Першы раз нам сказалі, што пана німа ў хаці, другі раз пан сказаў, каб прышлі іншым разам; а трэйці раз як прышлі, пан накрычаў, нашумеў — не баяўся: казакаў было повен двор — і, паказаўшы сваю панскую спіну, ён схаваўся ў пакоях. Вось і ўся наша гутарка с панам.

— Ну, то добра. Я напішу вам; прыходзьце вечарам — патпішыцеся.

— Дзякуем вам, пане вучыцель!

У вечар, як рой пчолаў, гудзелі мужыкі ў школі. Яны прышлі ўсім сялом паслухаць, што напісаў вучыцель, і патпісаць пэтыцію. Вось, коратка, гэта пэтыція

„Вам (пану) павінна быць ведама, што робіцца цяпер у Расеі. Ліецца кроў, гараць панскіе палацы... Людзям німа куды дзевацца, німа чаго есьці, і яны пашлі адбіраць ад паноў тое, што паны адабралі ад іх. Мы ня хочэм грабіць і паліць, каб чужою крывёй і слязьмі купіць сабе шчасьце; ня хочэм браць чужога, а трэбуем ад вас таго, што вы ўсякімі канцылярскімі кручкамі адабралі ад нас: 1) вярнуць назад зямлю ў вурочышчы Дубы, каторая, як значыцца на пляні, належыць да нас; 2) вярнуць права карыстаць з рэчкі: лавіць рыбу, зьбіраць чарот і т. д.

Чэкаем скораго і пэўнаго атказу...“

— Добра напісана! — хвалілі мужыкі.

І мазалістые рукі з вялікім трудом пісалі фаміліі сваіх уладзельцаў. Крывые потпісы мужыкоў занялі ўвесь ліст паперы.

— Як пазволіць пан лавіць рыбу, дык тагды панічу будзе рыбы, колькі паніч захочэ! — казалі мужыкі вучыцелю.

## III.

Прачытаўшы пэтыцію, пан не дрэмаў. На тройцы каней панёсся ён у вуездны горад П. проста да маршалка. Ўсё начальства паднялося на ногі. Паклікалі паліцмэйстра, спраўніка, земскаго начальніка, прыстава, казацкаго афіцэра. На гэтым ваенным савеці-радзе нашлі, што мужыкі бунтуюцца. Казацкі афіцэр навёў спраўкі, колькі ў вёсцы мужыкоў. Расчытаўшы, што адзін казак „у пяць мінут можэ забіць дваццаць пяць мужыкоў", ён сказаў, што для „усмірэння" мужыкоў досыць будзе дваццаці казакаў. Спраўнік паслаў у вёску выведаць, хто пісаў пэтыцію.

Нічога аб гэтым ня ведалі мужыкі і ўсё чэкалі ад пана атказу. А як пан атказу не пасылаў, то мужыкі, ўважаючы, што закон яны споўнілі, сабраліся ізноў і напісалі прыгавор лавіць рыбу ў тых затоках, каторые па пляну належалі да іх. Узваліўшы на сані невад, чалавек дванаццаць мужыкоў пад камандаю Леўшуна паехалі на рыбу. Як на грэх, лоў быў шчасьлівы. Пападаліся найбольш ліны і шчупакі... За высокім сухім чаротам нічога не бачылі рыбакі. Толькі

што яны выбралі рыбу з апошняй тоні, бачуць — лятуць на іх казакі ў высокіх касматых шапках. У бедных „бунтароў“ і люлькі павыпадалі з зубоў на лёд, адна нават укінулася ў палонку.

— Кладзі невад на сані! — крыкнуў адзін казак.

Пакорна споўнілі мужыкі гэта прыказаньне, худая кабылка цягнула мокры невад і цэбар з рыбаю, а мужыкі, апусьціўшы галовы, ішлі за возам, падганяные казацкімі нагайкамі.

Бедных мужыкоў вялі церэз сяло. Дзеці галасілі на ўсю вуліцу; бабы прычытывалі, як па нябошчыках. На другіх санях, на абапал каторых ехалі конна казакі, сядзеў вучыцель. На ім было халоднае пальто і летняя шапка.

— Вось і рыбы налавілі, і на санях, як губэрнатары, пад ахранай павозімся, жартаваў вучыцель, каб разьвесяліць кампанію, а сам такі бледны, і горэ сьвяцілася у кожнай яго жылцы...

. . . . . . . . .

. . . . . . . . .

. . . . . . . . .

---

# Малады дубок.

I.

— Ну, і людзі! — гаварыў сам сабе Максім Заруба: — ну, ўкраў, ну, сьсек, хай цябе ліха сячэ; ды не рабі-ж ты на зьдзек чэлавеку, не рабі так, каб кожнаму кідалася ў вочы твае зладзейства, гіцлю!

Максім старанна аглядаў сьляды недаўнай кражы ў яго абходзе. Высокі, ў палавіну чэлавека, дубовы пень ясна выдзеляўся сярод дзерэвяк і сьвяціў сваім сьветла-жоўтым верхам і сьвежымі трэскамі вокал, а шырокая, разложная верхавіна і атсечаные сукі пазіралі так невясёла, так сумна, бы тые пакінутые бацькам дзеці. Зірнуўшы ў гару, Максім угледзіў маладую бярэзінку з абламанымі галінкамі.

Гэта дуб, звалены безжаласным тапаром, кідаючыся, чапіў яе сваімі крэпкімі сукамі.

У лесі было ціха і маркотна, толькі ў гары стаяў глухі шум старых хвой і ялін. Высокіе асіны і бярозы прылучалі зрэдка і свой голас да гэтаго шуму, як часамі дужэй падыхаў сыры халодны вецяр і варушыў іх голае вецьце. На гэтым мейсцы, дзе рос дуб, мала назначылася прастору, і маладые высокіе елкі ўжо разгарнулі свае кашлатые зялёные лапы і занялі мейсцэ дубу. Так і за сталом жыцьця, дзе сядзіць цесная людзкая семья, ня пустуе мейсцэ выхвачэнаго сьмерцьцю семяніна.

Максім трывожна азірнуўся вокал, зьняў з-за плеч сваю старасьвецкую стрэльбу і паставіў каля хвоі; дастаў з-за пояса сякерку і пачаў заметаць сьляды неўпільнаванаго злодзея. Ён ацерабіў верхавіну, пасьцягаў сукі ў гушчар, сьсек пень каля самай зямлі, завалок яго далей ад дарогі, пад вывараць, а тое мейсцэ, дзе быў пень, закрыў зялёным мохам. Максім сам у гэту мінуту быў крыху злодзеям. Але яму больш нічога не заставалася рабіць, як прыкрыць след гэтай кражы, каб самому не нагарэла ад лясьнічаго. Кончыўшы работу, Ма-

ксім адышоўся крыху і азірнуў сваю працу, ці німа ешчэ якога знаку, па катораму можна было-б замеціць, што тут украдзены дуб. Усё было прыбрана гладка, але Максіму здавалася, што варта толькі зірнуць аб'ешчыку, каб адразу прыкмеціць, што не хватае аднаго дубу. А можэ аб'ешчык раней яго агледзіў гэты недагляд, і ўжо вядома ў лясьніцтве аб гэтай пакражы.

— І выбярэ-ж часіну, паганец! — зноў разважаў с сабой Максім.

— Ну, каб папаў! Гужы, лейцы — усё пасек-бы.

Максім ніяк ня мог супакоіцца. Ен вышаў на дарогу, куды вёў сьлед ад калёс. Але далей трудна было разабраць, куды ён пашоў: ці мала едуць па дарозі ва ўсе канцы? Максім пастаяў, патупаў, якбы разьбіраючы важную справу. На душы ў яго было цэлае пекла. Злосьць на таго, хто сьсек дуб, хто як сумыслу, як на зьдзек яму зрабіў гэту кражу, ніколечкі не клапоцячыся схаваць канцы; далей—страх перад лясьнічым, страх за страту куска хлеба: даўно ўжо капаецца пад яго аб'ешчык, не раз дакляровываў яму лясьнічы пра-

гнаць яго з мейсца. Ўсе гэтые думкі і пачуваньня і рабілі тое пекла, што было на душы Максіма.

— І хто-ж бы мог зрабіць гэта? — Максім пералічыў колькі гаспадароў з вёскі, каторые былі ў яго ў вялікім падазрэньні. Але, не злавіўшы, не кажы, што злодзей.

Максім ешчэ раз прышоў на тое мейсцэ, дзе рос ешчэ ўчора прапаўшы дубок. Як дарагі нябошчык, стаяў ён у вачах беднаго лясьніка. Прыкрыўшы камель яловымі лапкамі, Максім памалу пасунуў лесам.

Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч ня меў Максім супакою. Нават есьці не хацелася яму. Нейкі страх і трывога душылі яго. Кінуцца за весьніцы на дарогу сабакі, забрэшуць на каго, ці так што здаецца іх сабачаму розуму, Максім чуў, як у сярэдзіне ў яго нешта траслося, і яму здавалася, што гэта пэўна ідзе Марцін с каморы ад лясьнічаго з наказам зьявіцца ў кватэру. Але сабакі, пабрэхаўшы, змаўкалі, і патрывожэная ноч ешчэ цяжэй наседала на халодную сырую зямлю, і ешчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес.

Старая верба, стоячы над самай хатай, шумела і хвастала галінамі па стрэсі і як на зло Максіму гаманіла пра пакражу.

Стукне вецяр у ваканіцу, Максім увесь пацепаўся: яму думалася, што гэта лясьнік, ці аб'ешчык.

## II.

Андрэй Плех даўно ўжо меў сабе на прымецці дубок у лесі. Ешчэ летам, соваючыся с каробкаю па грыбох, насунуўся ён на гэты дуб. Як чэлавек, катораго агарнулі грэшные жаданьні, Андрэй наўперад азірнуўся і пачаў агледаць важнецкае дрэва. Высокае, роўнае, выноснае, як точэнае, яно, здавалася, сумыслу тут выросла на пакусу чэлавека. „А пся кроў яго“, цмакаў Андрэй: — „от былі-б восі! А якіе хвацкіе вышлі-б паліцы на сохі!“ (Андрэй быў майстар па часьці сох). Да не так-то лёгка ўхопіш яго тут: сьсячы, пападзіся, — такі табе штрап закоціць земскі, што і кароўкаю не адапхнешся. І Андрэй, ешчэ раз акінуўшы вокам дубок, ўздыхнуў і паплёўся дамоў. На ўсякі выпадак ён за-

меціў гэта мейсцэ. Скора пачалося жніво, і Андрэй забыўся аб дубку, але як на грэх, у яго колах разышліся сьпіцы. Трэба было думаць, як справіць новыя колы. На калодкі і вобады Андрэй меў пра запас бярэзіну, добрую, баравую, чачоткаватую бярэзіну с казённага лесу. Гэта Мікола Сіняўскі ўдружыў яму. А дзе-б узяць дубінкі на сьпіцы? І адразу ў яго вачах стаў малады дубок, што бачыў у лесі, зьбіраючы грыбы. Бадай ня кожын дзень думкі Андрэя вярцеліся каля гэтага дубка. Кепска толькі, каб яго качкі, калі пападзешся з ім. У сваім жыцьцю Андрэй кіраваўся прыказкаю: „Не бяры чужога і не бойся нікога“. Але во прыпёрла так, што прыходзілася касаваць гэты мудры кірунак. Праўда, што ў лесі красьці ня грэх. Гэта ня тое, што залезьці да чэлавека ў хату. І хто ў лесі ня злодзей, той у дому не гаспадар. Лес — Божы — Бог яго росьціць і Бог гадуе. А князя чорт ня возьме, калі ён, Андрэй, сьсячэ адзін дубок. Так разважаў вечэрамі Андрэй, пыхкаючы люльку.

Раз, пад вечар — гэта было ў нядзелю — Андрэй ішоў з места. І так неяк зрабілася, што ногі Андрэявы самі пашлі

па тэй дарозі, каля каторай стаяў гэты шальмоўскі дубок. Андрэй ня мог стрымацца, каб не даведацца свайго даўнейшаго знаёмаго. Лес быў ужо саўсім бяз лісцьця, і малады дубок выгледаў цяпер ешчэ раўнейшым, ешчэ прыгажэйшым.

— Ах, злодзей! — гаварыў, цешучыся, Андрэй і агледаў дубок.

Ідучы дамоў, Андрэй вылічаў, калі схадней яго сьсеч. Квадра месяца пры гэтым стаяла у Андрэя на першым пляні. Праз колькі дзён будзе маладзік. Ось тады ён і зызьне яго.

Якраз прад Усімі Сьвятымі, натачыўшы сякерку, Андрэй шэптаў свайму сыну:

— Запражэш каня і пад'едзеш пад Доўгі Лужок. Я буду там чэкаць цябе. Ды глядзі, калі хто спытае, куды едзеш, скажы — па каноплі.

Андрэй выбраў такіе сьцежкі, дзе-б яго ніхто не спаткаў: асьцярога не пашкодзіць, і ішоў, прыгнуўшы галаву. Аднак чым бліжэй патходзіў ён да лесу, тым большы чуў ён страх. А змрок густы, халодны, няпрыветны, нярухома аблегаў зямлю. Ціха, глуха. Хоць-бы дзе зык чэлаве-

чага голасу. І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Почуваньне маркоты і адзіноты агарнула яго. Андрэй азірнуўся назад, на сяло. Скрозь цемрадзь прыветна свяціліся вокны мужыцкіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі. Там сядзелі людзі, і на душы ў іх была згода. Толькі ён, як злодзей, крадзецца адзін скрозь гэты змрок, прыхільнаго хаўрусьніка кожнаго злодзея. Андрэй пачынаў каяцца, што выбраўся на гэту справу. Лепш-бы паставіць кварту за кусок дубіны—і сам выпіў-бы чарку і быў бы сьмел і спакойны. І яму хацелася, каб хто перашкодзіў яму цяпер, каб мець законнае права вярнуцца дамоў. Так было на душы Андрэя; ногі яго ўсё несьлі і несьлі ў гэты страшны, пануры лес, дзе цяпер так цёмна і жадусна. Ешчэ гусьцейшы і цяжэйшы змрок апрануў Андрэя, як ён уступіў у лес. Падышоўшы с поўвярсты, Андрэй спыніўся. Во тая хвоя з вехаю, ад каторай трэба ступіць колькі крокаў направа. Патупаўшы, Андрэй сяк-так намацаў гэты дубок, катораго старажыў ня толькі Максім, а ешчэ пільнавалі і другіе старажы, каторые былі ў самым Андрэю — страхі. Андрэй прыслухаўся. Лес маўчаў. Можэ ён зацікаваўся, што будзе

рабіць тут гэты чэлавек, чаго ён прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да сьмерці, сон. І было штось страшнае ў гэтым нямым спакою лесу, і гэты страх перэдаваўся Андрэю: ён стаяў ціха, баяўся кашлянуць і павольна адводзіў яловые лапкі. Калі-некалі жалобна шорхаў сухі, завяўшы ліст, адрываючыся з дзерэва і кідаючыся на сыры дол.

— Ну, што будзе, то будзе.

Андрэй узяў сякеру, хацеў перахрысьціцца, ды стрымаўся: гэта справа не сьвятая, і ён не адважыўся прызваць на помач Імя Бога. Сякера высака паднялася ў гару, і пачуўся першы стук. Вострая сталь глыбака ўрэзалася ў маладое дрэва, і гэты першы зык быў падобны да цяжкога, адрывістага кашлю, каторы вырываўся з глыбіні надарваных грудзёў сухотніка.

Андрэй, секануўшы раз, атскочыўся ў бок і на момант замёр, прыслухаючыся. Але кругом было так сама глуха і ціха. Зноў узляцела сякера і пашла латашыць усё часьцей і зласьней. Скора адна палавіна дубка была патсечана; Андрэй зайшоў з другога боку. С кожным узмахам сякеры дуб слабеў і хістаўся, дрыжэў го-

лымі сукамі і ўсім сваім целам. Во ён чуць пахіліўся, абамлеў і, здавалася, агледаў мейсцэ, дзе-б упасьці. Андрэй упёрся рукой і таўхануў яго. Голые сукі крануліся сукоў суседніх дзерэвак, якбы жэгнаючыся з жыцьцём, зачапіліся на момант і, аслабеўшы, асунуліся і маладое дзерава цяжка ўпала, застагнаўшы, на зямлю. Андрэй адышоўся і зноў стаў слухаць. Адмерыўшы чатыры тапарышчы па камлю, Андрэй з нейкаю злосьцю стаў атсекаць кавалкі дубу. Атсекшы кавалкаў шэсьць, ён пазнасіў іх на дарогу. Спадалёк пачуўся глухі стук колаў аб карэньне. Андрэй пашоў на спатканьне сыну.

III.

Ешчэ ніколі не зазнаваў Андрэй такога клопату, як цяпер. Не дарма гаворуць людзі: „Хто украў парасё, таму і ў вушох пішчыць“.

Прывёзшы да хаты шэсьць кавалкаў дубу, Андрэй да часу паскідаў іх на старану, дзе лежала ешчэ немалочанае жыта і салома. Прызнацца, Андрэй нават не рад быў, што сьсек гэты дубок: мала што мо-

жэ стацца! Быць ня можэ, каб хто не бачыў, як ён пхаўся ў ночы з лесу. А языкі ў людзей доўгіе... Пад уплывам гэтых думак Андрэй быў неспакойны: спаў кепска і часта абуджаўся, прыслухіваўся, што робіцца на двары.

Кожны грук, шум, аброненае кім на вуліцы слова прымушалі трывожыцца і думаць, чорт ведае што. І якая гэта схованка — гумно? Усякі дурэнь першым дзелам паткне туды свой нос. Тут Андрэю прышлі на памяць тые здарэньні, калі ў гаспадароў знаходзілі дубкі, бярэзінкі і ўсякіе падобные рэчы якраз у гумнах... Трэба перэхаваць і чым скарэй, тым лепей,— покі не ўзялі ешчэ тропу.

— Што гэта, Андрэй, на цябе сягоньня сну німа?—пытала жонка.

— Так ня сьпіцца.

І, памаўчаўшы, Андрэй сказаў:

— Ведаеш, я ўсё думаю, каб не агледзіліся гэтаго дубка.

— Можна-ж схаваць так, каб не знайшлі.

— Ось і я гэта думаю: ў гумне якая схованка? А дзе схаваць?

— Схаваеш заўтра—будзе часу. А цяпер сьпі.

Жонка адвярнулася да сьцяны, і праз мінуты дзьве заіграла носам. А Андрэй ешчэ доўга лежаў з аткрытымі вачыма і развважаў. Страшные думкі лезьлі ў яго галаву. А што, калі хто удасьць яго? Прыдзе вураднік, стражнікі з аб'ешчыкам і лясьнікамі, зробяць вобыск і напэўна знойдуць у яго дубок. Зноў Андрэю ўспаміналіся падобные здарэньні. Моташна рабілася ад гэтых думак. Андрэй усунуўся ў шляпакі, накінуў на плечы кажух і вышаў на двор. Божэ, якая цёмная ноч! Здавалася, неба блізка-блізка нахілілася к зямлі і цiснула яе сваім густым і цяжкім змрокам. І ўсё вокал было так глуха, так нема, ўсё роўна як закамянела, або вымерла. Андрэй зірнуў у той бок, дзе быў лес. Яго аж скалахнула: здаецца, цяпер каб і золатам абсыпалі яго, ён не пашоў-бы туды; як тольькі хапіла ў яго адвагі ісьці туды, ў такую цемраж! У сяле было так сама ціха і глуха, нават сабакі і тые ўсе змоўклі; відаць, і яны чулі гэты страх магільнай цішы і не адважываліся зрабіць між сабой пярэклічку. Толькі ў Яхіма хлявушку заблеяла жаласна ягнятка, згубіўшы сваю матку, і заразжэ пачуўся кароткі атказны воклік старой авечкі: „Ідзі да мяне!“ ды часамі

ў сьвінушніку ціха стагнала праз сон сьвіньня такім змарнелым, стамлёным галаском, ўсё роўна якбы ёй заставалася тры цьверці да сьмерці.

Андрэй пастаяў, паслухаў. Гэта маўчалівая і страшная ноч не дала яму ніякага атказу, і ён пашоў у хату.

„Сягоньня ешчэ можна быць сьмелым, думаў Андрэй, кладучыся на палок і ўкручываючыся ў дзяругу. Покі тое ды сёе, то ешчэ ёсць часу схаваць, а цяпер можна спаць сьмела“. Але Андрэй лежаў ешчэ с паўгадзіны і думаў, як хітрэй схаваць дубкі. На гэтых думках Андрэй і заснуў. І прысьніўся яму сон. Здаецца, прышоў лясьнік, Максім Заруба, ў чыім абходзі ён высек дубок. Прышоў ня злосны, як можна-б чэкаць, а надта маркотны. Твар яго быў белы, якбы вымазаны мукой.

Адабраў, брат Андрэй, ты ад мяне кусок хлеба!—сказаў Максім,—ад цябе я гэтаго не спадзеваўся.—Сказаў, і невядома дзе дзеўся.

Андрэй стаяў, як аглушэны. Хацеў сказаць слова—язык не варушыўся; хацеў бегчы за Максімам—ногі ня слухалі. І, цяжка застагнаўшы, Андрэй абудзіўся.

Ноч, доўгая, жудасная, трывожная ноч,

ешчэ цяжка аблегала зямлю. Толькі што атсьпевалі другіе пеўні, і сяло ўсё ешчэ спала цяжка і глыбока, Андрэй лежаў і тросься — так узбунтаваў яго гэты сон, і такі ён быў ясны, жывы і страшны. Трудна выказаць, што рабілася цяпер на душы у Андрэя. За ўсе тые часы, як ён убачыў гэты праклятый дубок і аж да цяперашней мінуты, Андрэй ні разу не падумаў аб тым, што цяпер яму прыснілася. I ня было прычыны так думаць: ці мала людзі крадуць у лесі? Каб за кожную неўпільнаваную кражу ў лесі выганялі лясьнікоў, то і лясьнікоў ня было-б на сьвеці.

I чаму-ж ён прысьніўся і прысьніўся так ня добра? Цяпер Максім ні на адзін момант ня сходзіў з вачэй Андрэя. Андрэй успомніў, што яны з Максімам калісь сябравалі, разам гадаваліся, разам былі на прызыві і ў адзін год жаніліся, і ўжо потым разышліся, разышліся не з-за якога ліха, а так — проста, разлучыліся; а сходзіліся — кожны з іх мог сьмела паказаць вочы адзін другому. I Андрэй першы раз пачуў, што нейкая сьцена вырасла ў гэту ноч між ім і Максімам. Андрэю было чагось шкода. Чаго? ён і сам ня ведаў.

Гэта была цяжкая і неспакойная ноъ у жыцьцю Андрэя.

IV.

— Ну што ў цябе чуваць? — Парубкі ў лесі німа?

Максім пачуў, што па сьпіне ў яго запоўзалі мурашкі, і нейкі холад прабег па ўсім яго целі. Маленькае замешаньне, і Максім цьвёрда сказаў:

— Усё ў парадку.

— Ў парадку? Ну, то хадзі-ж, я табе пакажу, які ў цябе парадак.

Сказаўшы гэта аб'ешчык, сярэдніх гадоў чэлавек, правая рука лясьнічаго і пярвейшая шэльма, скрыва і злосна зірнуў на лясьніка і павёў яго ў лес. Максім увесь задрыжэў. Залажыўшы рукі за сьпіну і крэпка сьціснуўшы стрэльбу, ён моўчкі ішоў за аб'ешчыкам. Ён добра ведаў, куды вядзе яго гэты кат і што хочэ паказаць яму.

„Вядзі, нехай цябе сьляпога водзяць. Кланяцца табе ня буду і прасіць тваей ласкі не стану. Што будзе, то будзе,—думаў ідучы Максім.

— Ці ня будзеш ласкаў зірнуць, — гаварыў тым часам аб'ешчык, прывёўшы лясьніка на тое мейсцэ, дзе колькі дзён назад стаяў дубок. Аб'ешчык добра націкаваў гэта мейсцэ, і ў яго наўперад усё было разлічэна. Нават яго далікатная прамова да лясьніка была абдумана раней, каб злосна нацешыцца с таго, як будзе выглядаць Максім Заруба, стоючы перад пнём сьсеченаго дубу. Але працягнутая рука яго так і засталася: перад німі было гладкае мейсцэ і вокал стаялі дзеравы, ды дзеня-дзе тырчэлі абросшые мохам даўнейшые пні. Максім пазіраў на аб'ешчыка поглядам чэлавека, каторы нічога не цяміць і чэкае тлумачэньня.

Аб'ешчык зірнуў на Максіма. Чуць значная усьмешка прабегла па губах лясьніка. Нават елкі, каторым на гэтым мейсцы было крыху прастарней, здавалася, усьмехаліся, пазіраючы на аб'ешчыка—такую дурную меў ён міну ў гэту мінуту.

— Што за чорт!—сказаў ён:—тое самае мейсце, а дзе-ж пень?

— Мала тут пнёў? — спытаў Максім, стаўшы на прыкрыты мохам пень недаўна украдзенаго дубу і паказываючы рукоў на старые пні. — Ды і сам пан стаіш, як

пень,—ня вытрываў Максім, каб не пасьмеяцца з аб'ешчыка.

— Ты мне кпінак ня строй!—крыкнуў аб'ешчык і забегаў вокал лясьніка, як ганчак, вынюхіваючы сьляды. Улучыўшы мінуціну, лясьнік зірнуў адным вокам сабе пад ногі. У адным мейсцы мох атхіліўся, і с-пад яго сьвяціўся сьвежы пень. Максім чуць-чуць пасунуў нагу, каб закрыць гэту лысінку. Аб'ешчык як каршун, зірнуў на лясьніка.

— А на чым ты стаіш, ягомосьцю? Максім пачуў, што ён прапаў.

— Стаю, як і пан: нагамі на зямлі — Аб'ешчык раптоўна патскочыў да лясьніка, таўхнуў яго ў грудзі і кашкянуў нагою мох.

Пень раскрыўся.

— Зладзюга! лес крадзеш, сам канцы хаваеш! — як гад, сіпеў аб'ешчык.

У адзін момант усё пазелянела ў вачах Максіма, і лес закружыўся, заскакаў. Нічога не разважаючы, размахнуўся ён, і яго цяжкая рука з голасным плескам апусьцілася на шчоку аб'ешчыка. Шапка зляцела з яго галавы, і сам ён захістаўся і паляцеў потырч носам на гэты пень. Ма-

ксім накінуўся на свайго ворага і пачаў мяць яго.

— Удушу!—хрыпеў ён, як зьвер, сьціснуўшы аб'ешчыка за горла. Аб'ешчык зьвіваўся, як вуж, малаціў нагамі, кусаўся. Вочы яго вылазілі с сваіх гнёздаў.

Памыкаўся ён крычэць, клікаць на помач, але голас яго ня мог выбіцца з грудзёў, а вокал ня было ні аднэй жывой душы. Адзін толькі лес, нямы сьведка людзкога глупства, стаяў вокал глухой сьцяной і маўчаў, не варушыўся. Відаць, ён бачыў ешчэ не такіе справы, стоячы тут векамі.

— Братка, зьмілуйся! за што?—енчыў аб'ешчык, страціўшы надзею выкруціцца з рук лясьніка.

Да Максіма вярнулася памяць і розум. З вялікаю ненавісьцю зірнуў яму ў твар, борзда падняўся і сказаў:

— Ідзі жалься на мяне,—і злосна пашоў у лес.

Аб'ешчык падняўся, ўзлажыў шапку, дзіка азірнуўся вокал і кінуўся бегчы.

— Гвалт, ратуйце! — крычэў ён. бягучы.

V.

Досьвета, другога дня, Андрэй ужо кошкаўся ў хлеве. Запаліўшы газоўку, павесіў яе на сьцяне і ўзяўшы сахор, Андрэй аткідаў гной ад сьцяны с таго боку, дзе было вышэй. Чорная карова з аднэй загародкі, цялушка—выпустка—з другой і чырвоны конік ўставіліся пільна на гэту цікаўную дзею. Толькі адна сьвіньня не хацела зьвертаць увагі на Андрэя. Яна спакойна ляжала ў сваім бярлогу і, здавалася, нікалечкі ня дзівілася, якбы даўно ведаючы, што і чэлавек зазвычай бывае сьвіньнёй. Прабраўшы ямку і выслаўшы яе саломаю, Андрэй перанёс сюды з гумна дубкі, закрыў іх тоўстым пластам саломы і наверх нагарнуў гною. Скончыўшы работу, Андрэй акінуў вокам гэты куток, і на твары яго зьявілася усьмешка здаволеньня.

Згніюць тут, калі я сам не дастану іх— сказаў сам сабе Андрэй, і спакойна вышаў на вуліцу. Тут ён пастаяў, высмактаў люляк са дзьве, павітаўся с суседзямі і суседкамі, каторые ішлі па ваду, і, як чэлавек, катораму німа чаго баяцца, пашоў уладжы-

вацца каля гаспадаркі. Ходзячы па двары, ён нават мармытаў сабе пад нос нейкую песьню: „Шапка мая магерачка“.

Прайшло днёў два За гэты час ня выявілася нічога такога, што-б магло патрывожыць Андрэя, і ён ужо рыхтаваўся дастаць с-пад гною дубкі, каб пусьціць іх у дзела. Якраз прышоў да яго сваяк, Яхім Бубен.

— Чуў ты,—гаворыць Яхім:—Зарубу гоняць вон с стражнікоўства,

Андрэй зьбляднеў. У сярэдзіне ў яго нешта заныла, якбы адарвалася, і ён пачуў, як сэрцэ яго затахкала дробна-дробна.

— За вошта?—спытаў ён.

— А хто яго ведае. Кажуць, аб'ешчыка набіў,—парубка там нейкая знайшлася ў лесі, ну, і завяліся.

А можэ так абгаварыў яго аб'ешчык, хто іх там разьбярэ... От, прасіся за стражніка, — закончыў Яхім.

— А! махнуў рукой Андрэй: служачы—хлеб сабачы.

— Ну, не скажы гэтаго. Можна, брат, жыць лепш, як на гаспадарцы: паша дарэмная, дровы—дарэмные, поле, сенакос, сякі такі абрывак,—жыць можна.

— Э, брат Яхім: дзе ён ёсьць лёгкі хлеб? Добра служыць з добрымі людзьмі. А калі пачнуць кусаць адзін другога, то доўга не паслужыш. За які-нібудзь паршывы дубок, зжалься Божэ..

Тут Андрэй замнуўся.

— Не, брат, лепей не знаць такога хлеба.

Яхім бачыў, што Андрэй ня хочэ, не мае ахвоты быць лясьніком. Ну, яго воля.

Усё сяло гаманіла пра Максіма, разбірала яго справу на ўсе лады. Адны трымалі руку Максіма, шкадавалі яго; другіе—наадварот, былі рады, бо зайздросьцілі яму. А наагул нікога блізка не чапала тое, што чэлавек страціў кавалак хлеба і нікога не цікавіла, як ён страціў яго. Пра гэта ведаў адзін толькі Андрэй. Але ўсё тут абярнулася так, што яму ня выпадала падзяліцца з людзьмі сваімі думкамі. Горэ ня ў тым, што людзі ня прыймаюць нашых думак, або насьмехаюцца з іх: тут мы можэм хоць цешыць сябе тым, што нашы думкі калі-небудзь знойдуць для сябе лепшы грунт, ці тым, што людзі ешчэ не дарасьлі да іх, і ўсё-ж такі мы можэм сьмела гаварыць іх, крычаць, не саромяючыся паказаць іх прад вачыма ўсяго сьве-

ту. Але таму, хто ня можэ сьмела сказаць аб сваіх думках, хто баіцца вынясьці іх с сваей душы на людзкі суд і хто мусіць насіць іх, як атруту, на сваім сэрцы. Такіе нядобрые думкі апанавалі цяпер Андрэя. Як-не-як, а ён быў прычынай таго, што чэлавека выпіхаюць вон на зіму без кавалка хлеба... Праўда, Андрэю ешчэ ня верылася, што гэта праўда. Яму зрэдка думалася, што ўсё гэта можэ ешчэ ўладзіцца і Максім застанецца. А можэ тут хаваецца сусім іншая прычына? Гэтые думкі на момант супакоівалі Андрэя, і ён пытка прыслухіваўся, што гаворуць людзі. На другі дзень не заставалася ніякаго сумненьня, што Максіма гоняць. Цяпер пачалі гаварыць ясьней і а прычыне, па якой яго выганяюць. Максім, казалі, прадаў дубок у лесі. Мотапна было Андрэю слухаць такіе гутаркі—проста сьвет здаваўся яму ня мілы.

Здаецца ўзяў-бы завязаў вочы і ішоў-бы няведама куды, абы знайсьці заспакаеные, абы ня чуць тэй згрызоты, што была на яго сэрцы.

І чаго яму было лезьці ў гэты лес? Сядзеў-бы сабе спакойна і гора не знаў-бы.

Эх, здаецца, каб нічога гэтага не было, каб яно толькі прысьнілася яму! Ўсё-б было добра, каб ня гэты дубок.

## VI.

Як толькі настаў вечэр і добра сьцямнелася, а людзі крыху аціхлі, Андрэй ізноў пашоў у хлеў, адгарнуў гной і павыносіў дубкі на дрывотню.

Відаць Андрэй нешта надумаўся. Прыхіліўшы дубкі да сьцяны, Андрэй доўга пазіраў на іх. Хвацкіе дубкі. Важнецкіе вышлі-б сьпіцы для колаў. А паліцы на сохі!.. На момант Андрэй забыўся аб тым, чаго ён прышоў і ўзяў самы таўсты кавалак дубка, палажыў яго на плечы і панёс у Нёман. Гэта было яго ахвяра сумленьню, гэтым хацеў ён выкупіць свой грэх прад Максімам і вярнуць спакой душы. Нясучы дубок, Андрэй раздумываў над тым, ці добра ён робіць, ці ёсьць тут які-небудзь толк. Колькі разоў ногі яго ішлі павольней, ён азіраўся назад—ці ня лепш вярнуцца, ды зноў схаваць іх?

— Э! — сказаў сам сабе Андрэй: —

збуду з галавы гэты клопат, раз пакончу з гэтым ліхам!

І борзда пашоў на бераг Нёмну. Апусьціўшы павольна дубок, Андрэй узяў яго за адзін канец, а другі апусьціў у ваду. Нёман зараз-жэ патхапіў яго на свае плечы, і Андрэй адразу пачуў, як яму стала лягчэй у руках. Тут ён з усей сілы стаўхануў камлюк на ваду. Дубок стралой панёсься на сярэдзіну, і толькі гладзенькая палоска вады абазначылася яго сьледам, і ён прапаў у халодных і чорных ад змроку хвалях Нёмну.

— Якому-ж лысаму чорту гатаваў я гэты дубок?!—крычала нешта у Андрэю. Для каго я выпакутаваў яго сваёй крывёй? Хто спажыве боль мазалёў маіх?—І Андрэй забегаў па беразі Нёмну. Ён пабег на ніз, туды, дзе за нортамі прыгожа разлёгся шырокі гак, у той надзеі, што вада вынясе камлюк дубу на бераг... Бягучы, Андрэй папаў у вырытую сьвіньмі яму і ўпаў, ляпнуўшыся жыватом на халодную і мокрую зямлю. Падняўшыся, ён зноў пабег. Во і гак. Але ноч была такая цёмная, што нічагусенька ня было відаць. На другім беразі глуха шарасьцеў вецяр у сухіх лозах і чаротах. Халодная, як жалеза, вада плю-

хала ў пустые берагі і ўсхліпывала, як маці, страціўшы дзяцей сваіх... Пастаяўшы колькі мінуцін, Андрэй пашоў да дому. Раз пачаў,—трэба канчаць. Усё роўна не на карысць яму вырас гэты дубок. Андрэй ўзышоў на свой двор.

— Андрэй: гэта — ты? — аклікнуў яго голас.

— Я!—аказаўся Андрэй.

— Дзе цябе чэрці душаць?—спытала сярдзіта жонка,—вячэра даўно стыне!

— Чорт яе ня возьме, тваю вячэру,— атказаў Андрэй, і палажыў на плечы два кавалкі дубу.

— Куды ты іх валачэш?

— Не табе ведаць.

— Жонка змоўкла, а Андрэй зноў пашоў на бераг. Ён быў злосны і шоў борзда, а жонка назіркам ішла за ім. Яна зацікавілася, куды нясе Андрэй гэтые дубкі. Спыніўшыся на беразі, Андрэй паўкідаў абодвы кавалкі ў ваду. Жонку ўзяў нейкі страх. Ні слова не гаворучы, яна пабегла да дому. Ёй здалося, што Андрэй зьвіхнуўся з розуму.

Праз паўгадзіны Андрэй вярнуўся. Моўчкі зьняў ён шапку, расьпіразаўся, павесіў сьвітку і сеў за стол.

Жонка ня ўтрывала і пачала распытываць Андрэя.

— Ат, ня дуры ты мне галавы! — адмахнуўся Андрэй.

— Ну, ці-ж ёсьць у цябе розум? Навошта-ж было іх сеч? Каму з гэтага карысьць?

— Чорту лысаму!—сказаў Андрэй.

— Толькі-ж чорту... Хіба іх агледзіў хто?—не атступалася жонка.

— Во дзе яны ў мяне сталі, дубкі гэтые! сказаў Андрэй і паказаў рукой на горла.—Чэлавека вось выгналі з-за іх, а ты...

— Дык ты вярнуў яго гэтым?

Андрэй не знайшоў што сказаць, маўчаў.

## VII.

Ешчэ больш заблутаўся Андрэй. Толькі цяпер ён праканаўся, што кідаць дубкі ў ваду была дурная выдумка. І праўда: ці вярнуў ён гэтым Максіма на мейсцэ? Ці дастаў сабе спакой? І ласне можна аткупіцца ад сумленьня тым, што ён пакідаў у ваду дубкі?—„Дурэнь я“,—думаў Андрэй трасучы карове трасянку.

Ухадзіўшыся, Андрэй вышаў на вулі-

цу. Во, ўжо колькі дзён ён староніцца ад людзей і жыве толькі сам сабой, сваімі думкамі, каторые так моцна стамілі яго душу. У сяле, ў тым яго мейсцы, дзе вуліца выходзіць к Нёмну, стаяла даўней старая карчма. Гэта карчма, бывала, біткам была набіта людзьмі. Сюды сходзіліся і ў радасьці і ў горы; тут была гарэлка, каторая, як кажуць знайкі па часьці выпіўкі, была і крапчэйшая, і таньнейшая, і шмат прыямнейшая ад цяперашняй манапולькі. Во, па старой памяці, сюды ўсё ешчэ цягнула селянаў гэта мейсцэ, дзе стаяла калісь карчма, ад каторай застаўся адзін толькі падмурак; і тут стаялі яны, ўсунуўшы ў зубы цыбукі і схаваўшы рукі ў рукавы кажухоў, пад аткрытым небам. І гэтым разам былі тут мужчыны, і сярод іх ішла сур'ёзная гутарка. Андрэй стаяў здалёк адзін і не адважываўся падыходзіць бліжэй. Раптоўна ён задрыжэў: у гэтай кучцы селянаў быў Максім Заруба. Андрэй быў павярнуўся, каб ісьці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі. Патаптаўшыся момант на адным мейсцы, ён зноў павярнуў назад. Максім стаяў і штось гаварыў. Аб чым ён гаворыць? Андрэй ня мог больш працівіцца жаданьню ведаць,

што гаворыць загублены ім чэлавек, і ён пашоў. Яму паказалася, што людзі глядзелі на яго так, якбы ведалі ўсю справу з дубком. Андрэй прывітаўся с селянамі агульным „дзень-добры“, а Максіму працягнуў руку і нясьмела сказаў:

— Здароў, Максім!

— Здароў, брат Андрэй! Ну Андрэй сказаў Максім: прымай брат, у патсуседзі.

Сэрца у Андрэя так і апала: няўжо Максім ведае, што ён, Андрэй, сьсек дубок—чаму загаварыў аб патсуседзтве? Не! каб ведаў, то наўрад-бы падаў яму руку, ня толькі што зьвярнуўся-б да яго с такой мовай.

— За вошта-ж, брат, цябе выдалілі? — спытаў замест атказу, нібыта нічога няведаючы, Андрэй.

— Тырчэў на дарозі пень, пакуль за яго ня чэпляліся; а сталі чэпляцца — пню не стрымацца.

— Дык не за дубок атказалі ад мейсца?!—з жарам спытаўся Андрэй, і вочы яго прасьвятлеліся.

Максім нахмурыўся, якбы цень лёг на яго лоб.

— Скуль ты ведаеш аб дубку?

— Каму і ня ведаць, як не Андрэю,— пажартаваў Стаська Гук.

Андрэй зьмешаўся, пабляднеў і сказаў:

— Так гаворуць.

Андрэй зірнуў на Максіма. За апошніе часы Максім асунуўся, пахудзеў. Вочы яго глыбака запалі ў лоб. Відаць, многа горкіх думак, трывогі і клопату перэмятушылася ў яго мазгох. І было с чаго: што злога ён зрабіў? за чыю віну паплаціўся? І куды цяпер дзецца? Андрэй, як праступнік, апусьціў галаву. Момант, і ўвесь здрыгануўся, падняў галаву, акінуў усіх поглядам.

— Максім, братка! Гэта за мяне ты пакутуеш: гэта я сьсек дубка! Рабі са мной што хочэш. Бій, катуй мяне!—Усе змоўклі і пазіралі на Андрэя.

— Нехай будзе пракляты той час, калі я першы раз зірнуў на гэта нешчаснае дрэва. За што цярпіш ты?

Максім горка усьмяхнуўся.

— Ты сьсек дубок? Ось ніколі не спадзеваўся!.. Э! цяпер ужо ўсё роўна. Табе можэ ад гэтаго лягчэй, а мне—адзін чорт. Ды, калі на праўду выпла, то ты не такі ўжо вінаваты, як табе здаецца... О, каб

я цябе зьлавіў у лесі, то быў-бы другі рахунак. А цяпер твая споведзь паможэ мне як мёртваму кадзіла.

— Паможэ, паможэ! — закрычаў Андрэй:—я пайду ў лясьніцтва і раскажу ўсю праўду. Нехай мяне судзяць, нехай забяруць апошнюю карову, нехай пухнуць з голаду дзеці,—не кажы толькі, што Андрэй цябе згубіў!

Андрэй крута і с сілай павярнуўся.

## VIII.

— Сьмейцеся добрые, людзі: здурнеў саўсім чэлавек! — пачэкаўшы с паўгадзіны, чуўся жаночы голас каля Андрэявай хаты.

Андрэй, апрануўшы кажух і ўзяўшы палку, вышаў з двара на гароды, каб няісьці вуліцай, а жонка стаяла каля парогу і атчытывала Андрэя.

Андрэй маўчаў. Твар яго быў сур'ёзны, важны і спакойны.

— Вярніся, вярніся, Андрэй! — не ўнімалася жонка. Андрэй ня слухаў і сьцігаў дальш, не азіраючыся.

— Божэ мой! што з ім сталася? пагі-

белі сабе і дзецям шукае чэлавек... Каб ты ногі паламаў, каб ты дарогі не бачыў! Вярні-і-ся!

Жонка ешчэ доўга плакала і галасіла, а Андрэй тым часам мінуў ужо сяло і вышаў на дарогу. Вокал расьцілалася поле, голае, пустое, абабранае. Збоку цягнуўся луг на абапал Нёмну. Там і сям стаялі парыжэлые стагі. Далей, перад Андрэям, пачынаўся лес, праз каторы ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурае неба, як кепска загаранае поле. На ўзгорках падыхаў халодны паўночны вецяр, гразь сьціскалася марозікам, пад нагамі цьвярдзела. Гадзіны праз поўтары Андрэй быў у лясьніцтве.

За сталом у канцыляры сядзеў стары лясьнічы. Гэта быў ня ўступчывы чэлавек, с каторым было трудна дайсьці да ладу.

Пераступіўшы парог канцыляры, Андрэй нізка пакланіўся. Лясьнічы кіўнуў галавой і зноў стаў пісаць. Потым павярнуў галаву да Андрэя.

Пажваўшы скіўіцамі, пан запытаў:

— А што скажэш, чэлавечэ?

— Панок!—сказаў Андрэй і ўвесь падаўся на перад,—дарэмна пакаралі Максіма

Зарубу: я ўкраў дубок! Тут Андрэй злажыў на крыж пальцы і пацалаваў іх.

— Пакарай мяне Бог, калі я за згодай Максіма высек гэты дубок.

Лясьнічы, вытрашчыўшы вочы, пазіраў на Андрэя. Пажваўшы сківіцамі—такі быў звычай у старога пана жваць сківіцамі прад тым, як гаварыць,—ён сказаў:

— А заўважай, небарачэ: ты гаворыш—дуб высек?

— Я, я, паночку!

— Гм! то які-ж бы ты быў гаспадар, каб не краў у лесі,—спытаў лясьнічы.

— Панок, залаценькі! Даруй, панок, Максіму! Я вінават, — штрафуйце, судзіце мяне. За што-ж будзе нявінны чэлавек цярпець?

— Табе Максім не сваяк?

— Не, панок, ня свой.

— То мусі быць, ён цябе падгадзіў?

— Панок, грэх гаварыць гэта! Максім нічога ня ведаў. Толькі сягоньня пры людзях я прызнаўся яму, і сам сабой прышоў да пана. Даруй паночак, Максіму. Нехай лепш мяне пан судзіць. Я вінаваты, і я павінен атпакутаваць.

— Ха-ха-ха! А заўважай, небарачэ: сьмешны ты чэлавек. Вось-жэ ня буду ні штрафаваць, ні ў суд падаваць, калі ты гэтаго просіш. А Максіма ня прыму, бо ён забіяка, разбойнік.

Доўга прасіў Андрэй лясьнічаго, але пан быў цьвёрды і збываў жартамі.

...Грудкі хмарак разгладзіліся, неба пабялела, і пашоў дробненькі сьняжок, як Андрэй ішоў з лясьніцтва.

Усю дарогу разважаў Андрэй ў сваіх думках. На душы яго стала спакайней, як пасьля кожнай буры. А сьнег усё падаў гусьцей; земля забялелася. Лес стаяў спакойны; толькі ў гары шумелі паціхеньку хваёвые галінкі, якбы віталі першы сьняжок. А можэ яны шэпталі што Андрэю, як шэпчэ маці, схіліўшыся над дзецям, расказывалі сваёй мовай аб тым, што Андрэй супраўды не такі вінаваты, як гэта крычыць яму кожную мінуту яго чуткае сумленьне. Эх, лес! колькі чаго давялося бачыць яму на сваім вяку. Многа ён ведае ўсяго! І каб Андрэй расчытаў яго гутарку, то саўсім-бы інакш пазіраў на сьвет.

І ўспомнілася Андрэю старая казка,

каторую даўно-даўно ў шчаслівые годы яго дзяцінства, расказывала нябошчыца баба.

Скінула неба на зямлю дзіўны клубочак. Усіх карміў гэты клубок і карміліся ім людзі, карміліся зьверы і птушкі і розные маленькіе жывёлінкі, бо для ўсіх прадназначыла яго сьвятое неба. І ўсе жывіліся, і для ўсіх яго ставала. Пазайздросьціў гэтаму злыдзень, і німа ведама дзе дзеўся дар неба. І цяжка стала жыць на сьвеці. Земля пачала бяднець і спустошывацца. Дзе былі даўней шырокіе рэкі—там засталіся цяпер чуць значные палоскі вады, дзе і саўсім яна высахла, парабіліся пустэчы. Лясы сталі зводзіцца, пачаўся голад сярод зьвяроў, многа іх паздыхала. Мошкі накінуліся на людзей, разьвёўся бруд, каторы накінуўся на чэлавека і стаў піць яго кроў. Земля пачала кепска радзіць; пашлі на сьвеці паморкі, паўстала сварка, калатня, бойка. Людзі сталі трывожные, неспакойные, ўсё чагось спадзяюцца, чагось шукаюць, да чагось прыслухіваюцца. Само неба спахмурнела і адвярнула ад зямлі свой воблік...

Лес кончыўся. Во бераг Нёмну. Вяр-

сты дзьве адгэтуль у гару пакідаў Андрэй дубкі. Ён ішоў берэгам, прыглядаўся, якбы чагось шукаў. Вокал было пуста. А сьнег ўсё сыпаў і сыпаў...

---

# Трывога.

I.

Ужо два тыдні, як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чэканьне чагось страшнага і неадваротнага. А што паслужыла першаю прычынаю, дык гэта — вялікая суш. Як толькі пачалася весна, ніводнага не было дожджыка. Пасеянае збожжэ ў полі і агароды гібелі. На гэтым грунце і пайшлі ўселякіе гутаркі. То тут, то там на вуліцы зьбіраліся мужчыны і жанкі і разьбіралі прычыны, чаму німа дажджу, тут-жэ расказывалі розные страшные здарэньня апошніх дзён. А нідаўна пастушкі бачылі такое дзіва, што і ў лысых падымаліся дыбам валасы: па полі совалася ваўчыца, ў каторай была чэлавечча галава! Апроч гэтаго, ў лесі, як казалі, туля-

ліся катаржнікі, уцёкшые з астрога. І ўсё гэта, ўзятае разам, і радзіла той страх і трывогу, што, як туман, віселі над сялом.

А на ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахліваго і баязьліваго чэлавека, як ён, трудна знайсьці. Баіцца ён воўка, баіцца магілак, разбойніка, чорта. Хоць вы азалаціце яго, ніколі ня пойдзе ён адзін у ночы праз лес. А калі, бывала, захопіць яго ў дарозе шэрая гадзіна, то каню — беда! І ўжо яго конік сам ведае: чуць толькі пачне зьмеркацца, ён не чэкае, пакуль Мікола будзе тузаць яго лейцамі і паддаваць ахвоты пугай, а сам, пырхнуўшы для сьмеласьці, выгінаў сваю худую шыю с курттатаю грывай і борзда драбязіў таўставатымі ножкамі. А калі Міколаю даводзілася ў такі час ісьці пяхотам, то ён так шпарка ішоў, што прыходзіў да дому ўвесь мокры. Ішоў ён раз вечэрам. Да сяла ешчэ было вярсты тры. На небі ўжо пачалі ўсходзіць першые зоркі. Рап-там с-пад ялаўцоваго куста вылецела птушэчка. Мікола зьнячэўку стаў, і з яго грудзей, проці яго волі, вылецеў жаласны і доўгі крык:

— А-а-а-й!

II.

Не спалася ў гэту ноч Мікалаю. Ў хаці з ім быў адзін толькі Міхаська, яго сын, хлопчык гадкоў шасьці. Жонка ешчэ ў дзень пайшла да хворай сястры. Пакуль сяло гаманіла, Мікола сяк-так трымаўся і барукаўся са страхам, не даваў яму надта вялікай аблады над сабою. Сон-жэ, як на злосць, ніяк не замыкаў яму вочы. Праўда, ў дзень Мікола даў храпака і выспаўся. „Трэба кінуць гэты паганы звычай спаць у дзень,“ думаў ён і хаваў галаву пад коўдру, плюшчыў вочы, пробаваў нават храпці. Але, храпануўшы раз, ён спалохаўся свайго храпу і зараз-жэ перэстаў. Тым часам сяло моўкла, ноч ўсё цяжэй і глыбей наседала на зямлю.

— Міхась! Міхаська! —

— Га!

— Ты ўжо сьпіш, сынок?

— Сплю, — пачуўся з запечка голас Міхася.

— Можэ-б ты, сынок, зьбегаў да цёткі ды паклікаў-бы матку? Скажы—тату нешта нядобра зрабілася.

— Ого! я баюся!

— Дурэнь ты! чаго баяцца? вось сказаў!—стаў бацька высьмеіваць страхі сына, а сам увесь калоціцца ад страху.

— А як спаткаю ваўчыцу с чэлавечай галавой?—сказаў сын.

— Якую ваўчыцу? што ты пляцеш? сасьніў, ці што?

— Сасьніў! ці-ж ты ня чуў хіба?

— Дзе? што?—спытаў бацька апаўшым голасам, а сам пачуў, як уся скура якбы стала сьцягацца, каб вылужыць яго цела.

А Міхаська стаў расказываць пра ваўчыцу с чэлавечай галавой і расказаў гэта такім тонам, што сьмешна было сумлевацца ў праўдзе.

— Брэшуць! — чуць не плачучы сказаў бацька.

— Даль-Бог, татачка, праўда! Вось, тата, не дасі веры! спытайся, ў каго хочэш.

Але тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у вакно, бо быў пэўны, што ў вакне ўжо тырчыць страшная галава.

Памаўчалі.

— Міхаська! — зноў аклікнуў бацька сына: — паглядзі ты там на прымурачку мой капшук с тытуном і прынясі мне яго, сынок: нешта закурыць захацелася.

Гаворачы так, Мікола думаў залучыць

да сябе сына і палажыць с сабою — ўсё-ж весялей, як чуеш каля сябе жывую душу.

— Даль-Бог-жэ, татачка, не ўстану! Зарэж мяне—не падыймуся: я чуў—нешта шалпатала ў качэргах!

— Цьфу, брыда!—вырвалася у Міколы. Цяпер ён калаціўся, як асінавы ліст, і мусіў трымаць шчэмленай губу, каб не ляскалі зубы. Але быў такі момант, што сіла шчамленьня перэрвалася, і зубы так застукалі, ўсё роўна, як Марцін Паліваны пробаваў на Вялікдзень моц яйца, зьбіраючыся гуляць у біткі.

А сыну здалося, што гэта нехта бразгае ў ваконніцу. Ён падняў галаву і абапёрся на локці.

— Тата! — голасам, поўным перапуду, аклікнуў цяпер сын бацьку: — нехта трасе ваконніцу!

Ці з вялікаго страху, ці ад гічаноў, каторые бацька еў на вячэру, толькі-ж у жываце ў яго як забурчыць! Як-бы хто ў трубу затрубіў!

— Ай! В-в-в-у!—нема загукаў на ўсю хату Мікалай, ды так страшна і дзіка, што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён с свайго кутка як залякочэ!

А бацьку чорт ведае, што здалося.

— Ай, тата!

— Г-г-гу!

І такі справілі кірмаш, што хата трасласся.

Мікола ўсхапіўся с пасьцелі, як непрытомны. Ён нічога ня помніў, звалок с шэстка жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бягучы да дзьвярэй, вырваў с коміна заткала і выскачыў на двор. Каля яго, ўляпіўшыся за зрэбные порткі, стаяў Міхаська. А на гэты час праходзіла тут варта. Пачуўшы крык, вартаўнікі так сама перэпалохаліся. Зірнуўшы туды, аткуль нёсся крык, убачылі агонь: Мікалаева суседка, Лэя, пекла булкі і вышла з лучынай у сені.

— Пажар!—загаманіла варта.

Адзін з вартаўнікоў кінуўся на званіцу і давай жарыць у званы. Абудзілася сяло, падняўся крык, гвалт. З усіх двароў забрэхалі сабакі.

Хто гарыць? хто гарыць? — пыталіся, бягучы людзі.

Мікола Гляк высунуўся з двара на вуліцу з заткалам у руках і з жончынай спадніцай на плечах.

Убачыўшы Мікалая ў такой вопратцы і з заткалам у руках, цэлая чарада селян

аткінулася назад і с крыкам: „Чорт! чорт!“— пусьцілася на ўцёкі.

Стойце, браткі! гэта-ж я! — загаласіў Мікалай і пабег за імі з заткалам, а за ім і Міхаська. Але на вуліцы ўжо нікога не было. Ахамянуўшыся, Мікалай узяў за руку сына і сказаў:

— Сынок, хадзем да хаты! І маўчы, нікому нічога ані шэп!

А назаўтра ешчэ большая трывога павісла над сялом.

---

# На начлезі.

I.

Не малады ўжо чэлавек Тамаш Чучка, і не яму-б езьдзіць на начлег. Праўда, начлег не такая ўжо цяжкая рэч: але, што ні кажы, ўсё-ж такі старым косьцям куды лепш было-б лежаць на сяньніку каля печы. Але хто-ж паедзе? Якуб можэ гэтымі днямі прыедзе с плытоў, а покі што трэба зьбірацца. Падапрануўшы кажушок і патперазаўшыся путам, Тамаш вышаў с хаты.

На вуліцы ўжо тупалі капытамі коні, бражджалі званкі сіпаватымі галаскамі. Начлежнікі ехалі шумна. Сярод іх было колькі дзяцюкоў, а найболей ўсё былі дзеці, хлопцы патшывальцы; былі тут і дзеўчаты. Ўся гэта галда крычэла, гаманіла; дзяцюкі, а за імі і жэўжыкі—хлопцы пазвалялі са-

бе злішняе: ніводнай хаты не прапускалі яны, каб ня выкусіць якой штукі на шчот гаспадара, гаспадыні або іх дачкі.

Едуць, скажэм, каля Дземянавай хаты. Ну, Дземян дык Дземян: чэлавек, як і ўсе людзі. Не! Ім трэба чапіць чэлавека. Ось, пад'ежджае адзін да вакна, спыняе каня і пытае:

— Дземян дома?

— Дома,—чуецца с хаты.

— Тэм-латадэм, Дземян дома!--крычыць распусьнік і едзе далей. За ім едзе, другі, трэці і гэтак усе.

— Дземян дома?

— Тэм-латадэм, Дземян дома!—патхопліваюць усім гуртом.

Усякі ведае, што „Тэм-латадэм“ чорт яго знае, што азначае, але ў канцы Дзямяну так намазоліць вушы гэта „Тэм-латадэм“, што ён зрываецца у адных портках і кашулі, хапае качаргу і вылетае, як бура, на вуліцу. Гэтаго толькі і трэба патшывальцам. Яны с крыкам і сьмехам задаюць махні драла верхамі на конях. А Дземян, лаючы і праклінаючы іх, бяжыць за імі вератнёў два, покі дух не захопіць яму. Пад'ехаўшы да Тамаша, начлежнікі зацягнулі песьню:

У нашаго Тамаша
Гной цячэ с капелюша!

— А ты глядзі от—каб у цябе з носу не цякло,—спакойна адазваўся Тамаш, пад водзючы каня да плоту, каб сесьці вярхом. Каню, відаць, ня вельмі падабаецца нясьці на сабе гаспадара, і ён, як толькі Тамаш нарыхтуецца сесьці, зараз-жэ уцекаў ад плота. Тамаш крычаў на каня, зноў цягнуў яго да плоту, покі сяк-так не ўсчарэпіўся вярхом. Начлежнікі ужо ад'ехалі далёка, як Тамаш выежджаў з двара. Ды яно і лепей. Якая яму кампанія гэтае блазэнства, толькі выскаляцца будуць, а конь і сам патрапіць за імі.

## II.

Начлежнікі выбралі высокі, сухі груд, каб можна было прылегчы і разлажыць агонь. Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў, бо луг быў голы, як бубен. Спыніліся начлежнікі, спыніўся і Тамаш, ён спутаў свайго коніка, павесіў яму на шыю пярэвясла, каб заўтра скарэй знайсьці свайго каня, і прылёг ваодаль ад гэтай маладой галды.

С шумам і гукам раскладалі начлежнікі агонь, штурхаліся, дурэлі. А Тамаш, оскінуўшы капялюш і ўзняўшы на неба вочы, гаварыў пацеры. Іншые малітвы ён гаварыў і па каталіцку і па праваслаўнаму—нікому не хацеў крыўды зрабіць Тамаш. Зоры, як Божые матылёчкі, трапыхаліся, дрыжэлі, і іх блеск пераліваўся дзіўнымі колерамі нязлічэных агнёў. За лугам чуць-чуць выступала сваім чорным абрысам зубатая палоска яловаго лесу, а над ім мігацелі чырвоные стужкі трывожных зарніц. Кругом было так спакойна, так ціха і згодна, што душа мімавольна адрывалася ад зямлі і неслася ў невядомую высь, каб зліцца с хараством, з безграністасцьцю гэтаго таёмнаго, неразгаданаго сьвету. Тамаш маліўся, і нейкая безпрычынная радасць расходзілася па ўсіх закутках яго цела. Памаліўшыся Богу, Тамаш лёг на сьпіну, падлажыўшы пад галаву рукі. Доўга ён лежаў гэтак і разважаў у сваіх думках. Аб чым думалася, ён і сам не атказаў-бы, каб яго хто спытаў аб гэтым. Думкі самі йшлі і праходзілі, бы тые лёгкіе хмаркі на небі, йшлі і раставалі, як сьняжынкі.

А там, каля агню, варушыліся і бегал

дзеці, адтуль нясліся песьні і вокрыкі. Памалу ўсё супакоілася. Толькі сьмех, дружны і закатны, гаварыў, што каля агню ешчэ не сьпяць. Тамаш зацікавіўся і стаў прыслуховывацца. Пачуўся сабачы брэх, праўдзівы сабачы голас. І зараз-жэ вырваўся дружны рогат начлежнікаў. Тамаш падчяўся і падышоў к агню.

Начлежнікі сядзелі ў кружок. Пасярэдзіне гарэў агоньчык, а каля агню сядзеў хлопчык. Пятрусь. Ён і пацешаў начлежнікаў. Пятрусь, як ніхто, умеў паказаць, як брэшэ чый сабака.

— Ну, а як брэшэ Гаронімаў Лыска? — пыталі Пятруся.

Пятрусь брэхаў. І ніхто не падумаў бы, што гэта брэшэ Пятрусь, а не Гаронімаў Лыска.

Тамаш слухаў, і губы яго самі разнімаліся для сьмеху.

— І крошкі пабраў,—сказаў гаркаючы Тамаш.

— Пятрусь!—ня вытрываў Тамаш: — а як брлат мая сучка брлэшэ?

Жулік-Пятрусь зірнуў на Тамаша.

— Гэрл! гэрл! гэрл! — перэдражніў ён Тамаша і яго сучку.

Усе так і паехалі са сьмеху.

— От брладзяга,—сказаў Тамаш і плюнуў. Тамаш пасядзеў ешчэ колькі мінуцін; гаворка начлежнікаў, іх крык і шум нейк адлеталі ад яго і не трывожылі; потым ён прылёг, патпёршы рукою галаву. Сон непрыкметна самкнуў яму вочы, рука аслабела, і галава сама з'ехалася на распрастаную руку.

## III.

— Пан Бог з намі, Дух Сьвяты! што са мною? дзе я?

Тамаш узьняў галаву і стаў прыглядацца. Ён чуў, што нешта цяжка навалілася на яго плечы, і павярнуўся. Гэтае мягкое і цяжкое бяз шуму спаўзло з яго. Яму было холадна, ўсе часткі яго цела дрыжэлі ад ранічнай сырасьці. Тамаш успомніў, што тут павінен быць агонь. Але дзе-ж начлежнікі. Ні агню ні начлежнікаў не было і почуту,

— Што за праява?—Тамаш правёў рукою па твары, працёр вочы. Змрок і туман, прадвесьнікі раніцы, густа віселі над зямлёю і ўсё закрывалі ад вачэй. Ўсюды было ціха. Тамаш стаў прыпамінаць мейсцэ,

куды прыехалі начлежнікі, прыпомніў вечар, жарты начлежнікаў, Пятруся—брэхуна. Не без пачуцьця крыўды ўспомніў ён гэтаго самаго шэльму, каторы састроіў кпіны з яго, паказаўшы, як брэша яго сучка. А што было далей? Ці то яму сьнілася, ці гаварыў хто з начлежнікаў, — тут Тамаш увесь закалаціўся! І вось што цяпер яму ўспомнілася. Было гэта на начлезі. У адным мейсцы тварылася штось страшнае і няўцешнае. Нейкая сіла (ведама, нячыстая), не давала людзям спаць на гэтым мейсцы. Сядзяць, гаворуць — нічога. А як чуць толькі задрэмлеш, зараз-жэ с-пад цябе ляціць к чортавай матары вобраць, шапка, люлька, нават халат здзярэ і закіне так, што ня скора і знайдзеш. Ці не стаўся і ён, Тамаш, ахвярай чортавай сілы?

Тамаш перахрысьціўся—так яму стала страшна—рука яго кранулася чагось мягкаго і сырога; аглянуўся—купіна; яна нібы заварушылася, і на ёй на момэнт бліснуў агоньчык. Шапка ўзнялася, валасы паўсталі на галаве Тамаша, і ён усхапіўся і пусьціўся на уцёкі. Але не прабег Тамаш і дзесяць крокоў, як уляцеў у нейкую багну. Тамаш крута павярнуў назад. Лапаць заеўся ў гразь, і нага вылузалася з яго.

Бягучы назад, Тамаш спатыкнуўся на купіну і паваліўся. Тут яго апанавала такая дзікая злосць, што ён пачаў таптаць і мясіць нагамі купіну с такою сілаю, што купіна зраўнялася з долам і толькі чорная пляма асталася сьледам ад гэтай паганкі. Тамаш чуў, што пад нагамі якбы нешта піснула, але гэта толькі паддавала злосьці. І Тамаш ешчэ доўга, як ашалелы, скакаў па чорной плямі, падгуківаючы.

— Ву! ву! ву!

Зніштожыўшы ў канец купіну, Тамаш скруціў дзьве фігі і сунуў іх у розные канцы сьвету.

— Вось вам, брладзягі!

У Тамаша знайшлася такая ахвота пакрышыць рэбры ешчэ якому-небудзь чорту, што ён, здавалася, і не рад быў, што на ўсходзі пачынала святлець і што заміж чорта звонка панясло́ся па лузі.

І-і—га-га-га!

Конскае іржаньне прывяло Тамаша да памяці, і ён пашоў у той бок, дзе былі коні. Прайшоўшы колькі вератнёў, Тамаш насунуўся на начлежнікаў. Скорчыўшыся ў тры пагібелі, спалі яны вакруг таго мейсца, дзе быў агонь, а на самым вогнішчы, закрыўшы яго жыватом, ляжаў Панас, пяр-

вейшы штукар ва ўсім сяле. Нідалёка хадзілі і коні. Узяўшы вобраць і нікому не сказаўшы і слова, Тамаш пашоў браць каня. Тамаш прыглядаўся шукаючы каня с пярэвяслам на шыі. А, вось ён! Тамаш працяг руку, каб узяць каня за грыву. Конь, ухмыліўшы вушы, павярнуўся задам і намерыўся убрыкнуць Тамаша. Тут толькі разгледзіў ён наравістую кабылу Андрэя Мотуза. Тамашу стала ясна ўсё. Сярдзіта глянуў ён у бок начлежнікаў. Адтуль нёсся прыдушэны рогат Панаса.

— А каб ты ў чыстым полі рагатаў, каб цябе вон нагамі вынясьлі, як ты мяне нёс, каб на тваю шыю вяроўку завязалі, як завязаў ты перэвясла, гіцлю!

---

# Кажух старога Анісіма.

*(Казка для старых).*

---

Хто толькі знаў старога Анісіма, той знаў яго стары кажух. Ніколі ён з ім не расставаўся ні летам, ні зімою. Такі ўжо быў звычай у старога Анісіма. А як ён шанаваў гэты кажух!

Ад доўгіх часаў свайго жыцьця кажух сусім сашмуляўся, выліняў, і сам чорт не сказаў-бы, ці гэты кажух быў белы, ці чырвоны. Ды і самы гэты кажух стаў не падобен да кажуха, а калі яго і называлі кажухом, то называлі ўжо ў сілу звычаю. Паміж мужыкоў было многа жартаў пра гэты кажух. Дзеці проста пальцамі тыкалі на яго, чуць толькі дзед Анісім пакажэцца ў ім на вуліцу.

А дзед якбы і ня чуў, і вухам ня вёў.

Толькі ўжо ў канцы, як стануць надта дапекаць яму, ён усердуецца.

Калі кажух і трымаўся так доўга, то трымаўся толькі дзякуючы старому Анісіму: чуць гдзе пакажэцца дзірка, Анісім браў голку, ніткі, чэпляў на нос акуляры і садзіўся за рэпарацыю кажуха. Зашые адну дзірку, паложыць латку, прыгладзіць, глядзіш—у другім мейсцы кажух разлазіцца. Зноў дзед садзіцца за работу. Потым ён больш нічога і не рабіў, як толькі клаў латкі. Латка чэплялася за латку, то як кастры аладак, то як кучкі медзякоў. І не было на кажусе ні аднаго жывога мейсца: так застракацілі яго белые і чорные ніткі і так патыкала яго голка. А колькі ўсякаго бруду завялося ў кажусе! Ды striнаўкі быў гэты дзед: ні чым яго не пераставіш, ніяк не ўдзяўбеш яму ў галаву, што схадней зрабіць новы кажух.

— Ого! Зрабіць новы кажух! Лёгка сказаць „зрабіць новы кажух“, — круціў дзед старымі калтунамі і пачынаў вылічываць і заўсёды канчаў тым, што рабіць новы кажух ешчэ рана.

— Гэ! ці многа ты налічыш, хто-б меў такі добры кажух? Ведаю я цяперэшнюю моду. Зробіць стрынгаля і бегае, як кот

з апечэным задам, калі мароз удэрыць, — сьмеяўся Анісім.

Бадай ты спрогся, стары пень!—лаяліся мужыкі:—гэта-ж ён расплодзіць такога бруду, што і не акараскацца,—заразу развядзе.

І вось маладые хлопцы надумаліся украсьці гэты кажух і спаліць. Але-ж як яго украсьці? Праўда, цяпер дзед жыў адзін — усе поразьбегаліся ад яго. Толькі прусы да тарканы гнездзіліся ў суседзстве з дзедам. І дзед так шанаваў свой кажух, ніколі з ім не расставаўся і так крэпка з ім зжыўся, што трудна было распазнаць, гдзе пачынаўся дзед і гдзе канчаўся кажух. А зойдзеш у яго хату, як ён сьпіць— прусакі і ўсякі бруд так заварушыцца, што няіменна абудзіць дзеда. Толькі-ж хлопцы выбралі такі часіну. Дзед спаў. Але і спаў ён у кажусе. Думалі, думалі хлопцы, як выкрасьці кажух. Нічога не прыдумалі, як толькі расперэзаць яго і лёганька сьцягнуць. Але старые сьпяць чутка. Праўда, кажух такі расперэзалі. А як сталі зьнімаць яго, дзед абудзіўся. Стары быў ешчэ крэпак. Як схопіцца ён, як пагоніцца за хлопцамі, як пачне латашыць кульбаю! Не для ўсіх кончылася шчасьліва: хто сіняк зара-

біў, хто ліхтар на лбе, а хто дык і рэбер не далічыўся. Толькі і ўсьпелі зрабіць, што рукаў адарваць і кусок крыза вырваць. Але дзед уставіў новы рукаў с старой аўчынкі і нават каўнер патправіў, і ўсё-ж такі фарсіць у старым кажусе.

— Ахвота вам, хлопцы, займаць старога! Бог з ім. Ніхай дацягае свой век. Колькі яму засталося? А памрэ ён, і кажух пахаваем з ім: разам жылі, ніхай разам і спачываюць.

Ды хлопцы на гэту гутарку ня згодзіліся: ходзяць за дзедам крок у крок ды кажух яго скубуць. А выжыўшы з розуму дзед ганяецца за імі с кульбак.

---

# Старые падрызнікі.

Саўсім другім чэлавекам стаў Сьцепан, як купіў ён два старые бацюшкавы падрызьнікі. Ці яго чорт падбіў на гэта, ці другіе ўвялі ў пакусу (а ўвясьці ў гэты грэх было не цяжка, бо ўсе, як крумкачы на падлу, накінуліся на гаспадарку старога нябошчыка — бацюшкі), — ня ведак.

Зранку да вечэра стаяў тут гоман, ішоў торг,—кірмаш дый годзі! Сьцепан хадзіў, як заўсёды, моўчкам, снуючы ад клуні да кухні і ад хлева да клеці і ад клеці ізноў да кухні. Часамі ён заглядаў у пакой, стаўшы на парозі і прыслухоўваўся, як розные людзі — жыдкі, панкі і поўпанкі расцягалі збіранае доўгімі годамі дабро. Былі такіе мамэнты, калі Сьцепану моцна хацелася ўскочыць у пакой і штурхануць у каршэль надаедліваго Шлёму Цырліка.

Дый папраўдзе сказаць, трэба было мець цярпеньне з гэтым шэльмаю—круцялём: як начне енчыць, біць у грудзі, разводзіць рукамі, ківаць галавой і крычаць такім праразлівым голасам, якбы з яго з жывога зьдзіралі скуру, то ня толькі такі чэлавек, як Сьцепан, але і кожын ня вытрывае тут.

Сьцепану ў гэтые дні было моташна на сэрцы. Адна прычына: ён тут пражыў, бадай усё сваё жыцьцё. Кожны вугал двара, кожная жэрдзіна ў плоці былі яму так блізкі і так знаёмы, якбы гэта былі яго дзеці. А гэтые таўстые вязы, каторые чародамі стаялі вакруг пасады, каторые ні кропелькі не адмяніліся с тых часаў, як іх запамятае Сьцепан, і пад каторымі не адзін раз даваў ён храпунца ў гарачые летніе дні, здавалася, казалі яму: Эх, Сьцепан! цяпер-то разлучымся мы! Другая прычына была тая, што ў асобі старога бацюшкі Сьцепан страціў ня толькі добраго гаспадара, але, можна сказаць і дарагога друга. Божэ мой! Колькі разоў, бывала, лаяліся яны. Бацюшка Сьцепана, Сьцепан бацюшку. І гэта ні на адзін шэлег не псавала іх крэпкую, векамі гадаваную дружбу.

І цяпер, стоючы на парозі і бачучы, як Шлёма Цырлік сваімі бруднымі пальцамі калупае кожную закарвашыну, кожную плямку на бацюшкавых падрызьніках, Сьцепан ня мог болей трываць. Адважна ступіў ён у пакой, проста ў тое мейсца, дзе стаяў Шлёма, вырваў з рук падрызьнікі і, звярнуўшыся да матушкі, спытаў.

— Колькі яны каштуюць?

— Восем рублёў, Сьцепанка. —

— Дык адлічыце з маіх грошэй: я забіраю іх! —

Сказаўшы гэта, Сьцепан кінуў на Шлёму такі пагляд, якбы хацеў сказаць:

— Шалудзька ты! Ось як купляюць людзі! — Жыдок толькі ўскінуў плечыма, усьміхнуўся і сказаў:

— Ну-э!

Сьцепан-жэ, высака падняўшы галаву, можэ першы раз за ўсё жыцьцё, вышоў с пакояў. Яму здавалася, што ён памаладзеў на цэлых дзесяць гадоў, што ён зрабіў штось важнае, і на яго пазірае цяпер увесь сьвет. А ідучы праз кухню, ён звысока зірнуў на Зосю. Хоць яна і добрая зараза, але ўсё-ж такі была нешта якбы яго жонка, хай сабе і не венчаная.

Зося зірнуўшы на тое, як высака тры-

маў Сьцепан старые падрызьнікі і як сьвяціўся яго твар, адразу сьцяміла, ў чым тут справа.

— Пашоў-бы лепш на сьметнік ды выкінуў грошы,—сказала яна.

— Ведаеш ты... з носа ды ў рот, — атказаў Сьцепан. Можэ, каб хто сказаў, то Сьцепан звярнуў-бы увагу, а то яна! што яна знае, заткала*) гэтае старое?

Сьцепану цяпер хацелася пабыць аднаму. Найлепшым для гэтаго мейсцам быў хлеў, дзе стаялі з аднаго боку коні, а з другога каровы. У хлеве Сьцепан пражыў добрую палавіну свайго веку.. Што ён тут перадумаў, ведаюць адны толькі сьцены. Толькі мала хто цікавіцца апаведаньнем гэтых сьцен і за́гарадак, дзе стаіць скаціна і жыве чэлавек.

Зневажыўшы Зосю, Сьцепан, аглядаючы падрызьнікі, спаважна пасунуў у свае пакоі. Чуць толькі паказаўся ён на парозі, як каровы зараз-жэ прыветна замыкалі. а коні вясёла загагоналі. Можэ яны хацелі сказаць яму: „Дзень добры, дзядзька Сьцепан! А с чым ты прышоў?“ Убачыўшы пад-

---

*) Затк ла—жмут ануч, каторымі даўней затыкалі коміны.

рызьнікі, ўсе жывёлы разам паціхлі. Рыжая карова, зірнуўшы на лахманы, сумна затрасла галавой і выставіла ногі. Відаць і ёй не спадабалася Сьцепанава пакупка. Тольківі бугай аказаў Сьцепану, як трэба, увагу. Ведама, мужчына мужчыну заўсёды лепш разьбярэ. Прасунуўшы галаву праз загарадку, ён панюхаў падрызьнікі, потым прытуліў губы к ноздрам і, задраўшы галаву, доўга стаяў так, выскаліўшы зубы, якбы сьмяючыся.

— Чаго выскаляешся, воўчае мяса? — сказаў нездаволены Сьцепан і махнуў на бугая рукою. Бык, не апускаючы галавы, атхіліўся і смеяўся столькі, сколькі лічыў гэта патрэбным. Знайшоўшы на шуле каля варот гвозд, Сьцепан павесіў падрызьнікі і пачаў іх разглядаць: браў іх за рукавы і доўга прызіраўся, шоргаў рукою, абціраў пыл і абчышчаў іх. А калі замечаў дзе плямку, то плёваў на яе і моцна шараваў рукавом. Часамі ён адыходзіўся на колькі крокаў, каб пацікаваць, як яно выглядзіць здалёк. Матэрыя хоць куды! Праўда, Сьцепан, купляючы падрызьнікі, і ў думках на меў які-нібудзь гандаль: проста купіў, уважаючы памяць старога бацюшкі. А як гэта высокае парываньне яго душы

крыху уляглося, то Сьцепану само сабою прышло пытаньне, на якую рэч могуць прыгадзіцца яму гэтые падрызьнікі. Гм! на якую рэч? сьмешна і пытаць: ці ён сам ня здужае насіць іх? Ось трошкі павузіць рукавы — нават і краўцу ня трэба даваць, надзеў пад халат і насі, здаровы. Каб праверыць гэта Сьцепан зьняў адзін падрызьнік і апрануў. Глянуў на рукавы—і вузіць ня трэба; с-пад халата нічога ня будзе відаць. Агледзіўшы рукавы, зірнуў на полы—шырокіе, на іх ліха. Э! с шырокага заўсёды зробіш вузкое... А каровы, высунуўшы галовы, пільна глядзелі на Сьцепана і нічога не цямілі тут. Толькі Падласка ні с сяго ні с таго ўзяла ды зараўла на ўвесь хлеў так, як равуць каровы, убачыўшы разьніка́. На гэты час міма хлева праходзіў Цырлік і затрымаўся крыху. Ядавіты сьмех скрывіў яго губы і Цырлік сказаў:

— Ой, Сьцепан, як харашэ! Каб цяпер ты стаў на агарод, то не было-бы на сьвеці лепшаго пужала, — і зарагатаў ешчэ смарад!

— Каб табе калом вочы пасталі, абармот ты! Ідзі, ідзі, бо зацкую сабакамі.—

Ужо Цырлік адышоўся далёка, а Сьце-

пан ешчэ доўга гаварыў, якіе круцялі гэтые жыды.

Абапёршыся на загарадку, Сьцепан дастаў люлечку на кароценькім цыбучку, накладаў ў яе махорку і разважаў. Думкі яго вярцеліся каля падрызьнікаў. Ніхто не павінен быў думаць,--мысьліў Сьцепан,—што яму дыхтавала якая-нібудзь карысць, як ён купляў падрызьнікі. І ня думала быць! А хто ня верыць гэтаму, ніхай праканаецца сам: адзін падрызьнік Сьцепан непрыменна зашле ў сяло свайму нябожу, сястрэнічу Мікалаю. Аддасьць краўцу, то такіе выфастрыгуе нагавіцы або світку, што первейшая ў сяле красуня будзе млець па Мікалаю. Толькі ці варта даваць яму? Ешчэ летась ён патстроіў Сьцепану штучку, за каторую прышлося пасьвяціць вачыма. Як роднаго, прыхіліў Сьцепан свайго нябожу, а той назаўтра выцягнуў з варывенькі у бацюшкі бутэльку наліўкі і два скруткі каўбас, як добрые заваратні. Калі каму даваць, то не Мікалаю.

— Дзень добры, дзядзька! як маешся? —

Сьцепан знячэўку аж патскочыў і выпусьціў у гной люльку.

— Бадай ты, Міколка, спрах: так спу-

жаў мяне? Сьцепан і не сцікаваў, як вайшоў той, пра каго ён думаў.

— Што гэта ў цябе, дзядзька, вісіць? — спытаў Мікалай.

— Дзе вісіць? — спытаў, нібыто нічога няведаючы Сьцепан і дабавіў:

— А! гэта! гэта... так рэч адна.

Мікола зьняў падрызьнік і стаў разглядаць яго.

— Ці ты, дзядзька, хочэш быць папом? на вошта яны табе?

Доўга ня думаючы, Мікалай нацягнуў на сябе падрызьнік. Потым ён, як вар'ят які, выскачыў на двор і давай круціцца.

Сьцепан узлаваўся.

— Пакінь, Мікола, дурэць! чуеш ты? — крыкнуў Сьцепан і выбег на двор, каб сьцягнуць з Мікалая падрызьнік. Мікалай адбегся і давай падражнівацца з дзядзькам. Ды гэтаго мала: ён ешчэ стаў выбрыківаць нагамі, прысядаць і размахіваць падрызьнікамі, як крыльлям. Сьцепан вышаў с цярпеньня і давай лавіць Мікалая. Ды дзе ты дагоніш яго, калі ён вёрткі, як чорт. Хіба прыпёрці да плоту? Але і платоў яму німа, каб ён апруцянеў! Якраз на тое ліха Зося заярыла с кухні сабак. Убачыўшы незнаёмаго хлопца і Сьцепана, каторы за ім

ганяўся, пакрыўджэные і злые сабакі с трох бакоў кінуліся на Мікалая. Мікалай вылamaў с плоту кол і давай ваеваць с сабакамі. А яны так і лезуць сьляпіцаю. Адзін з іх злаўчыўся і схапіў Мікалая ззаду за падрызьнік. Падняўся страшны гаўк, крык. Выскачыла Зося с кухні, матушка с пакояў; з-за вугла высунулася галава Шлёмы Цырліка. Мікалай вылузаўся с падрызьніка, прысланіўся да вяза і адмахіваўся калом ад сабак. Сьцепан падняў падрызьнік, адагнаў сабак і, не гаворучы ні слова, хвасянуў разоў два Мікалая гэтым падрызьнікам.

— А ты, нехрысьць, чаго тут?

На цю на! на цю на! —

*Шлёма падняўшы лапсардак, задаў* такога лататы, што пыл курэў с-пад ног.

— Не сярдуй, дзядзячка, і ня гневайся,—сказаў *Мікола:—праўду* гавораць людзі: „ня поп,—не ўбірайся ў рызы“.—

— Пашоў ты к чортавай мацеры, гіцэль! Думаў зрабіць, як чэлавеку, а цяпер — вось табе гула асмаленая!—злосна сказаў Сьцепан і сунуў пляменніку у нос хвігу.

— Дзякую, дзядзячка, і за гэты гасьцінец.

Сьцепан плюнуў і зачыніўся ў хляве.

Ён быў цяпер злы; больш усяго ён злаваў на Цырліка, бо гэта яго работа, гэта ён падгаварыў Мікалая састроіць такіе кпіны з дзядзькі... І на чорта было купляць гэтые нешчасные лахманы? Ну, што ў іх ёсць? Золата з іх ліецца? Толькі сэрцэ сабе пераеў. Тут Сьцепан з невавісцьцю зірнуў на падрызьнікі. А яны сабе вісяць, як нічога. А ўсё гэты чортаў жыд: не нагані яго чэрці, і ў галаву не прышло-б Сьцепану купляць гэтые дрынды, прасьці Госпадзі. Ні іх надзець, ні іх перэрабляць. Праўду казаў той Мікола: „калі ня поп—не ўбірайся ў рызы.“ А перэрабіць? Колькі-ж яны будуць каштаваць? А ён, Сьцепан, што? дзяцюк малады? Дзякуй Богу сівых валасоў у галаве колькі... А восем рублёў, як ў печы згарэла.

І ўвесь гэты дзень Сьцепан быў сярдзіты. Куды-б ён ні пашоў, за што-б ні ўзяўся, ўсюды гэтые падрызьнікі стаяць у вачах, якбы іх там хто певесіў. Бадай на іх упадкі! Ня толькі людзі, а і жывёлы сьмяюцца з яго. Тут Сьцепану ўспомніліся: словы Зосі, Цырлік, Мікалай, як скакаў ён лявоніху, рыжая і падласая карова і бык. Ну, ўсе-ж з яго сьмяяліся. А сабака дык

нават разарваў ззаду. І маюць клёк, бо ён дурны, хоць і стары. Нават у ночы ня меў Сьцепан супакою. Прысьніўся такі брыдкі сон. Здаецца, сьнілася Сьцепану—ён даваў каровам, а падрызьнікі (зноў яны!) віселі на старым вязе. Так сабе і вісяць яны. Потым гэты вяз, якбы ўздрыгануўся, сагнуўся, павярнуў сукамі і ўсцяг на сябе падрызьнікі. Сьцепан падыйшоў і кажэ:—„Стары ты ўжо чэлавек (так і сказаў—чэлавек) і займацца такімі жартамі не фасуе". І толькі Сьцепан хацеў зьняць падрызнікі, як гэты вяз падняўся ў гару, потым сарваўся з мейсца і пашоў бегаць па дварэ, а за ім—сабакі, Зося, матушка; зноў выскачыў з-за вугла Цырлік і пашоў каля вязу у прысядкі.

Сьцепан прахапіўся, правёў рукою па сьцяне—падрызьнікі вісяць на мейсцы.

— А каб вас агонь спаліў!

Тут ён падняўся, зьняў іх і давай малаціць імі па загарадцы.

— Панясу тапіць!

І Сьцепан цьвёрда пастанавіў утапіць іх у рэчцы. Ніхай толькі разьвіднеіцца. З гэтай пастановай Сьцепан заснуў ізноў. Настала раніца, і Сьцепан супакоіўся.

— А каб папрабаваць панясьці іх пра-

даць? Сьцепанавые думкі пашлі па новай дарозе. Прадаць, непрыменна прадаць. Ешчэ і зарабіць можна будзе. Ухадзіўшыся, каля жывёлы, Сьцепан зноў стаў прыводзіць у парадак падрызьнікі: разгладзіў іх, патчысьціў і ціханька шуснуў у горад. А горад быў тут-жэ. Прышоўшы ў горад. Сьцепан распасьцёр падрызьнікі на руках так, каб паказаць іх з найлепшаго боку. Прайшоўся па аднэй, па другой вуліцы. Ніхто не пытае — німа купца. А часам які цікавы падыдзе, паглядзіць, ускіне плечыма і пойдзе.

— Манах! манах!—гукнулі два патшывальцы і, тузянуўшы Сьцепанавы падрызьнікі, пусьціліся драла.

„Ня мела баба клопату, купіла парасё“,— думаў, ходзючы Сьцепан. А купца ўсё не было.

„Толькі і астаецца утапіць іх“,—падумаў ізноў Сьцепан, страціўшы надзею найці купца:

І ўжо Сьцепан павярнуўся, каб ісьці да дому. Зірк—Шлёма Цырлік.

— Ну, Сьцепан, многа зарабіў?

— Многа. Каб ты столькі на сьвеці пражыў—атказаў Сьцепан.

— На, два рублі.

Сьцепан перш хацеў паслаць Шлёму к чорту, ды апомніўся і стаў таргавацца.

— Паглядзі, якая паткладка — шоўк, чысты шоўк. А верх!..

Прадаў Сьцепан падрызьнікі за тры рублі.

І нічым ня можна было горш раззлаваць Сьцепана, як спытаць яго:

— Ці многа зарабіў, Сьцепан, на падрызьніках?

---

# „Соціаліст.“

*(З апаведаньня селяніна).*

---

— І сьмех і беда. Галоднай куме, кажуць, хлеб на вуме. Прыслухоְваліся мы, селяне, до таго, што аб зямлі гаварылі. Паявіліся у нас нейкіе доўгінькіе паперкі друкаваные — „праклямацыі“. Чыталі мы іх, перачытавалі. Мне яны надта падабаліся, і цяпер ешчэ адна такая праклямацыя ляжыць у мяне за абразом.

Пытаю у людзей, гдзе іх можна дастаць?—„У мястэчку,“—кажуць.

Прыехаў я ў мястэчка. Зайшоў у вадно мейсца, у другое. Хаджу па рынку ды пытаю.

— Ці ня ведаеце, браткі, дзе праклямацыі прадаюцца?

— А спытай,—кажэ адзін ашуканец,—вунь, у стражніка.

А я, як той дурэнь, узяў дый спытаў:

— Скажы, браце, гдзе тут можна дастаць праклямацію?

— А вось я табе пакажу,—кажэ стражнік:—хадзі адно за мною.

„Стукайце і атчыніцца вам,"—успомніліся мне словы нашаго папа́.

Як падышлі мы да канцэлярыі прыстава, тут толькі схамянуўся я, што папаўся, як лісіца ў саладуху.

Выходзіць прыстаў.

— Дак ты, гад, унь якая птушка! Атрыта праклямаціі разносіш? Да чаго дадзіць дзёрзасць?!. Пасадзіць у кутузку!..

Цэлы тыдзень прасядзеў я ў прыстава, а пасьля адвялі мяне ў гарадзкую турму. От, зазнаў гора! аж вошы па мне пашлі... Месяцы праз тры выпусьцілі мяне, пасьмяліся з маей дурноты на дапросе. А я гаварыў праўду.

— Эх, ты,—кажуць,—соціаліст, дэмакрат ты бязмозгі!

Сьмейцеся сабе, думаю я, цяпер я ўжо не такі дурэнь! Турма крыху навучыла мяне: не мала там людзей разумных сядзела...

Ў турме навучыўся я сьпеваць песьні.

Адна песьня вельмі спадабалася мне; яна пачынаецца так:

„Канстытуцію далі,
Атчынілі дзьверы,
І ў турму нас павялі,
І таўкуць бяз меры".

Прыпеў:

„Трай-рай, рыта-тай,
І таўкуць бяз меры!"

Як часам горка мне стане, сьпеваю, яе ды турму ўспамінаю... „

---

# Недаступны.

Быў гарачы летні дзень, адзін с тых дзён, аб каторых гавораць: варыць, як у гаршчку. Далёкая цёмная палоска лесу абвязалася наміткаю сіневатай смагі, як маладзіца хусткаю, каб не так пякло сонцэ. Падыхаўшы зранку вецер сьціхнуў саўсім; і здавалася, што ён сьціхнуў не дзеля таго, што гэта так трэба, а зумыслу, на злосць усім тым сілам, да каторых належала не даваць у зьдзек гарачыні зусім распарэнай зямлі і ўсё яе стварэньне. Адным словам, здавалася, што вецер зазлаваўся, як той дзядзька Піліп, каторы бачучы, што ён адзін толькі працуе ў хаці, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога ня ўскурае,—

плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок, сказаўшы: „Чорт-жэ вас бяры!“

І ціха было ўсюды. Маўчаў луг, маўчала поле: на вуліцы ў сяле не відаць было нікагутка. Толькі зрэдка перэбегаў з надворку ў надворак сабака, высалапіўшы язык і шукаючы лепшай схаванкі ад мух. Праўда: дзень быў сьвяты. Селяне пахаваліся па халадкох, а Карусь Цесьля ешчэ ад снеданьня залёг на таку голым жыватом.

З аднаго канца вуліцы раптам выскачыла у аднэй кашулі без шапкі нескладная хвігура селяніна. Па тым, як нясьлі яго ногі, людзі сьвядомые адразу пазналі-бы, што дзядзька Арцём крыху „хлясануў“, што цяпер няспрытнымі нагамі выратовываў сваю асобу і што з-заду за ім павінна быць нейкая грозная сіла, ад каторай і нясьлі яго непаслушные ногі. Прабегшы некольки хат, Арцём звярнуў на агароды, шуснуў у канэплі, адтуль разораю між капусты забег у надворак Юркі Труса, з надворку заламаў у вулачку і пасучыў проста к калодзіжу. Дабегшы да студні, Арцём азірнуўся. Вуліца была пустая. Арцём ешчэ раз азірнуўся і, уляпіўшыся за зруб студні, перакінуў сваё цела у студню,

павісшы на руках. Павісеўшы так с паўмінуты, ён высунуў сваю кудлатую ўскалмачэную галаву і павёў ею наўкруг. Якраз не далёка ад студні бегла с падаткнутаю спадніцай кабеціна с качаргой у руках. Арцём борздзенька схаваў за зруб галаву, зірнуў у ніз, пусьціў рукі і... шугнуў! Праз момэнт пачуўся глухі плеск вады. Калодзіж быў не глыбокі і вады ў ім было мала. Шчасьліва апынуўшыся на дне, Арцём трохі пачухаў цяжэйшае мейсца і стаў прымайстроўвацца на скрыні. Скрыня заметна выдавалася над вадой. Арцём усеўся на адным яе берэзі, а ў другі упёрся нагамі. Тут ён пачуў сябе вольна і выгодна і ўздыхнуў лягчэй.

Яму і самому ніколі не прыходзіла такая думка—ускочыць у калодзіж. Усё гэта зрабілася раптоўна, ад аднаго толькі жаданьня хітрэй схавацца ад жонкі. А як тут была прахладзь ды спакой, то Арцём ад здаволеньня нават усьмяхнуўся сам сабе. О, гэта то штука! Аб гэтым ўсё сяло загаворыць...

— Каб ведаў, то ўзяў-бы с сабою тытун і люльку,—сказаў Арцём, і плюнуў пад ногі.

Грыпіна, прабегшы агароды і Юркаў

двор, згубіла Арцёмавы сьляды. Кінуўшыся туды і сюды, яна спынілася, момэнт раздумываючы над тым, куды прапаў Арцём. Хоць Арцём і нікога ні бачыў, лезучы ў калодзіж, але яго дагледзіў малы Пятрук: ён быў у суседзкім садзе і бачыў праз шчыліны частакола, як дзядзька Арцём кідаўся ў калодзіж. І ў той момант, як Грыпіна ламала галаву, шукаючы Арцёма, Пятрук выбег на вуліцу.

— Цётка! дзядзька ўкінуўся у калодзіж! — закрычаў Пятрук палахлівым голасам.

Пятруковы словы чуць-чуць даняслісяда Арцёма.

— А, пся маць яго, злодзей! такі дасачыў!—падумаў, седзючы, Арцём.

Цётка Грыпіна выпусьціла качаргу і заламала рукі.

— А Божухна! а Матухна! Што ты, Пятрук, гаворыш?!

— Даль-Бог жэ, цётачка, дзядзька ўкінуўся ў калодзіж! Я сам бачыў,—чуць не плачучы, кляўся Пятрук.

Грыпіна, забыўшыся качаргі, кінулася да студні.

— Арцём! Арцём! ці ты тут? Ці жывы

ты, Арцёмка?!—галасіла Грыпіна, перэгнуўшыся над зрубам.

Арцём задраў у гару галаву, зірнуў на жонку і нічога не сказаў.

А за гэты час Пятрук абегаў усе вуліцы і падняў усё сяло. Падняўся крык, гоман, студня бралася з бою, кожнаму хацелася зірнуць, што робіцца на дне. Самые лепшые мейсцы пазаймалі найболей паважные і сталые мужчыны. У адзін момант стала вядома, што Арцём жывы і здаровы. Там і сям, наўперад цішэй, а потым сьмялей, разносіліся вясёлые раскаты сьмеху.

— Бадай ты прапаў, Арцём! як ты залез сюды? — пытаўся Арцёма Антось Галавач.

— Дух Сьвяты занёс мяне, братка, — загаманіў Арцём, і голас яго вылетаў са студні глуха, як з магілы.

Стаяўшые каля студні перэдавалі другім Арцёмавы словы.

— Пьяніца ты, лодыр! дурасць твая, гарэлка уплішчыла цябе сюды! Гэта-ж трэба! пасароміўся-б ты людзей!—пачала атчытываць яго Грыпіна.

— Ну! ну! завела ўжо катрынку! Глуха загукаў Арцём с калодзіжа.—

Чаго ты лаешся, Грыпіна?—накінуўся на кабету Карусь Цесьля і міргнуў у бок мужчын:—мусіць добра яму жывецца с табой, калі чэлавек на зламаньне карку кінуўся ў студню. — І, зірнуўшы на жонак, дабавіў: вось што робіць ваша грызьня з нашым братам...

— Гарэлка вам гэта робіць, — загаманілі жонкі дружным хорам.

Карусь замахаў рукамі і заткнуў вушы.

— А ніхай вас! вось сарокі! Толькі і астаецца уцекаць ад вас у калодзіж.

Карусь нагнуўся і клікнуў Арцёма.

— Арцём! ці добра табе там? —

— Добра, браце! — адазваўся Арцём і заплюхаў нагой па вадзе:—такі табе тут халадок, што проста—ах!.. Карусь! ты заўсёды быў мой лепшы друг: кінь,браце, мне сюды люльку!

— Вылазь брат! тут пакурыш. Вось і драбіны табе прынясьлі.

Неколькі мужчын паволі апускалі ў студню прынесеные драбіны.

— А на што мне драбіны?—пытаўся, седзючы на скрыні, Арцём:—думаеце, я вылезу ад гэтуль? Што я там буду рабіць з вамі? што мне там міла? нічога!.. Ня чуў хіба грызьні? А тут, браткі,—рай! —

„І гэй, ў Та-аганро-о-зі, да!
„І гэй, ў Таганро-о-зі да!“—

Зацягнуў Арцём у калодзіжы песьню.

— Дык ты, Карусь, ня кінеш мне люльку?—скончыўшы сьпеваць, спытаўся ізноў Арцём.

— Татка, галубок! выла-а-азь!—заплакаў Арцёмаў сын, хлопчык гадкоў дзесяць.

— А! гэта ты, Сымонка? А сынок ты мой! Скажы мне, каток, які гэта прарок сядзеў у пустыні, і крумкачы насілі яму мяса?

— Выла-а-азь!

— Я ў цябе, пся кроў твая, пытаюся: якому прароку крумкачы насілі мяса? —

— Выла-а-азь!

— Эх!—уздыхнуў Арцём:—Адзін шкадуе люлькі, і гэта лепшы друг! Другі ня хочэ сказаць, каму крумкачы насілі мяса, і хто? родны сын! І жыві ты пасьля гэтага на сьвеці. Лепей-бы ты мяне, матанька, на сьвет не радзіла.—І Арцём ізноў засьпеваў:

„На што ты радзіла
Мяне, матанька?
На што ты радзіла
На сьвет сіраціну?“—

— Доўга ты будзеш сядзець тут?—падышоў да студні стараста і пачаў гаварыць з Арцёмам, як начальнік: — ось зараз як улезу, то ты ў мяне шпарка вылезеш!—

— А ну, ўлезь! Лезь, стараста, дальБог, лезь! мейсца хопіць і табе. Бо і твая Алена добрая жо-онка! (Ці там яе німа?) Дык лезь, стараста, лезь, галубок!—І Арцём заварушыўся, пасунуўся, каб даць старасьці мейсца.

— Цьфу! каб ты згарэў!—плюнуў стараста і адыйшоўся пад сьмех селян.

— Карусь!—не сунімаўся Арцём:—дык ты кінеш мне люльку?

— Лаві! я табе кіну!—сказаў Мікіта Чувель, і ўжо выняў з губы сваю люльку.

— Я хачу, каб Карусь мне кінуў... Карусь! кінь мне, брат, люльку!—

Карусь ужо быў нарыхтаваўся кідаць, ды Грыпіна вырвала люльку з рук Каруся.

— Ато-ж! Ешчэ чаго, патураць яму! Вылазь, каб ты бокам лазіў!

— Татачка, выла-а-азь!—

— А скажы, як зваўся той прарок, катораму крумкачы насілі мяса?—не здаваўся Арцём.

Тут праціснуўся да студні Тарас Рубеж. І падышоў ён с такой мінай,

што ўсе нявольна зірнулі на Тараса: на яго твары кожны прачытаў, што ён выдумаў спосаб выгнаць Арцёма са студні.

— Хлопцы!—сумыслу галосна загукаў Тарас, каб Арцём пачуў: вураднік прыехаў, будзе пратакол пісаць за незаконнае сабраньне!—І, зьвярнуўшыся да Арцёма, Тарас пачаў яго лаяць і крычаць:

— Скарэй вылазь, Арцём! Што ты нарабіў тут?! Прыехаў вураднік, будзе пісаць пратакол, бо ты смуціш сяло, зьбіраеш і валнуеш селян. Вылазь скарэй і хавайся, бо напішэ, пратакол, у вастрог пасадзяць!—

— Вураднік, кажэш?—спытаўся Арцём.

— Ня ўжо-ж хто! ён! —

Арцём забаўбатаў абедзьвымі нагамі і зацягнуў:

„Адракомся ад стараго міра,
Атрасём яго прах з нашых ног“.

Селяне дружна зарагаталі.

— Марсільянку сьпевае! —

— Вось табе і Арцём! І вазьмі ты яго голымі рукамі.—

— Што мы, хлопцы, будзем цацкацца з ім? Бяры драбіны! Ніхай сядзіць!—Сказаў асаромлены Тарас Рубеж.

— Забірайце, забірайце, хлопцы!—гукнуў знізу Арцём,—бо яны мне замінаюць

тут. А адгэтуль ня вылезу. Што вы да мяне маеце? Ня вылезу ды і годзі. Курыць не даецё, сказаць ня хочэцэ, каму крумкачы насілі мяса... Бывайце здаровы, хлопцы!— І Арцём заварушыўся і адвярнуў голаву у куток студні.

— Кінь яму люльку! што с п'яным зробіш? Засьне, ешчэ захлынецца,—пачуліся нягромкіе галасы.

— Арцём! Лаві! — крыкнуў Карусь, і люлька паляцела ўніз, а праз мінуту с калодзіжа стаў узнімацца сіні дымок, як пара с катла.

-- Дзе ты, Сымонка? Сымон!

— Чаго, татка?

— Ды як зваўся прарок, катораго крумкачы кармілі мясам?

— Ілля! —

— Ну, вот! даўно-б так гаварыў!

— Вылазь, татачка! — сказаў павесялеўшы Сымонка.

— Вылазь, Арцём! падурачыўся ды і будзе,—загулі і селяне.

— А вы мяне любіце?—сказаў Арцём.

— Дзіва, што любім, — атказалі мужчыны.

— Я вылезу; але калі вы мяне запраўды любіце, то павінны згадзіцца на мае

варункі. Дык слухайце: Грыпіна не павінна ні лаяцца, ні сварыцца.—Грыпіна! Чуеш ты там?

— Чую, чую! Ну, добра—ня буду! —

— Пабажыся!

— Даль-Бог, ня буду!

— Дык слухайце-ж далей: усе павінны разыйсьціся, каб ніхто ні бачыў, як я буду. вылазіць. Згаджаецеся?

— Згаджаемся, згаджаемся!—Загамаnілі мужыкі.

— Ну, то вылажу!—

Драбіны заварушыліся, зараз-жэ с калодзіжа паказалася кудлатая галава Арцёма.

---

# Дзяліцьба.

I.

Ну, што ты з гэтымі бабамі зробіш?

Калі ў хаці жывуць дзьве бабы, то ўжо спакою німа.

Гыр-гыр-гыр! гыр-гыр-гыр! гыркаюцца яны ад самаго раньня.

Адна—капач, тая—мешалка.

Тая—гультай, другая—няўмека.

Так і кідаюць адна аднэй на вочы.

А як лягуць спаць, то кожная ўсю ноч шэпчэ на вуха свайму мужыку,—нагаварывае на другую.

Мужыкі толькі скрыва пагледаюць адзін на аднаго. Але, пакуль што, маўчаць.

Да дзяліцьбы ешчэ далёка.

Дзяліцьба ідзе вось у якім парадку: перш-на-перш на пляц выступаюць бабы.

Бабы сварацца год, год с палавінай, а то і цэлых тры. (Мой нябошчык дзед казаў, што яго нябошчыца жонка сварылася з яго нябошчыцай братавай цэлых дванаццаць гадоў!). Наўперад бабы сварацца па троху, — так, гадзіну, дзьве ў дзень. Потым сварцы адводзіцца больш часу — гадзін 5 — 6.

Да гэтаго часу мужчыны яшчэ маўчаць, набіраюцца толькі злосьці. Мужчыны сварацца часьцей у вечар, ці у сьвяты дзень, бо ў будні німа часу. А бабы тым часам пачынаюць пробаваць моц сваіх чубоў. Вараць яны у аднэй печы, але у асобных гаршчках. Дастаецца тут і бедным гаршчкам! А ўжо посьле жанок бьюцца мужчыны.

Каб падзяліцца, ешчэ мала пабіцца адзін раз: трэба найменш разоў восем, каб разоў тры засыхала скурка на носі, разоў шэсьць абадраць твар, ды ліхтар паставіць каля вока, а лоб убраць гузам, або і двумя. Тагды толькі можна лічыць, што права на дзяліцьбу здабыта.

II.

Дзякуй Богу, што Бог сярдзітым людзям не дае многа сілы!

Сымон ешчэ змалку паказаў сваю злосьць. Раз ён завёўся нешта с сваей сястрой Марцэляй. Мой Сымон так узлаваўся, што укусіў сястру за жывот. А то-ўжо быў ён дзяцюком. Сымон любіў часамі зухнуць. Загнаўшы да Коўна плыт, ён купіў сабе стары афіцэрскі сурдут. Бацька дома і давай прабіраць за гэта Сымона. Сымон кінуў аб зямлю сурдут, пачаў таптаць яго нагамі; — потым парваў на сабе кашулю, порткі, залез голы на жорны і сказаў:

— Так Пан Езус пакутаваў!

Мікола не ўступаў у злосьці свайму брату Сымону. Так, раз ён паехаў на поле па ячмень. Падыймалася хмара, грымела. Мікола наклаў воз на борздую руку. Толькі што ён нукнуў на каня, — шусь ячмень з воза. Мікола закіпеў, узлажыў другі раз. Не пасьпеў ён выехаць на дарогу — ізноў бух ячмень з воза!

— То ты гэтак??! — крыкнуў Мікола.

Схапіў тут парубень і давай малаціць

ячмень. Памалаціў, вытрас, салому палажыў на воз і сам сеў.

— Папробуй цяпер раскідацца, пракляты!

Другі раз Мікола пабіў у сваей хаці вокны, місы, гаршчкі. Нічому не давала спуску качэрга. Пабіўшы усё, што можна было пабіць, Мікола стаў сярод хаты і пазірае, каб ешчэ што пабіць. Але ўжо усё было спуставана.

Сымон і Мікола сварыліся ўжо гадоў тры, а за апошніе часы сталі і біцца, а гэта азначала, што скора будзе дзяліцьба.

Сымон і Мікола ў нашым сяле былі тым, што ў горадзі тэатр, толькі што білетаў ня трэба браць: прыхадзі сабе, слухай, пазірай, весялі сваю душу.

І Карусь с-пад карчмы кожны вечар стукаў у вакно свайго суседа Базыля.

— Чаго ты? — пытаўся Базыль.

— Хадзі у Сьвінную вуліцу: зараз будзе бой.

Базыль апранаў кажух, браў капшук з люлькай і ішоў на двор. Закурыўшы люлькі, яны ішлі у Сьвінную вуліцу. — Карусь паперадзі, Базыль на два крокі з-заду. У Базыля ў люльцы быў цыбук просты,

у Каруся — крывы. Дым з Базылёвай люлькі ішоў з гары, а с Карусёвай — з нізу.

## III.

А ў Сьвінной вуліцы, каля Мікалаевай і Сымонавай хаты, была ўжо цэлая камэдыя.

Тут былі і старые, і малые, і бабы, і дзеўчаты.

Глаўнае мейсца займалі Сымон з Мікалаем. Сварка с першых слоў дакляроўвала цікавы бой. Вакруг ваяк стаяла жывая сьцена народу. На перадзі стаяла неколькі чэлавек, каторые борзда умелі зьвясьці Сымона з Мікалаем. А другіе толькі пазіралі. Калі „звадыяшы“ бачылі, што бойка раскідаецца, то тагды ўмешваліся яны.

— Эй, Сымон! Як табе ня брыдка? Мікола даў дулю, а ты толькі нос атхіліў.

— Дык я яму дам дзьве! — крычаў Сымон і торкаў Міколе дзьве фігі.

Другі звадыяш пхаў Міколу на Сымона, і бойка гатова!

Але на гэты раз звадыяшам не было чаго рабіць: Базыль с Карусём — а яны заўсёды прыходзілі к пачатку камэды, як

якое начальства, — убачылі вось што: Сымон трымаў у руках мялён, а Мікола — грамнічную сьвечку. Сьвечка была мала чым менша ад мялёна, — палкі, каторай круцяць жорны. Аказалася, што бой быў у хаці, і Сымон прыпёр Міколу у кутку. А як бараніцца не было чым, то Мікола і схапіў сьвечку, каторая стаяла каля Міколы Чудатворца. Мужчыны адабралі ад іх мялён і сьвечку.

Нейкі чорт так і цягнуў байцоў аднаго да другога.

Зляпіліся.

Такая была цікавая бойка, што аж месяц залюбаваўся ёй. Ўсё сьціхла.

Ўжо Мікола быў тры разы на Сымону і тры разы пад Сымонам, а бой усё ідзе. Патаміліся яны, як пеўні.

— Стой! Стой!—крыкнуў Сымон:—дай, абору падвяжу!

У баю развязалася аборка на Сымонавым лапцю. Мікола стануў.

— Гы-гы-гы!—рагатаў Карусь.

Сымон стаў падвязываць абору, а Мікола стаяў каля яго: чэкаў.

— Ну, цяпер!—гукнуў Сымон, паправіўшы лапаць.

Мікола не даў нават Сымону атсап-

нуцца і наляцеў на яго хрыбеціну. Сымон прыгнуўся йшчэ больш і схапіў Міколу у поў так, што ногі у Міколы апынуліся ў гарэ і так спрытна бурканоў Міколу, што той стаў на ногі.

— Чэкай! чэкай, Сымон!—загаласіў разам Мікола.

І пакуль Сымон аглядзіўся, што такое прылучылася, у грамадзе падняўся рогат. Карусь выпусьціў з зубоў люльку, а Базыль выцер рукою шыбу. Ўсе аж трэшчалі ад сьмеху: у Міколы спаўзла адзежына!

Нават Сымона праняў сьмех.

— Вось як біцца с Сымонам! — гаварыў ён.

І пакуль Мікола апранаўся, Сымон накладаў у люльку тутун з поглядам чэлавека, ўзяўшаго верх.

---

# Знайшлі.

---

I.

Мікалай не памятае, як ён запрог каня, як сеў на воз і выехаў з Мінска. Суседзі на заўтра казалі, што Мікола сеў ўпоперак воза, так, што адна нага яго была у драбінах, а другая выстаўлена на фасон пісталета. Колькі праехаў ён такім парадкам, ня ведаюць, бо Мікалай скора схаваўся за капаніцамі на паввароці. Усё гэта ні так ужо важна — ці мала як едуць с кірмашу людзі! — важна было тое здарэньне ў дарозі, каторае вымагае таго, каб упамянуць, як Мікола выехаў з гораду. Мікалай як праз сон памятае дарогу, тые крамкі на краю горада, тые карчомкі з вывескамі „Піво", дзе затрымоўваліся селянскіе хурманкі, каб купіць якую-небудзь дробную

рэч і ў апошні раз папрашчацца з горадам, хлабыснуўшы на дарогу шклянку піва. Мікалаю нічога гэтаго ня трэба было, і каб яго хто запытаў тагды, што ў яго на карку—капуста, гарбуз ці галава, то ён зразу напэўна не адказаў-бы па тэй прычыне, што ён ня чуў галавы. Скарэй усяго яму здавалася, што на плечах у яго быў кацёл.

Мікалаёў конік, ня чуючы над сабою цьвёрдай гаспадарскай рукі, пачынаў патрошкі лайдачыць: ён ішоў то адным краем дарогі, то другім, то сярэдзінай, балазе дарога была шырокая; а часамі проста атпачываў і толькі азіраўся, ці зважае гэта гаспадар, ці не бярэцца ён за пугу; або падыходзіў да чужога воза, цягаў сена, смакаваў канюшыну, вялікі быў ласун на шчот торбы з аўсом. Шукаючы аўса, ён скінуў торбу с сольлю с чужога воза. „Купіў не купіў, а патаргаваць можна“,—разважаў Мікалаёў конь. Праўда, ён дастаў сабе па мордзі, ды ці варта на гэта зьвертаць увагу? А Мікалай ні варушыўся і лежаў як нябошчык. Покі адышоўся конік вярсты тры ад гораду, прайшло добрых тры гадзіны часу. Людзі йшлі і ехалі. Шырокая дарога гаманіла, гула і стагнала ад людзкіх галасоў, груку калёс і стуку капытоў.

На бок! — гукалі часамі Мікалаю, а Мікалай і ў вус сабе ня дуў, бо нічога ня чуў. Яго абганялі, аб'ежджалі, кідалі жарты, бо што возьмеш с п'янаго? А можэ людзі памяталі словы нябошчыка Базыля, каторы вучыў:

— Не чэпай п'янаго: п'яны усё роўна, як сьвяты.

Мікалай быў ужо далёка ад Мінска, як ён крыху ачухаўся і прышоў у памяць. Конік сам даўно зьвярнуў с шырокай дарогі, і да дому аставалася вёрст пяць. Палажыўшы на воз другую нагу, Мікола спыніўся, агледзіў воз і паправіўся. Ўсё было ў возі, не хапала толькі аднэй рэчы: на галаве не было шапкі.

## II.

Нідалёка ад тэй паваротки, дзе зьвярнуў Мікалаёў конік, была ешчэ паваротка на права у другую вёску. Мікалай ня ведаў, што у некольки кроках за ім ехала другая хурманка і што ён не адзін такі на сьвеці, а ёсьць ешчэ ня горш яго дзюбануўшы Нічыпар Касмык. Нічыпар так сама нічога не знаў пра Мікалая і лежаў на

возі, як пласт. Лежаў ён галавой к конскаму заду, абняўшы мяшок атрубоў, і гаварыў з ім, як з пярвейшым другам на сьвецї, бо думаў, што гэта быў не мяшок з атрубамі, а яго добры знаёмы, катораго ён узяўся падвязьці.

— Ты кажэш, брат, што гарох у цане? На усё цяпер расьце цана... На лета засею ўсё поле гарохам... Но-о! — гукнуў Нічыпар і хвасануў пугаю па воздусі у той бок драбіны, дзе з роду, не запрагаўся конь.

— Лявон! — гаварыў далеў Нічыпар да мешка: — давай займёмся гарохам, га?.. Што, брат Лявон, ці не казлы ты ўжо дзярэш? Эх, ты слабейка: выпіў, як куранё, а зьвіўся, як вуж, глынуўшы жабу. Гной ты, а не чэлавек. —

Тут Нічыпару ўспомнілася песьня пра Лявона, і ён зацягнуў:

„Ды Лявон мой
Ды павёз гной,
Ды ляцела варона
Ды схапіла Лявона“.

А „Лявон“ лежаў сабе і нібыто таго. Пад'ехаўшы з паўвярсты, Нічыпар палопаў на мяшку і сказаў: — Ось ты, Лявон, і чужы мне чэлавек, а чаму я цябе люблю?

А за тым люблю, што ты, як і я, чэлавек бяз хітрыкаў. Што, я буду каго абгаварываць? Зайздросьціць каму? Ці, як Сымон Очэп, буду хадзіць у воласьць жалабы пісаць? Ні с кім я не сварыўся, ня біўся, не судзіўся, бо то апошні чэлавек, хто судзіцца. Ніхай лепш маё пяройдзе. Бог сьвяты, мне верне. А калі трэба выпіць, то і выпью, ды розуму не прапью, што тут глаўнае... піць, але не прапіваць розум. Так я кажу?.. Эх, мілы ты мой друг! абмазаліся мы с табой вакруг і сядзімо ў гнаі, як у крэпасьці! — Нічыпар цяжэй налёг на мяшок, абняў і стаў яго цалаваць.

— І сыты-ж ты, ліха твайму ліху, проста, як мянёк! Дзе ты нагуляў гэтулькі сала? Ось як вазьму я цябе, як скіну, як шпурну, то ты у мяне апынешся... у Сёмкавым гарадку! Што, можэ скажэш не шпурну? Не шпурну? я цябе не шпурну?! Дальбог шпурну, так шпурну, што косьці забраждджаць! Хто ты мне? бацька або дзядзька? дзяцей я с табою хрысьціў? Вон з майго воза! —

Нічыпар апхапіў мяшок, лёг з ім у рад, узняў таўхануў каленам і кінуў на дарогу.

— Разлёгся-бо, як пан які, — пачаў Нічыпар, каб апраўдацца перад сабою: —

я чэлавек такі: ні с кім не судзіўся, бо судзіцца не люблю раз, раз — і гатова!..

Доўга бубніў Нічыпар, — покі ахамянуўся, што і ў яго німа на галаве шапкі.

## III.

На тым мейсцы, дзе раз'ехаліся Мікалай з Нічыпарам, лежаў стары капялюш. Я колькі разоў бачыў яго на свае вочы, як пехатой ходзіў з Мінска у Беларучы. Гэты капялюш і цяпер ешчэ жыў ў маей памяці. Я ні магу ня ўспомніць пры гэтым майго друга, пісара, каторы першы, можна сказаць, зьвярнуў увагу на капялюш, як сьледуе быць. Пісар меў на рэдкасьць чуткую душу, мягкае сэрцэ і жывое слова, каторым ён так валадаў, што мог, здаецца, заставіць плакаць каменьня. Ну, што, на праўду, выяўляе сабою стары, спаршывеўшы капялюш, каторы быў вывезены на поле з якога небудзь сьметніка, а потым занесены ветрамі на дарогу? Так пазіраем на рэчы мы, простые людзі, так пытае звычайны чэлавек. Але ня гэтак зірнуў на яго пісар.

— Капялюш! — сказаў пісар і таўха-

нуў мяне локцям: — ляжыш ты цяпер тут адзін, і топчуць цябе людзкіе ногі. Цябе даўно забылі і кінулі аднаго, аднаго на зьдзек цэлаго сьвета. Пячэ цябе сонцэ, дажджы палівающь, топчуць у гразь, нагой паткідаюць. А ты, маўчалівы, ляжыш сіратою, і ветры сярдзіта шумяць над табою! І ніхто і ніколі цябе не спытае. Што твой за век быў і доля якая. — Тут пісар высмаркаўся, вочы яго былі мокры ад сьлёз.

— А былі-ж і ў цябе сьветлые часы, вясёлые дні, і табе, сірацiна, сьвяцілі агні. Навенькім выйшоў ты з майстравых рук дзе-небудзь у Лодзі, або і ў Варшаві, і цябе не насілі ні Янук, ні Пятрук, а пан які важны, і быў ты у славі...

Ды дзе там?! Я не скажу і дзесятай долі таго, што казаў пісар. Але ці так яно было, як ён казаў, ці іначэй, я ня ведаю. Адно я толькі знаю, што гэты стары капялюш прыцягнуў да сябе двух п'яных гаспадароў.

Зьвярнуўшы каня і трымаючыся за аглобіну, плёўся Мікалай, прыглядаючыся, ці не ляжыць дзе шапка. З другога боку, такім жэ парадкам, пхаўся і Нічыпар. Што было у іх думках, сказаць трудна. Па тым,

як яны плёвалі, можна было вывесьці, якое у іх было пачуцьцё.

— Можэ падняли часамі шапку? — спытаў Мікалай, спаткаўшы трох хлопцаў: конь, воўчае мяса, спудзіўся, нёс з вярсту, і шапку згубіў, ось.

— Не, не паднялі, — атказалі, на момэнт спыніўшыся, дзяцюкі.

— Якая-ж хвароба панесла твайго каня? Ці ня выпў ён? — спытаў потым адзін.

— Можэ ты без шапкі выехаў з дому?

— Глядзі, яе даўно ужо па этапу павялі — сьмеяліся хлопцы з Мікалая.

— Я бачыў якбы шапку на шляху. Чарнелася нешта; можэ гэта твая, чэлавечэ, шапка, сказаў--ехаўшый на гэты час гаспадар с Паперні.

— Ото дзякую, ведама мая! — сказаў Мікалай сеўшы на воз і пагнаўшы коніка. З другога боку так сама і Нічыпар распытываў жанок, ці ні бачылі яго шапкі.

— А якая-ж твая шапка? старая? — спытала адна.

Нічыпар паглядзеў на кабету: жартуе яна, ці не і гаворыць:

— Равесьніца тваей хустцы.

Жанчына угневалася.

— Ніхай сабе і равесьніца, але мая —на галаве, а тваё за́ткала на шляху валяецца. і ніхто ня хочэ браць такую брыду.

— Брыда, хай брыда, а знайцзецца — не бяда, — вясёла залаташыў Нічыпар.

— Хто пытае, той ня блудзіць, — сказаў Мікола, здалёк угледзіўшы капялюш.

— Тпрру!

— Язык век па балоці скачэ і не гразьне дый ешчэ і ў Кіеў у карчму завядзе,— гукнуў і Нічыпар, так сама убачыўшы капялюш.

І Мікалай і Нічыпар пазлазілі з вазоў і разам працяглі рукі да капялюша.

— Ня руш: гэта мая! — асекае Мікалай і тузнуў капялюш.

— Як-то твая? — спытаў Нічыпар.

— А так мая: п'яны быў і згубіў, вярнуўся і знайшоў, ось і мая.

— А я цьвярозы быў і згубіў, дык, значыцца, мая! — упёрся Нічыпар.

— Ну, пусьці! — рвануў дужэй Мікалай.

— Фіў! — сьвіснуў Нічыпар, крэпка трымаючы капялюш.

— Ня тузай, парвеш! — злаваў Мікалай.

— Ня рві — патузаеш! — перэдражніў Нічыпар.

— Ось як тузану, то ты і ногі задзярэш! — сусім узлаваўся Мікола і штурхануў Нічыпара плячуком. Нічыпар — Мікалая. І два гаспадары пачалі валтузіцца па полі, не пускаючы з рук капялюша. Патаміліся абодвы, як пеўні. Ні той, ні другі не адыймаў ад капялюша рук. Маўчалі і толькі цяжка саплі, як кавалёвые мяхі.

— Што будзе? — спытаў Мікалай.

— Нічога ня будзе; атпачынем ды ізноў будзем баранавацъ, — атказаў Нічыпар: — я чэлавек такі: біцца ні хачу, судзіцца не люблю і я, апроч таго, чэлавек бывалы: быў у кузьні і у млыне. І тут — гу! гу! і там — гу! гу! — і нічога разабраць ні магу, — і пашоў і пашоў балабаніць Нічыпар. Мікола перш слухаў, а потым стаў углядацца на тое, што яны трымалі.

— Ты што згубіў: шапку ці капялюш?

— Шапку, — атказаў Нічыпар.

— І я шапку. А гэта, брат, прыгледзься, саўсім не шапка, а дрэнь. І ты дурэнь і я дурэнь.

— Ці-ж?

— На бяры! — пусьціў Мікола капялюш

Павярцеўшы ў руках, Нічыпар шпурнуў яго аб зямлю і зірнуў на Мікалая. Колькі момэнтаў яны не спушчалі адзін з другога вачэй.

— Цьфу! —

— Цьфу! —

— Нічыпар? —

— Мікалай? —

— Бадай ты запаветрылася, — сказаў Мікалай: хоць-бы ніхто не бачыў! І што мы скажэм ім, бабам? заядуць! —

— Ось паедзем у Паперню, аднака блізка, і надумаемся там, што казаць. Ня выпіўшы, не патрапіш. —

---

# Выстагнаўся.

---

I.

Іван Кіслы гараваў ўсё сваё жыцьцё. Усё горэ было ў тым, што у гэтаго гора было ешчэ сваё горэ: заўсёды выпадала так, што беднаму Івану ніколі не удавалася выплакацца, выгараваца, выскардзіцца і гэтым самым выліць з душы ўсю гаркату, усю боль пахілаго жыцьця. І ўсё складалася, як сумыслу, якбы нейчая злая воля неатступна цягнулася за Іванам і не давала яму здарэньня аблягчыць яго душу. Цягнулася яна з даўных-даўных часаў, с тых часаў, калі Івана ешчэ трудна было адлічыць ад Мар'і, іначэй сказаўшы, калі Іван ешчэ пехатой хадзіў пад стол. Разравецца, бывала, Іван... ды каб-жэ раз-

роўся, як людзі: толькі скрывіць губы, глядзіш — ужо маці зьнімае хвартух і мабілізуе паскі на Іванаву сьпіну—„ня сьмей плакаць“. Дзе тая праўда на сьвеці? Чаму Антось як пачне плакаць, то кінецца на сьпіну аб зямлю і барабаніць нагамі так, што яму можэ пазайздросьціць найпершы барабаншчык? Вазьмі-ж ты. Выйдзе Іван на вуліцу, завядзецца с кім біцца — што-ж гэта за чэлавек, калі ні разу ні пабіўся?— паб'юць, пакрыўдзяць Івана. Што-ж бы вы, добрые людзі, рабілі, каб вы самі былі Іванамі? Вы-б заплакалі, і ўсякі-б заплакаў. А чаму не паплакаць Івану? Але-ж ніхай папрабуе заплакаць: засьмяюць, заплююць ды ў прыдачу горш наштурхаюць.

Раз Іван, моцна пакрыўджэны, адважыўся зайці ў кусты на берэг рэчкі. Прышоў Іван, азірнуўся, сеў на беражок, прыслухаўся. Тут, думаў ён, ніхто яму не пашкодзіць атплакацца за усё. Кругом было так сумна, так ціха. Здавалася, ўсё журылася і настроілася слухаць плач Івана. І нешта ў сярэдзіні, каля самаго сэрца, так завіло, так сьціснула, што Іван раптам нагнуў галаву і мімавольна падняў калошы портачэк: яму здавалася, што у яго так многа выцячэ сьлёз, што вада ў бера-

гох ня ўтоўпіцца. І толькі Іван завёў: „А-о-о-а—гы!“ Як с таго берэга паказалася с кустоў галава рыбака Сёмкі.

— Гэта ты прышоў, пужаць мне рыбу, злодзей ты?! Я табе паскавычу.

Так і засталіся нявыплаканые сьлёзы.

II.

Іван асірацеў. Астаўся ён адзін на сьвеці, бы тая калатоўка. Быў ён на плытох і не бачыў, як хавалі бацькоў, так што і тут Івану не ўдалося паплакаць, як людзі. Сёстры яго павыходзілі замуж, адзін брат выбраўся у Амэрыку, другі паехаў у сьвет шукаць шчасьця і долі. І Іван астаўся адзін гаспадарыць. Ад бацькоў засталася яму хатка, сякая-такая будоўля, надоба, худоба і паўчверці зямлі. Была у Івана на прымеці і дзяўчына. Праз колькі месяцаў посьле сьмерці бацькоў ён зрабіў заручыны, а на Сёмуху было назначэна вясельле. За тыдзень перад Сёмухай Іван занядужэў. Доўга ён не паддаваўся, перэмагаўся, і ўсё-ж такі мусіў, бедны, здацца. У сераду перад Ушэсьцем, так пад вечар, Іван залёг. Сьвяжыць Іван, а работа ўся

стаіць, рабіць некаму, хата непадмецена, ўсюды непарадак. А на што ён, парадак гэты? думае Іван, ўсё роўна ён памрэ; знайдуцца добрыя людзі і пахаваюць яго. Івану стала горка, як ніколі. Усё жыцьцё, шэрае, невясёлае жыцьцё, прайшло ешчэ раз прэд яго вачыма. Што-ж? ён памрэ. Яго закапаюць, і згніе ён, забыты скора навекі, і нічые вочы не затуманяцца слязьмі, як яго будуць несьці на могілкі. І гэта называецца жыцьцё; гэта яго век!.. Адна толькі сьветлая мінуціна мігалася яму, як адзінокая зорачка ў безрадасную восень: цяпер яму ніхто не пашкодзіць усім нутром, усею сілаю змучэнай душы аддацца смутку і жалю; хоць цяпер атплачэ ён ўсё горэ жыцьця, атстогне ўсю боль: ласьне чэлавек ні мае права хоць на адну мінуту, сьветлую мінуту, ў жудаснай імгле цёмнаго жыцьця?

Іван паправіўся на пасцелі, зьмяніў палажэньне свайго цела і абвёў поглядам хату. І толькі што ён прыгатаваўся застагнаць, як на парозі паказалася фігура яго маладой. „І хто яе прасіў сюды? Чаго яна тут?“—падумаў Іван і нахмурыўся.

— Галубок ты мой! што ты выдумаў хварэць? — жаласьліва спытала яго Магда.

— Ня добра мне, Магда. Мусіць і я пайду за бацькамі — сказаў Іван. Яму самому так горка стала ад сваіх гэтых слоў, што сьлёзы гатовы былі самі паліцца з вачэй.

— Ну што ты выдумляеш? папра́вішся Іванка, — і Магда прылажыла руку да лба Івана. Ешчэ большы жаль падшыб Івана. Хіба ўзяць ды заплакаць? зараўці на ўсю хату? Не! падумае, што ён — нюня, плаксівая баба; ешчэ і замуж не захочэ пайці. А боль так і ходзіць па ўсім яго целі, і яму, Івану, так хочэцца застагнаць. „Ці застагну ці не?“ думае Іван. „Ой, скарэй-бы яна йшла да дому!“

— Мне, Магдачка, ні так ужо і кепска, пачаў разважаць Іван Магду: — паляжу трохі і ўстану.

— Вось маладзец! — сказала Магда і нагнулася, каб пацалаваць хвораго. Дрож прабегла па целу Івана, яму стала надта прыемна. Ды Іван ахамянуўся: гэтак і ахвота пройдзе стагнаць і аддацца смутку.

— Можэ-б табе, Іванка, спарыць ґарнушачак малака?

Іван заматаў галавою і павярнуўся на другі бок.

Магда колькі мінуцін пасядзела маўч-

ком, якбы раздумываючы над тым, узлавацца ці не. На ўсякі выпадак яна надзьмула губкі і насупіла крыху бровы. Іван незаметна павярнуў галаву і зірнуў на яе адным вокам; не — не выпадае так рабіць. Не адварочываючыся, Іван падняў руку і палажыў на плячо Магдзі. Гэтаго было даволі, каб Магда змякчэла.

— Паляжы, саколік, а я прыбяру крыху ў хаці, — і, ўзяўшы венік, яна стала падметаць хату, рабіць парадак, стаўляючы кожную рэч на сваё мейсца, а бедны Іван увесь аж кіпеў. Яму раптам зрабілася так ня добра, так заламала яму косьці, якбы хто ціснуў яго апцугамі, аж ён скрыгікаў зубамі, каб стрымаць стагнацэньне, падкорчваў і выпростваў ногі, варушыўся і пакутаваў, як пасолены мянёк. А Магда так павольна варушылася, якбы і ня думала ісьці да дому. Часамі выходзіла яна ў сенцы ды зараз-жэ ізноў паказывалася ў хаці. А Іван, чуць толькі яна выйдзе, тароппа углядаўся і прыслухаўся, як далёка адышлася Магда, каб застагнаць хоць адзін разок, і ніяк не ўдавалася.

— Божэ мой! што яна робіць са мною? Скарэй-бы пайшла ўжо адгэтуль—не цярпелася Івану.

— Ну, Іванка, бывай здаровы...

Іван узрадаваўся на момэнт, ды зараз-жэ ешчэ горш апаў духам, як Магда скончыла гаварыць:

— Ідзе сюды мама.

Сказаўшы гэта, Магда борздзенька пацалавала ешчэ раз Івана, прыгнула галаву і ціхачом шмыгнула за парог, на задворкі, каб не спатыкацца з маткай, і пашла дамоў.

— Эй, малады, малады! брыдка! Праз тры дні вясельле, а ён расьцягнуўся, як навой! — громка, на ўсю хату, забарабаніла Настуля, Магдзіна маці.

— Што у цябе баліць, Іванка?

— Нічога, — буркнуў сярдзіта Іван.

— Дык чаго-ж ляжыш?

— А што-ж мне рабіць? скакаць?

— На вясельлі скачы, а цяпер ачунівай. Пакажы, сынок, свой лоб. — Іван злосна заварушыўся, лёг на сьпіну і выставіў лоб.

Старая Наста прылажыла руку на лоб, потым збоку, потым з другога.

— Трохі ёсьць агонь, але нічагутка, глупства. Гэта табе з ветру пашкодзіла. Ось

я зараз напару ліповаго цьвету с чаборыкам, выпьеш, прапацееш і пройдзе.

— Я і так ужо пацею, — адазваўся хворы.

— Ну, гэтаго мала: трэба, каб спацеў ад зёлак, — стаяла на сваём Наста.

Бачыць Іван, што тут нічога ня зробіш.

— Нічога мне ня трэба. Дайце мне палежаць спакойна, і ўсё пройдзе.

— Хто-ж табе ні дае лежаць? ляжы сабе, а лекарства я табе ўсё-ж такі дам.

— Ведаецця што, — пусьціўся Іванка ў хітрыкі: — мне так заманулася гарэлкі, што здаецца, каб выпіў чарачку, то зразу ачуняў-бы. Каб як сказаць Магдзі, ніхайбы прынесла мне кручок.

— Гарэлкі зажадалася, кажэш?

— Ой, як хочэцца!

— Ну, то яна напэўна паможэ. Калі хворы чэлавек моцна хочэ чаго, то тое памагае. Я помню, мой Андрэй хварэў на тыфус. Стаў крыху ачунівать. Зажадалася яму хлеба, як табе, ось, гарэлкі. А дактары — Божэ барані есьці чорны хлеб. Я мусі-

ла хаваць ад яго хлеб, хоць ён і стары, мой Андрэй, але хворы горш малога. Раз ён устаў ціхэнька ў ночы, зайшоў ў камору і чуць што ня цэлы бохан вытрубіў, і што-ж ты думаеш? Як бачыш ачуняў... Ну, я пайду.

Счэкаўшы крыху, Іван падняўся, падышоў да вакна — нікога німа. Тагды Іван паваліўся на пасьцель, накрыўся коўдраю, потым нагамі сьцягнуў яе с сябе, схапіўся за бакі.

— Ой! ой! ой! о-е-ё-ё-й — заойкаў, застагнаў Іван і сам ня верыў гэтаму шчасьцю. Стагнаў ён доўга, стагнаў на ўсе лады і галасы: то высока і тонка, то нізка і тоўста, то каротка, адрывіста, то працяжна і пявуча; пры гэтым ён варочаўся, корчыўся так, што зубамі мог дастаць свае калені, то выцягаўся, колькі дазвалялі яму скура, жылы і косьці.

А як перэстагнаў ўсё, то пачаў высьпевываць свае стогны на манер песьні „Сонцэ ўсходзіць і заходзіць“.

— О-о-о-ей! о-ё-й! — да!

— Вось табе і хворы: ляжыць сабе ды сьпевае, — сказала Настуля, пераступіўшы

з Магдай парог хаты. У хвартуху у яе быў гарачы імбрычэк з зёлкамі і паўкварты гарэлкі.

— Выстагнаўся, дык і паправіўся, — сказаў усьміхаючыся Іван.

---

# Злавіў!

Дапісаўшы апошнюю страніцу прызыўных спіскоў, пісар Па́вал Дурундовіч разагнуў сьпіну і далёка працяг пад сталом ногі.

— Канец і Богу слава! — сказаў пісар і шпурнуў на стол ручку. Зірнуўшы на гадзіннік, ён борзда падняўся, сказаўшы:

— О-о-о!

Было каля поўначы. Сторaж Грыгор даўно ужо спаў, разваліўшыся па падлозі каля дзьвярэй. С таго кутка, дзе ён спаў, няслося столькі ўселякіх зыкаў, што трудна было паверыць, каб гэтые зыкі вылеталі з аднаго чэлавека.

Цяпер толькі пісар зьвярнуў на гэта

увагу і, зачыняючы шафу, сказаў, зірнуўшы у бок стоража:

— Маладзец, сам іграе і сам ўтурыць! Ігрышчэ дый годзі.

У спальні пісара даўно ужо чэкала ложка з мягкім матарацам на спружынах і з высока ўзбітымі падушкамі; запаліўшы сьвечку, пісар разьдзеўся і лёг у пасьцель, згайдануўшыся разоў пару.

— Хораша, чорт вазьмі! — сказаў пісар, пацягаючыся, і прыемнае пачуваньне агульнаго здаволеньня ахапіла ўсё яго цела.

— Стушыўшы сьвечку, пісар да грудзей толькі нацягнуў лёгкую коўдру, бо на дварэ і ў хаці было душна, як у лазьні.

Колькі мінут пісар палежаў спакойна, думаючы аб сім і тым. Яму было добра: непрыемная работа,—прызыўные сьпіскі,— закончэна: земскі начальнік знайшоў усё ў парадку; рэвізія так сам нічога кепскаго не замеціла. Адным словам, пісар папаў у тую паласу жыцьця, калі чэлавеку шанцуе і ўсё ідзе, як па пісанаму. І сон, салодкі сон, з мінуты на мінуту гатоў быў самкнуць яму вочы. Але толькі што стаў

ён дрэмаць, як па яго сьпіне борздзенька прасунулася маленькая, чорная, жвавая жывёлка, ўсё роўна, як там закраўся чарток і паказытаў яго каласком. Пісар цопнуў усей жменяй па тым мейсцы, дзе прапоўз няпрошэны госьць, моцна надушыўшы сьпіну. Маленькі вораг пстрыкнуў і прапаў. Чутачку счэкаўшы, зноў пачуў пісар лёгкі сьверб, ужо на назе, якбы хто запускаў туды павольненька тонкую голачку. Прыгнуўшы нагу, каб спрытней было злавіць скочку, пісар раптам накрыў пальцамі сьвярбючае мейсцэ і, крэпка паціснуўшы, павёў па назе. Праклятая жывёлка зноў прапала. Ня ўсьпеў ён, як мае быць, пачухаць нагу, як у яго засьвярбеў зразу і карк і бок, цяпер ужо шмат мацней, якбы яго секанулі крапіваю. Сон пісараў адразу прапаў.

— Бадай вас агонь высмаліў, як вы смаліце, — сказаў пісар, с сілаю хапаючыся за карк.

Пісараў карк быў абросшы густымі валасамі. Ловячы блаху, ён няўмысля скрабянуў сябе за валасы, ды так моцна, што чуць ня крыкнуў ад болю. Гэтак, бывала, як ён быў малы, нябошчык дзядзька яго паказваў яму, „як даюць квасу“. Уся гэта

гісторыя кончылася тым, што пісар узлаваўся.

— А каб вас маланка папаліла! — сказаў ён і падняўся. Абмацаўшы на століку серчыкі, пісар запаліў сьвечку і адвярнуў коўдру. Жвавые скочкі разам скакануліна ўсе бакі і пахаваліся; толькі адна разоў тры кульнулася па падушцы, і пісар разоў тры пакрываў яе рукою, але спрытная скочка кожны раз шчасьліва выкручывалася ад сярдзітай пісарэўскай рукі.Ператрос ён ўсе бэбахі на пасьцелі, але нічога не злавіў. Хоць-бы адна, сьцерва, папалася, хоць-бы злосьць спагнаў. Абрэвізаваўшы пасьцель і уласные пазухі, пісар зірнуў на сьцяну. Там павольна, не сьпешаючыся поўз клоп. Здавалася, што ён сабраўся у вялікую дарогу, толькі што не было у яго палкі і клунка.

— А, гад! а пашпарт у цябе ёсьць? — спытаўся пісар і патскварыў яго сьвечкаю.

Падняўшы сьвечку у гару, пісар азірнуў увесь пакой. Праз вокны глядзела чорная ноч. Вакруг было ціха. Толькі з другога ложка даносіўся мерны сап яго жонкі ды з-за сьцяны Грыгор не перэставаў спраўляць ігрышчэ.

— І скачыхі іх не кусаюць, — пазайздраваў пісар і зноў патушыў сьвечку.

Колькі часу пісар лежаў з аткрытымі вачамі. Сон ужо ня йшоў да яго. Але памаленьку, ён зноў начынаў сьціпшывацца, здавалася, ужо цяпер блохі баяліся чапіць пана пісара, і ён ужо забываў пра іх. Якбы гэтаго толькі яны і чэкалі: толькі што ён павярнуўся на другі бок, як нехта крэпка-пякуча укусіў яго за жывот. Пісар увесь аж патскочыў.

— Ах, каб на вас Бог халеру напусьціў, — лаяўся пісар. А тут за сьцегняк яго, як утне!

— Каб на вас мор і упадкі! — сярдзіта бубніў пісар і варочаўся, як мянёк на скаварадзе. Цяпер пісар не выстрэнчываў чухаць пакусаные мейсцы. Усюды яго цялі: за ногі, за рукі, за сьпіну і бакі. Павёўшы правою рукою па левым баку, пісар абмацаў нешта і крэпка прыдушыў пальцам.

— Трасцу ты цяпер вырабішся! — злорадным голасам гаварыў пісар.

Схапіць у пальцы ён не адважываўся, бо чуў, што стоіць толькі зьмяніць палажэньне пальца, як яго дабыча уцячэ. А пусьціць яе шкада: яна адна можэ двац-

цаць разоў укусіла яго. Трэба злавіць брыду, і хоць паназьдзеківаццa з яе.

Якраз прачхнулася і жонка.

— Ты ня сьпіш, Оля? — пытае пісар жонку, ні адыймаючы рукі.

— Не!

— Дык устань, брат, запалі сьвечку і падыдзі сюды.

— Што там у цябе?

— А вось ідзі — будзеш ведаць.

— Жонка паднялася с пасьцелі.

Запаліўшы сьвечку і зірнуўшы на пісара як ён трымаўся за бок, жонка была спалохалася. Але пісар быў здароў, бо пазіраў вясёла, як і ўсякі, хто злавіў злодзея.

— Ты ведаеш Оля: качаюся гадзін дзьве, ніяк не засну. Блох у нас, як пяску. А цяпер я нешта злавіў, і чорт яго ведае што.

— Аткуль тые блохі? Хіба клешч, бо ты-ж любіш гэтые маёўкі ў лесі. Пакажы!

— Сьвяці сюды!

Сабраўшы усе сілы, пісар ешчэ раз прыдушыў свайго ворага і паволі стаў браць пальцамі. Вабраў. Пацягнуў — не адрываецца.

— Клешч, каб ён згарэў! — сказаў пісар.

— Дай зірну, — сказала жонка і нагнулася, а пісар адняў руку.

— Ну?

— Цьфу, дурэнь: гэта-ж барадаўка!

---

## З днеўніка пана Жылака.

*Запіскі С - го іграка*

---

Пана Жылака знaлі ня толькі ў нашых тутэйшых закутках, але і далёка, навокала. Гэта быў чэлавек, каторы аставіў ва ўсіх надоўга, каб ні сказаць на ўсё жыцьцё, памяць. Яго будуць памятаць і нашы і не нашы. Нават такі чэрствы і шорсткі чэлавек, як наш крамнік Довід Рэзгін, і той уздыхне і пачухае патыліцу усякі раз, калі хто ўспамяне імя нябошчыка. Праўда, наш вялікі знавец душы чэлавека, Гаронім Цыбаты, гаворыць, што ўздохі і пачухі патыліцы Довіда Рэзгіна маюць на гэта свае асобые прычыны: нябошчык пакінуў Довіду шмат неаплачэных квіткоў, бо меў звычай браць на павер. Але ні мае

граніц людзкая злосьць і лёгка кінуць чорную пляму на добрае імя чэлавека; ды і сам наш душавед, Цыбаты, не сыскаў з нябошчыка 7 руб. 35 кап., каторые той прайграў яму ў карты. Жылака хавалі з вялікім пыхам, а ў вечар таго дня яго сябры устроілі хаўтуры, і ўсю ноч звон чарак далёка нёсся поруч з душою нябошчыка, праводзячы яе туды, гдзе ўжо спрадвеку прыгатавана ёй месйца і аткуль ужо ніколі ні знайдзе яна дарогі назад.

Я так патрэсены яго сьмерцьцю, што мой язык ня можэ сказаць і цені таго, што выяўляў сабою нябошчык. Каб хоць крыху пазнаёміць вас з яго натураю, я скажу тут тые словы, каторые у вечар былі казаны нашым прамоўцам Антосем Гладышом. Навярнуўшы на званковаго караля 10 кап. медзякамі, 10 срэбрам і патсунуўшы ешчэ залатоўку пад жывот каралю — „мазу“ (якраз гралі у тэхталя), Антось Гладыш падпадняў шклянку піва, нахмурыў лоб, затуманіў вочы і сказаў:

„Паноўе! Ці трэба казаць вам, якога сябру згубілі мы, якую страту панесла наша кампанія? Гэта быў няўтомны баец за „зялёным сталом.“ Ён аддаваўся картам усей душою. Не задумываючыся прайгрываў ён

грошы і ўсю пэнсію за цэлые месяцы ўперад. Ён гатоў быў прайграць усё, пачынаючы сурдутом і канчаючы порткамі. Гэта была натура, катораая не любіла спыняцца на палавіні дарогі“... Шкада толькі, што наш прамовец ня скончыў сваю прамову: ніхто яго ня слухаў, кожны пазіраў на свае карты. А ў гэтым месьці мовы Антосевай якраз вышоў яго званковы кароль у чацьвёртым раду, і Антось Гладыш сам спыніў сябе, адвярнуўшы караля і гукнуўшы: „Руп сорак!“

Мяне бярэ крыўда за зневажэньне памяці нябошчыка. А мне хочэцца паказаць вам нябошчыка ва ўвесь яго рост. Часта, як быў жыў, чытаў мне нябошчык свой днёўнік, куды ён запісываў усё, што было вартае ўвагі. Аднаму мне даверыў ён сваю тайну, тайну свайго пісьменства, і я не магу стрымацца, каб ні падзяліцца з вамі яго багатай спадчынай, аткуль вы самі убачыце, якая душа тулялася у яго кволым целе.

Вечны спакой табе! Ніхай будзе так лёгка табе земля, як была цяжка твая ігроцкая доля!

---

„Табе аднэй, мая кніжэчка, даверају я мае думкі радасьць і горэ“, — так начынаецца днеўнік Жылака — „ты адна — мой лепшы друг. Нікому не скажэш ты нічога, хоць на кожнай страніцы я пакінуў часьць самога сябе. Эх!..“

*1 мая.*

Сягоньня я ўвесь дзень вясёлы. Цэлую ноч гралі ў карты у Г. Выйграў 4 руб. 20 кап. Кладучыся спаць, я абмацаў ў камзэльцы тры рублі. Не памятаю, як яны там апыніліся. Усё роўна, як знайшоў іх на вуліцы. З радасьці зайшоў до Пратаса і выпіў дзьве бутэлькі піва.

*2 мая.*

Чытаў я, ня помню, калі і ня ведаю гдзе, як лісіца ўхапіла курыцу. Вясёлая і давольная, падбегала яна да сваей нары. Але нагнаў яе каршун і выхапіў яе дабытак. Гэтак сягоньня здарылася і са мною: тое, што ўчора нагаблеваў, сягоньня спусьціў Тамашу — ды ешчэ і сваіх прылажыў пяць рублёў. Мне такі і не хацелася садзіцца—ўсё роўна як чуў. Але нагналі чэрці гэту акулу. Ну, што-ж? адыграюся! До-

ма перэмацаў усе кішэні: чэкай, браце, Петра — будзем сыр ёсьці. Знайшоў адзін толькі медны траяк. Трэба адыйграцца ды кінуць карты.

*3 мая.*

Доўга ня мог заснуць учора. А заплюшчыш вочы,—ось так і стаіць у ваччу хрэставы ніжнік, вінная дзесятка і чырвенны кароль. Усю ноч сніліся карты, куча срэбра: Кажуць, сніць срэбра кепска: сьлёзы! Нёж я буду плакаць? І чаго-бы? У Базыля, здаецца, зьбіраецца кампанія. Хіба паваражыць на пальцы, ісьці ці не... Вываражылася ісьці.

*6 мая.*

Не люблю я іграць, калі банк трымае Андрэй Нагнётка. Як начне габлеваць карты, як стане выкладаць іх! Проста, якбы жылы выцягае с цябе. Тые карты, што асталнуцца ў калодзі, разложыць на стале і тагды ўжо начынае выкладаць рады. Паложыць і перш пазірае, сваю ці здаў. Калі і па праўдзе свая возьме, ён с такою любоўю аткідае яе. А не дай Божэ свая выйдзе ў апошнім радзі! „А кацянётка ты маё!“ —

гукае вясёла ён, скачэ і цалуе карту, а мы ўсе злосна шпурляем свае карты, бо кожнаму хочэцца ўзяць дзевяты рад. Сягоньня мне шанцавала, але я — дурэнь: ня ўмеў ставіць: памажэш, але ня тую. Быў выйграў 12 рублёў, потым спусьціў, засталося толькі 35 кап. Добра, што хоць сваіх не прасадзіў.

*9 мая.*

Мікола! Даў Бог добрую памяць: як раз успомніў, што сягоньня імяніны у нашага пісара. Павінен-жэ скора зьявіцца Ёсель. Пашлю праз яго паздароўканьне. (*Ад аўтора:* Ёсель у мястэчку С.—нешта падобнае да швэйцара, або, як у салдатах, да веставога: трэба каго паклікаць ці паслаць куды або папільнаваць адзежы, бяз Ёселя тут не абойдзешся).

Вечэрам у пісара сабралася цэлая кампанія. Былі тут пані і паненкі... Божэ мой! якіе нашы пані! А паненкі! Эх брат, Жылак! закруціла табе гэлаў пісарава швагерка... Але ось ты маўчы: ніхай сабе твая хата будзе с краю! Сабраўшыся, усе сядзелі моўчкам, якбы Бог зьмешаў усім нам языкі, хоць мы і ня думалі строіць вежу да неба. Ніяк не знаходзілі, аб чым гава-

рыць. Я пазіраў на кампанію. Бачу, кавалеры і дамы ўсё паціскаюцца ды пазіхаюць; так і відаць, што чагось-то не стае, але ўсе крэпяцца і маўчаць. Урэшці Міхась Заноза не стрываў. — „Што-бы? — кажэ ён: — каб „абразікі“ — („абразікамі“ у нас завуць карты), — то пачалі-б габлеваць“ — Занозу дружна падтрымалі. Прынясьлі карты. Ўсе ад'жывіліся, на тварах засьвяцілася жыцьцё. Селі за стол. Зараз усе забразгалі кецкамі, дастаючы грошы. Гралі у дваццаць адно. Усякі раз, як да мяне прыходзіла чырвеная дама (пісарава швагерка), я йшоў па банку і ўсякі раз выйгрываў. Кажуць, калі шанцуе у карты, то не шанцуе ў любошчах. Чорт іх бяры з любошчамі! Посьле вячэры — а за вячэраю выпілі багата — ігра пашла ешчэ жывей: сталі рызыкаваць. Быў тут на імянінах якісь панок з двара. Ён трымаў банк. Антосю Гладышу здалося, што панок махлюе. Нічога не гаваручы, плясь ён яму ў морду! Панок рынуўся на Гладыша. Ўся справа кончылася тым, што панок, катораго трымалі некалькі мужчын, плюнуў праз стол на Гладыша і аплеваў яму нос. Па праўдзі сказаўшы, і трудна так плюнуць, каб не папасьці яму ў нос:

Бог ня скрыўдзіў нашаго Гладыша носам,— як шчыт, сядзіць ён на сваім мейсцы і закрывае сабою ўвесь твар. Ня думаю, каб ён надта здаволены быў сваею долею.

*30 мая.*

Учора ўся наша кампанія моцна пажывілася. Заехаў сюды адзін чыноўнік. Чэлавек ехаў у Мінск і вёз крыху грошэй у казначэйства. Селі іграць у карты. Чыноўніка патпаілі. Як пашоў ён іграць! Якаято была ігра: як хто хацеў, так і махляваў. На заўтрае чыноўнік пазычыў у свайго знаёмаго на дарогу грошэй і паехаў. Эх, каб ешчэ Бог прывёў хоць са тры такіх чыноўнікаў! Ну, што-ж? „У карцішкі німа брацішкі“.

---

Рукапіс пана Жылака цягнецца ешчэ сорак страніц. Многа там выказана ўсялякіх разумных мыслей і думак. Але там найболей наш пісьменнік гаворыць аб сабе самым, і гэта можэ даць матэр'ялу для цэлаго расказа. Дык адложым хіба да другога разу.

---

# Стараста.

— Ты знаеш хто я? знаеш?

— Чаму-ж не знаю: ты наш стараста.

— Стараста! Я — стараста, ста-а-ра-ста! — Пры гэтым стараста падняў ў гару палец, уставіўся ў адно мейсцэ, якбы абхопіваючы цалкам усю веліч свайго чына, сваей ўласьці, магутнасьці.

Гэты агляд упаіў старасту, галава яго закружылася ешчэ больш, і ён у парываньні нейкай дзікай радасьці і буйства крэпка згарнуў кулак і грукнуў па стале. Пустая бутэлька патскочыла ў гару і са звонам скацілася пад стол.

— А ты ведаеш, што ёсьць стараста?

Мікіта Булбатка, старастаў прыяцель і сябар па бутэльцы, да катораго звара-

чаўся стараста са сваім пытаньнем, сьцеляпнуўся ўсім целам, і з вялікім цiжарам узьняў на старасту вочы. Замеж аднаго старасты яму паказалася па меншай меры с шэсць старастаў, і Мікіта ня ведаў, катораму з іх атказываць.

— Стараста, ну, і ёсьць стараста, — прамовіў непаслухняным языком Мікіта. Але такі атказ не здаволіў і самога Мікіту.

— Ты выбраны обчэствам чалавек, значыцца, пастаўлены ад обчэства, — вось што ёсьць стараста, — паправі́ўся Мікіта.

Стараста круціў галавою і ешчэ больш наседаў на пытаньне, што ёсьць стараста.

Мікіта зусім зьбіўся с панталыку і ўжо з роспачы сказаў:

— Ты нашэ начальства!

— Во, во! праўду гаворыш, — патхапіў стараста: — то ўжо калі пашло на праўду, то і я скажу табе праўду: ты — самы разумны ў обчэстві!.. Так гаворыць табе начальства. Люблю я разумных, страх, як люблю!

Стараста і Мікіта пераrнуліся праз стол і крэпка пацалаваліся. Мужчыны бліжэй патступілі да сяброў; гутарка гэта выпівакаў пачынала пацешаць іх. Сьмя-

шлівые вочы Кандрата Гоцкі акінулі мужчын.

— Начальства з розумам цалуецца, — сказаў ён.

— А тож я не начальства?! — павярнуў стараста малапаслушную галаву ў бок Кандрата.

— Хто-ж гаворыць, штэ ты не начальства? Хіба ня ведаем? Ці ня ты з нас падаткі бярэш? — Стараста нізка апусьціў галаву і слухаў, і ў тых мяйсцох, дзе патцьверджалася яго начальства, ён здаволенна ківаў галавой.

— Ці ня ты гоніш нас на работу?—гаварыў далей Кандрат, а стараста зноў скалыхнуў галавою.

— Ці ня ты павесткі нам патпісываеш і завераеш?

На стараставых губах зьявілася шчасьлівая усьмешка.

— І ты разумны, Кандрат! ты і Мікіта. Гавары далей.

— Ці не цябе гэта Сальвось Кастантынаў гнаў з млёнам праз усю вуліцу? — Тут стараста ўзьняў на Кандрата вочы.

— Што?! — спытаў стараста. — Мужчыны зарагаталі.

— Ці ня ты ў халоднай сядзеў помніш можэ — земскі пасадзіў?

— Маўчаць!!!

— Ці ня ты гэта, як жэбрак, нядоімкі зьбіраеш?

— Дурэнь! — крыкнуў стараста: — дурэнь ты!

— Ніхай сабе дурэнь, а ты — папіхач, якое ты начальства? Пхае цябе пісар, пхае старшына, земскі... хто ня хочэ хіба, то той не пхае. Спытай хоць разумнаго Мікіту.

Мікіта целяпнуў галавою, хацеў штось сказаць у абарону старасты, ды нічога ня вышла.

— А што, і Мікіта патцьверджае, што ты папіхач.

— Мікіта, праўда гэта? — спытаў стараста Мікіту.

Мікіта нічога не цяміў; яму цяпер было ўсё роўна; а як адно слова сказаць было лягчэй, то ён і сказаў.

— Праўда!

Мужчыны са сьмеху аж за жываты хапаліся.

— Калі Мікіта сказаў „праўда“, то значыць праўда, бо Мікіта самы разумны ва

ўсім обчэстве,—крычаў рагочучы стары Грышка.

Стараста грозна ўтаропіўся на Мікіту.

— Праўда?

— Праўда!

— Ах, ты гіцаль! І ты мяне лаеш? ты, каторы маю гарэлку піў?!

— Цяпер Мікіта сьцяміў, што стараста яго лае. А калі чэлавека лаюць, то чаго цярпець? Што доўга разьбірацца?

— А-а-а ты ня піў маю гарэлку, каб ты смалы напіўся? — прарваўся ў канцы Мікіта: – жабіч ты! Ты думаеш, калі ты стараста, то ты ў мяне вялікая цаца? Плеваць я на цябе хачу, начхаць табе на голаву! Хрушч ты рыжы, жабіны начоўкі, падла сьмердзячая, абармот, п'яніца! Акцызнік ты, во што!

Стараста і вушам сваім ня верыў. Ён пазіраў асалавелымі вачамі і слухаў, як атчытываў яго Мікіта.

— Ты, ты мяне лаеш?! — устаў стараста, згарнуўшы кулакі: — ды ці ведаеш ты, каго лаеш? Мяне, должнасную асобу, пры споўненьні служэбных абязаннасьцей? Ды я-ж цябе ў Сібір запякаю, з обчэства вышлю, на дзень у халодную пасаджу! Да

ты ведаеш, хто я? Людзі, будзьця сьведкамі!

Стараста штось надумаўся, вылез з-за стала і, хістаючыся, рынуўся да дзьвярэй. Пераступіўшы парог, ён з усей сілы грукнуў дзьверамі. Доўгае крызо яго каптана папала між ушака і дзвярэй і зашчамілася. Стараста зразу пачуў, што яго нехта трымае.

— Пусьці! — крыкнуў стараста і рвануўся, але крызо моцна было прышчэмлена.

— Пусьці, кажу. Адвечаць будзеш за сапрацiўленьне начальству. Мужчыны пазіралі ў вакно і поўзалі са сьмеху.

— Мікіта! пусьці, каб ты кроўю пусьціў, гад печэны!

Старастаў крык далёка нёсся па сялу. На гэты час ішоў з вудамі бацюшка лавіць рыбу. Бацюшка направіўся да старасты. Рвануўшыся са ўсей сілы, стараста адарваў крызо. Ганак быў высокі, і стараста, як клубок, пакаціўся аж пад кузьню.

Убачыўшы бацюшку, стараста, не ўстаючы з зямлі, з адарваным крызам, зьвярнуўся да яго.

— Бацюшка, будзьця сьведкай, забіць мяне хацелі.

Бацюшка паківаў галавою.

— Ох, стараста, стараста!

І пашоў вудзіць рыбу.

---

# Так і трэба ашуканцу.

I.

Канцэлярскі пісец, Спірыдон Зручны, доўга не ўставаў с пасьцелі, хоць і даўно ўжо прачхнуўся і выспаўся ў смак... У пасьцелі было так добра пацягвацца, пакачывацца і развважаць с самым сабою! Але калі ўжо шанцуе, то і ў лапцях танцуе: якраз прыпаў у гэты час сьвяты дзянёк. Работы ў канцэлярыі паветоваго члена, дзе ён служыў, ня мелася. Дык чаго сьпешацца? І Спірыдон лежаў ў сваім бярлогу пад дзяругаю, здаволены сабою і сваею доляю. Гэтае здаволеньне павялічалася ешчэ і тым, што Спірыдону прысьніўся надта прыемны сон. На іншых мамэнтах гэтаго сну

Спірыдон затрымоўваўся даўжэй і перэжываў іх ешчэ і ешчэ. Што яму сьнілася, можна было толькі дагадывацца, і то здалёк, кінуўшы на увагу, як ён, узяўшы са стала забруджэнае мухамі „туалетнае зеркала“, пазіраўся ў яго, пакручываючы пяць сьветлых, пад колер сьметаны, валаскоў пад носам, каторые азначалі сабою Спірыдонавы вусы. На Спірыдона з люстэркі пазіралі такіе-ж сьветлые, як і вусы, вочы, сьветлые бровы, каторые с першаго пагляду трудна было разглядзець. Адзін толькі нос — чаравік — кідаўся кожнаму ў вочы сваім доўгім, задраным у гару канцом, ахварбаваным пад бурачны квас. І дурню было ясна, што гаспадар гэтаго носа дужа змагаўся с п'янствам, і змагаўся проста, аткрыта, чэсна, без усякіх там хітрыкаў — галялюшчыў і толькі.

Спірыдон пазіраўся ў люстэрку доўга, покі не праканаўся, што ён — маладзецмалайцом! А то можэ не? Чаго-ж на яго зазіраюцца „барышні?“ О, ён толькі ня хочэ гаварыць, як ім цікавяцца, бо ён перш-на-перш чэлавек сукромны, а другое — ведае сабе цану.

Невядома, да чаго дайшоў-бы Спірыдон у сваіх думках, каб не адна праява,

каторая пакіравала і думкі і ўсю энергію Спірыдона ў другі бок.

І вось с чаго ўсё гэта зачалося. Спірыдонаў нос — тут і мудруй, як хочэш— ні с таго ні с сяго ўзяў ды засьвярбеў моцна, станоўка, зацяжна. Можэ ён палічыў сябе пакрыўджэным відочным зьневажэньнем свайго гаспадара, каторы пазіраючыся ў люстэрку, умудраўся не замечаць такую важную асобу, якою быў яго нос Каму-ж міла такая неўвага? І вось гэты самы нос і напомніў свайму гаспадару, што ён, нос, не для якіх-нібудзь жартаў займае сваё мейсцэ, што ён не дармаед і не батрак, а шчыры прыяцель і верны член у сямьі другіх членоў чэлавечаго цела, і што ён ня толькі нюхае ўсякую дрэнь і трымае соплі, а і ешчэ што-нібудзь значыць. А які выпівака ня ведае, што азначае сьверб носа!

Ведаў гэта і Спірыдон.

Ня ўсьпеў нос кончыць сьвярбець, як ужо перад вачыма Спірыдона ўстала бутэлька і чарка і мілая кампанія. Ешчэ не было такога здарэньня, каб яго нос сьвярбеў калі так, на ўзві-вецер.

Няпраўду кажуць, калі гаворуць, што дзьве работы зараз рабіць ня будзеш: Спі-

рыдон і аб гарэлцэ думаў і нос чухаў. Чухаў яго Спірыдон далікатна, бокам пальца, а ня кіпцем, потым правёў па ім разоў колькі рукавом кашулі. А нос усё сьвярбеў на радасьць канцэлярысту. Тагды Спірыдон, прыцягнуўшы дзяругу, стаў шоргаць па ёй носам на права і на лева, як шаруе сваей дзюбай варона, седзючы на страсе.

— А ўсё-ж такі і ўставаць пара, — сказаў Спірыдон і падняўся.

— І дзе-ж то давядзецца выпіць? — думалася Спірыдону. У самога не было і ломанага грошыка; сябры, с каторымі ён кампанаваў, ня менш, як ён сам, прыслуховываліся да сьвербу сваіх насоў, і ўсе свае надзеі так сама клалі ў чужую кішэню. Ніхто не запрашаў яго да сябе, але вера ў выпіўку с прычыны сьвербу носу была так вялікая, што Спірыдон ні на адзін момэнт ня думаў над тым, што нос засьвярбеў можэ з другой прычыны.

Надзеўшы манішку і прычапіўшы гальштук, Спірыдон пачаў шворыцца па закутках сваей кватэры, шукаючы сьнеданьня. Атчыніўшы шкапік, Спірыдон перэбраў колькі скамечаных паперак і толькі ў аднэй з іх знайшоў акасьцянелы кусок каўбасы і скарынку зацьвіўшаго хлеба. Спірыдон

з мінуту пазіраў на каўбасу і на хлеб. Губы яго ўзварухнуліся, падаліся ўпярод, нос ешчэ болей задраўся ў гару. Відаць было, што гэта сьнеданьне не надта гарнула да сябе, і Спірыдон шпурнуў яго ізноў у шкапік. Раздабыўшы шклянку гарбаты, Спірыдон выпіў яе у прыкуску, адзеўся, узяў зухаўскую палачку і вышаў на вуліцу.

## II.

Спірыдон нарыхтаваўся на глаўную вуліцу горада N., куды выпаўзала ўсё панства-чынавенства. Наўперад трэба было прайсьці колькі глухіх, залітых гразёю вуліц, потым пратралевацъ праз рынак, дзе сягоньня быў кірмаш, і ўжо тагды толькі можна было трапіць на „Неўскі“.

Ціха і сьветла было на душы Спірыдона Зручнаго, як у засеку багатаго гаспадара на зімоваго Міколу. Ось ён выйшаў на такую часьць вуліцы, дзе быў палажэн тратуар. Па другой старане вуліцы йшлі дзьве паненкі. Спірыдон нацэліўся ў іх, і апроч іх нікога не бачыў. А якраз на гэты час на спатканьне Спірыдону су-

нулася сьвіньня толькі-што выкупаная ў гразі. Ці яна ня ведала, што спатыкала такую важную асобу, як наш Спірыдон, ці не хацела мачыць сваіх капыцікаў у гразі после купаньня, ці проста па сьвінскай сваей натуры, толькі-ж яна палічыла лішнім сходзіць на бок і шарганулася бокам аб сініе джыгіналёвые штанцы Спірыдона.

— А каб цябе халера! — у вялікім гневе крыкнуў Спірыдон і са ўсяго размаху сьвіснуў налкаю па сьвінячай сьпіне. Палавіна палачкі адляцела на вуліцу, а ў руках Спірыдона засталася крывулька. Сьвіньня толькі злёганька рохнула.

— Ну! —

Здавалася, яна проста падумала, што паніч жартуе з ёю, а гэта ешчэ больш узлавала Спірыдона. Бедны ня ведаў, што рабіць. У першы момэнт хацелася пагнацца за сьвіньнёю. Можэ-б ён і пагнаўся, ды на гэты час дзьве паненкі азірнуліся. Ну, куды-ж тут гнацца? Ешчэ падумаюць, чорт ведае што... Хоць бы гарадавы здарыўся— можна-б было прахапіць яго, за чым пазірае, чаму дазваляе сьвіньням шпацыраваць па тратуарах. А як нічога такоўскага не было, то прыходзілася плюнуць і даваць якую раду сінім майткам. Глянуўшы на-

вакол, Спірыдон заскочыў у краму. сяк-так выцер свае сініе нагавіцы і пашоў далей, прыглядаючыся зрэдка на пляму.

— Не! трэба прайсьціся рынкам, покі крыху апсохнуць, — сказаў сам сабе Спірыдон і зьвярнуў с тратуару.

Спірыдон ішоў памалу, дзе-ня-дзе нават застанаўліваўся, прыглядаўся да тавару, прыслуховываўся да торгу, да гаворкі, каб пачуць што нібудзь сьмешнае і расказаць потым Кацярыне Паўлаўне. Рынак гуў тысячамі галасоў... Але ўсякі ведае, што робіцца на рынку, што можна там убачыць. Спірыдон прыпыніўся каля гуртка старцаў. Ох, і хітрэц гэты Спірыдон! Ці яму патрэбны старцы? Не! У грамадзе народу, што стаяў каля дзядоў, былі дзьве дзяўчыны - красуні, такіе прыгожые, сьвежые, як майскіе краскі. Спаміж старцаў выдзеляліся два. Сеўшы на сырой зямлі і неміласэрдна круцячы галовамі, сьпевалі гэтые старцы, палажыўшы перад сабою шапкі. У аднаго старца была у руках лера, просты дзерэвяны самадзялковы струмэнт. Таўстые агрубелые пальцы спаважна перэбіралі струны. Мягкіе жалобные зыкі вылеталі аттуль скрозь гоман кірмашны сумным тонам, ўрываліся ў ду-

шы, размягчалі сэрцы набожным кабетам, і многа рук дастава́ла з-за пазухі вузельчыкі, каб кінуць свой працавіты медзяк у старэцкую шапку. Другі старэц, ні на кога ня гледзючы, у тахт леры пеяў громкім, прыемным голасам, і выходзіла прыемная музыка Але Спірыдон ня слухаў старцаў. О, у Спірыдона вуха наравістае: ён чуў артыстаў — цыганоў і сам съпеваў раманцы, як напрыклад:

„Под душыстою веткой сірэні".

Дык дзе яму слухаць старцаў? А калі і стаяў тут, то меў на гэта свае прычыны: збавіць час, высушыць пляму на майтках і, самае глаўнае, міргнуць разоў пару гэтым мілым вясковым красуням. Красуні зараз-жэ сьцямілі Спірыдонавы погляды і пачалі перашэптывацца. Спірыдон выцяг шыю, наставіў вушы каб улавіць іх гаворку, бо знаёмства бадай што завязана.

— Ось — гаворыць адна: — у гэтаго паніча нос! Хоць бяры у прыймы: такі нос, што і матыкі ня трэба асыпаць бульбу.

Гэтаго ніяк не чэкаў Спірыдон. Покі ён развежаў, як тут быць, нос сам сабою недавольна пацягнуў воздух, пачырванеўшы ад крыўды і сораму.

— Эх, гэты праклюты нос! колькі за яго прышлося выцярпець!

Каб ня чуць ешчэ якіх жартаў, наш кавалер павярнуўся і пашоў далей.

Можна быць пэўным, што Кацярына Паўлоўна не пачуе сягоньня сьмешнага апаведаньня.

## III.

Дзень кончыўся не так, як зачаўся. Да чаго прыраўняць гэты дзень? Ён падобны да цэлаго веку чэлавечаго. Хто з нас, браты мае, стоячы на парозі сваей вясны, не парываўся, увесь аддаўшыся ў абладу сьветлым марам, у невядомую даль? Хто не імчаўся, як у гіз задраўшы хвост вол, на спатканьне ўсякім прыгодам нягодам? Ці ня гэтак і Спірыдон зачынаў сягоняшні дзень? Ці не імчаўся і ён, як той вол, туды, куды цягнуў яго сьверб носа? Але хоць мы, далёка пакінуўшы за сабою вясну свайго жыцьця, часта сядзімо каля гнілога карыта растрэсеных думак і абманных надзей, усё-ж такі мы любоўна глядзімо на нашу моладасьць, і сэрцэ наша гатова плакаць па ўтрачэнай вясьне, і нам хочэцца гукнуць:

„Пастой, весна, не пакідай нас, вярніся ешчэ хоць на момэнт!“ У Спірыдона і гэтаго не было нічога. Няўжо быў ён рады у гэты дзень? Няўжо гэта ён лежаў, пазіраўся ў люстэрку, поўны радасьці і сьветлых думак?

Спірыдон, залажыўшы рукі за сьпіну, хадзіў з вугла ў вугал сваей нецікавай кватэры і падводзіў рахункі гэтаму дню.

Дрэнны дзень! Каб можна было, то Спірыдон скасаваў-бы яго, выкінуў-бы яго с кнігі сваей памяці. Але пражыты дзень гэта ня тое, што прыгавар уезднаго члена: прыгавар можна спаліць, і ўсё прапала, зрабі толькі гладка. I які гэта дурэнь казаў, што добры пачатак — палавіна справы!..

Не! што ні кажы, а ён павінен быў вярнуцца, спаткаўшы свіньню. I што робяць вучоные? Чаму яны не прасьцерэгаюць людзей? Каб Спірыдон быў прафэсарам, то ён вучыў-бы, ўсім казаў-бы: „Калі ідзеш на каханьне, а табе свіньня на спатканьне, — вярніся і сядзі дома. Чаму ён не вярнуўся, тым болей, што ён ясна чуў ў сабе голас: „Спірыдон, вярніся! Спірыдон, вярніся!“ Дык не паслухаў-жэ! Ну,

і чорт цябе бяры! угнявіўся Спірыдон на сябе самога.

Ну, і Кацярына Паўлаўна!.. Справядліва паглядзеўшы, дык не такая ўжо яна краля. Каб і Спірыдон спаліў скрыначку запалак і пашмараваў імі бровы, то меў бы ешчэ можэ чарнейшые, як у яе. Пры гэтым Спірыдон усьміхнуўся: ўзяць-бы гаршчок, насыпаць поўны сапухі, наклеіць на ім паперку з напісам: „Кацярыне Паўлаўне. Мазь на бровы“, і паслаць ёй. Нашмаруецца, нашускае пэйсы і думае, што яна і німа ведама што. З землямерам пазнаёмілася! Ані прыступу. На казе не пад'едзеш. Басэтля!

— Вы, мусіць, с сьвіньнёю вальц танцавалі! — ніяк ня мог дараваць ёй Спірыдон гэтаго насьмеханьня. І каб што людзкае, а то—як ступа, ходзіць, як на кандыбах. Нос — звяно. Але як толькі дайшоў Спірыдон да носа, то ешчэ большая паднялася ў ім бура. І гэта было сягоньня. Спаткаліся с пісцом з Управы, і ешчэ былі знаёмые. Выпіць усім хацелася, але ўсе, як бацы, голые. Упраўскі пісец і гаворыць Спірыдону.

— Ведаеш, Спірыдон Марцінавіч?

— Што?

— Давай зробім камэрцію: барыш будзем піць.

— Ну?

— Меняймася на насы!

Цьфу, гад печэны! выдумаў! Спірыдон ясна паказаў, што гэткіе жарты выдумляе толькі дурніца. А той уляпаў сваё, як свіньня у гарох.

— Колькі дасі прыдатку?

— Ніхай табе дасьць Бог скулу, дурак!

— На чорта мне твая булбатка? Стараўся жартаблівым тонам сказаць і Спірыдон.

— Чым-жэ кепска булбатка? Не спадабаецца, даў пстрычку і па ўсім. А папробуй панасіць такі пранік, як у цябе — карк атцягне. Дык што: менькі?

Па настаяшчаму варта было плюнуць у морду, і ўсё.

Спірыдон хадзіў з вугла ў вугал. У жываце было пуста, як у беднаго гаспадара ў засеку вясною, і мсташна, як у каталашцы.

Зноў зашуршэлі паперкі у шкапіку, зноў пачаў перэбіраць іх Спірыдон. Знайшоў ён ранішнюю скарынку і кусок каўбасы. Хлеб скрыгаў ў зубах, як немазанае кола. Каўбаса ніяк не жэвалася; толькі сьліна цек-

ла, а толку не было. Выплюнуў яе Спірыдон у руку, паглядзеў, размахнуўся і ляпнуў ею з-за плеча аб зямлю, ешчэ і камашам прыдавіў.

Злосьць апанавалала Спірыдона. Ну, і жыцьцё, каб ты спруцянела! Спірыдон прысеў каля стала. Колькі мінут сядзеў ён, не варушучыся. Потым вочы яго падняліся і зірнулі ў люстэрка. У-у-у мардасіна! Можэ-б і абышлося ўсё, бура улеглася-б, і Спірыдон заспакаіўся-б. Але гэты прахвост, нос, як сумыслу, зноў засьвярбеў так сама, як і раніцай.

— Не, брат! Німа дурных! — Зларадна сказаў Спірыдон.

Задраў ён у гару галаву, прыплюшчыў крыху вочы; нос яго са страху зморшчыўся, так што і зубы выскаліліся. Потым прыгнуў Спірыдон сярэдні палец правай рукі да вялікаго пальца.

— Троп! троп! троп! — паняслося па пустой кватэры.

— Так табе і трэба, ашуканцу! — прыгаварываў Спірыдон, даючы у нос пстрычкі.

## Выбар старшыны.

---

Ужо ад самаго ранку крычалі выбарные. Многа выпілі гарэлкі, а ешчэ больш піва.

У валасьці я застаў пісара і яго памочніка. Заглядаў сюды такжэ дзед — стораж с чырвоным носам — табаку зажываў ды ў гарэлцэ быў ня дурэнь. Ён здзьмухаў пыл, прыбіраў, як перэд Калядамі. Чэкалі земскаго.

А на „зборнай“, як на кермашы гаманіў сход.

— Ось хіба сягоньня пілі дык пілі! — кажэ памочнік. Гарэлку не чаркамі лічылі, а шклянкамі, Старшына адразу даў дваццаць пяць рублёў, а калі выбяруць яго, то ешчэ, казаў, дасьць гэтулькі.

У нас ужо такі парадак: хто больш

паставіць гарэлкі, той старшына. А хто-ж больш паставіць, як не багаты. Селяне нашы таго ня помнюць, што гэту выпіўку старшына пасьля ў тры разы верне. У нас ешчэ і так бывае: выбяруць старшыну, а на заўтра тыя самыя, што выбіралі яго, прыходзяць цалаваць яму рукі.

— Дзын-дзын-дзын! Дзын-дзын-дзын! Земскі прыехаў.

Старшына і пісар разам пабляднялі.

— Здраствуйце!

— Здравя жэлаем, ваша сіяцельства!

Адзін выбарны здароўкаўся аддзельна. Усё ужо сціхла, а ён, пьяны як зямля, заікаецца, крычыць:

— Здраввя жжжалаю вввашa пппбббла-городзьзе!

— Ну, каго хочэце мець старшыною?

— Таго, хто й быў! — крыкнулі разам.

— Ладна! — кажэ земскі.

Я думаю, што „ладна“! Калі-б я быў на яго мейсцы, то і я сказаў-бы „ладна“...

Старшына стаяў белы, як сьнег. Згорбіўся у дзьве пагібелі, як сьвіны татка.

Я бачыў яго да сходу: такі бравы, як генерал які. Я пазіраў на яго ды думаў: няўжо-ж гэта той самы чэлавек? Быць ня

можэ! той быў роўны, а гэты — як абаранак. Той хадзіў па воласьці, як сам цар, крычаў аж шыбы бражджалі, а гэты сагнуўся, як жэбрак, і маўчыць, як немка — толькі вачыма лыпае. Той быў таўсты, а гэты на цэлы пуд худзейшы.

Як толькі пачуў ён моц сваю, павесялеў чэлавек, выбраў мінуту, маргнуў пісару і язык высалапіў.

Земскі стаў нешта пісаць.

Здаецца усё зрабілася добра. І трэба-ж выскачыць як-раз цяпер Піліпу, селяніну с чорнай барадою. Піліпа ў воласьці не было, як выбіралі старшыну — выпіваў с сябрам.

Убег ён у воласьць, як куля; стукнуў дзьвярыма.

— Грамада! ужо выбралі? Апанаса Кветку? Каб вам доскі сабралі! Каго вы выбралі? Ешчэ мала выпіў у вас крыві?

— Ціха! — кажуць.—Тут-жэ земскі!

— А што мне ён? Але вы абармоты! Га-ааа? Ты старшынка? Сто рублёў прапіў! Каму трэба—патсунуў? Зноў кроў будзеш піць?..

Земскому і старшыне хоць вазьмі засадзі туды вочы, гдзе яны ніколі не сядзе-

лі, а каб і сядзелі, то сьвету-б не бачылі.

А сход пазірае, як баран.

Беднаго Піліпа пасадзілі ў халодную.

Гэтак пазалетась выбіралі старшыну каля Пінска.

Паглядзім, як гэта цяпер будуць у нас выбіраць дэпутатаў у Гасударственную Думу? ✓

---

# Злучыліся.

I.

Вясною, як зачынаў ажываць Божы сьвет, выбілася з зямлі тоненькая, чырвонаватая травінка. Гэта добрае, яснае сонейка выклікала яе да жыцьця. Беднае зернятка, с каторага вырасла травінка, згубіла ўжо ўсякую надзею убачыць калі-небудзь Божы сьвет: так было цёмна яму ў зямлі пад сьнегам, так холадна і маркотна. І ўсё-ж такі дачэкалася. І цікавая з яго вырасла травінка: цянюсенькая ножка, а на ёй у гары, на два пальцы ад зямлі, выплелася з ешчэ болей тонелькіх, зялёных нітачак-травінак прыгожая каробачка; на самым версі гэтай каробачкі сядзела цёмная шапачка. І ні адна матка не магла так

прыгожа убраць сваё дзіця, як убрала сонейка гэту травінку. Маладая расьлінка стаяла пры лесі у полі. Стары лес закрываў яе ад паўночных вятроў і даваў ёй цяпло і зацішак. Яна была такая маленькая, такая незначная, што на яе ніхто нават не кідаў свой погляд і ня цешыўся ею, ня гледзячы на тое, што гэта маленькае стварэньне выяўляла сабою асобны кут жыцьця, разумна і замыслована устрояны. Па самай зямлі, праўда, поўзалі ешчэ меншые мурашэчкі, але яны былі надта заняты сваею працаю, і ім некалі было думаць, разважаць, даходзіць канцоў і пачаткаў. Яны клапаціліся, бегалі, як перакупшчыкі-жыдкі на кірмашы, паварушываючы сваімі вусамі і бралі ад жыцьця тое, што можна узяць. Апроч таго, яны і па натуры сваей былі мурашкі-практыкі. Дык ніхто, кажу, не замечаў маладой травінкі. Па праўдзі сказаць, с першаго погляду трудна было пазнаць, што гэта за штука, і толькі прывычнае вока магло сьцяміць, што гэта расьлінка стане с часамі дрэвам, тым заўсюды зялёным дрэвам, што завецца хвоею.

Як яна сюды папала?

На гэта пытаньне можэ атказаць адзін толькі вецер. Але вецер ужо ўсім вядомы

непасіда, і у яго так многа работы, што трудна утрымаць у памяці такую рэч, як занесьці, па дарозі, і кінуць насеньне. А вясна тым часам рабіла сваё. Маленькая хвойка ня ведала, на што пазіраць, каго слухаць, чым цешыцца, а ёй хацелася паслухаць і аб чым шумеў лес, і што гаварыла меж сабою трава, і чаго так радасна трэшчалі на ўсе лады палевые конікі. Сярод гэтай супольнай песьні вясьне і жыцьцю адзін голас найбольш крануў сэрцэ маладой хвойкі. Божэ, што за песьня лілася ў небі!...

„Дзылін! дзылін! дзылін!
Млею, млею, млею!
Вясна! вясна! вясна!
Ідзі, малы! ідзі стары!
Віншуй вясну! віншуй вясну!

Ўсе гэтые зыкі ішлі з глыбіны праўдзівай душы. І столькі ў іх было ласкі, просьбы, радасьці і нейкай патайной жальбы, шт окожын іх слухаў, слухаў толькі іх адных. Другая часьць песьні была спакайнейша, але самы сьпеў ешчэ мацней хапаў за сэрцэ. Аб чым сьпевала жаваранка, снуючы высока ў воздусі над лесам? Маладая хвойка была ўся захвачэна гэтай песьней. Ей хацелася убачыць самую песьнярку.

Яна падыймала сваю галоўку так, што шапачка яе скінулася, і зялёные лісьцікі разышліся, пачалі раскрывацца, якбы сьмеяліся, пачуўшы такую прыгожую песьню. Прыбегшый з-за узгорка ціхі веснавы ветрык ня мог утрымацца, каб не пацалаваць маладую хвойку. А яна ад радасьці задрыжала ўся... І што ёсьць на сьвеці мілей цябе, ўзрост маладога жыцьця, калі душа ешчэ бязгрэшная і чыстая, як ранічная майская роска?

Так зачынала жыцьцё маладая хвойка, так сустрэчала яна кожную новую яго зьяву. А кожны дзень, кожны мамэнт непрыметна аддалялі яе галоўку ад зямлі і аткрывалі ёй новые і новые зьявы і малюнкі Божаго сьвету.

## II.

Маладая хвойка мела ужо добрых гадоў дванаццаць і было ўжо даволі высокім дрэвам с купчастаю верхавінаю, як радзіўся на сьвет Юрка.

Юрка зачынае добра памятаць сябе с таго часу, як пахавалі яго маму, а да гэтаго ён ешчэ мало цяміў. Ён помніць,

як яна лежала з закрытымі вачыма, як плакалі ў хаці яго цёткі і бабка і як панесьлі яе у цэркву. А дзе яна дзелася потым, Юрка тагды не знаў. Пасьля ён часта пытаўся у цёткі Тарэсы, дзе дзелася мама, чаму яе німа. Яго перш цешылі, казалі, што мама пашла далёка - далёка, што яна скора вернецца з гасьцінцам і што ёй будзе надта цяжка, калі Юрка будзе плакаць.

Юрка слухаў пільна, зазіраў цётцы ў вочы, праўду яна кажэ ці лжэ, і распытываў на шчот далечыні, куды пашла мама, і які яна можэ прынесьці гасьцінец. У Юркі такім парадкам злажылася у галаве прэтстаўленьне аб тым, дзе яго мама. А яна была далёка, аж за тым узгоркам, дзе пачынаўся лес і дзе крыжаваліся дарогі. Але дні ішлі, а мамы ўсё не было. Юрка нават колькі разоў зьбіраўся ісьці на узгорак на спатканьне мамы, але што нібудзь замінала. Так і ня ведаў Юрка напэўна, куды пашла яго мама.

Часамі у ночы Юрка прачынаўся, холадна было яму; старая дзяружка, пад каторай ён спаў, з'езджала. Плачэ беднае дзіця здушэным плачэм, і страшна яму.

— Чаго ты скавычыш там? — сярдзі-

та пытае абуджэны бацька. Юрка заціхаў, але затрыманые сълёзы капалі яму на сэрцэ, аседалі на дно душы, і вобраз мамы ўставаў тагды перад ім. Цяпер прыпаміналіся яму яе словы:

— Не дурэй, Юрачка, будзь добрым хлопчыкам, бо я памру і табе будзе горка, горка, сынок.

— А як ты памрэш, мама?

— А вось лягу, зяхну разоў два, заплюшчу вочы, душа выляціць, і я памру.

І мама клалася на палóк, плюшчыла вочы і лежала нерухома.

Юрка, раскрыўшы роцік, пазіраў сваімі сінімі, як васількі, вочкамі, поўнымі страху і трывогі. Потым ён браў маму за руку, будзіў яе. Мама не варушылася. Хлопчык пачынаў плакаць, браў яе руку сваімі ручкамі, карабкаўся на палок.

— Мама! мама! ня трэба гэтак, — гаварыў ён, цалуючы яе. Маці расплюшчывала вочы, брала хлопчыка і моцна-моцна цалавала яго.

— А ты любіш маму?

— Люблю, гаварыў Юрка і клаў сваю галоўку ёй на грудзі.

— Мілае ты маё дзіцятка. Мой харошы хлопчык. — І мама тут цяжка ўзды-

хала, вочы яе туманіліся слязьмі, сухі кашэль рваў ёй грудзі. Але Юрка нічога тагды не разумеў. Ласка мацеры супакоівала яго і яму было добра.

Гэты дзень Юрка памятае ясна. Пашоў ён да цёткі Тарэсы. Цётка любіла свайго пляменьніка.

— Хадзі, дзеткі, сюды, — паклікала яго цётка у камору. Юрка важна пашоў за цёткаю, цьвёрда ступаючы па халоднай глінянай зямлі босымі, чорнымі ножкамі.

— На, выпі малачка, каток! Юрка сеў на парозі, скінуў шапку, узяў ў вадну руку кубак з малаком, у другую гамёлку хлеба і пачаў сілкавацца. Цётка стаяла недалёка і пазірала на яго. Выпіўшы кубак малака і палажыўшы на парог недаедзены кусок хлеба, Юрка насунуў на галаву шапку і сабраўся ісьці на вуліцу.

— А ў цябе, Юрачка, зноў будзе мама. —

Юрка павярнуў да цёткі галаву і сказаў:

— Німа ў мяне мамы.

— Ну, то будзе, дурненькі ты! Юрка пытка зірнуў цётцы у вочы.

— Тая самая? — спытаў ён. Такога

пытаньня цётка не чэкала і ня ведала, што сказаць хлопчыку.

— Ня трэба мне другой мамы, — гаварыў тым часам Юрка, перэлазячы парог, каб выйсьці на двор. Цётка пакруціла сама сабе галавою, потым пахіліла яе і паднесла хвартух да вачэй: ёй жаль было хлопца.

Юрка чуў, што яго бацька жэніцца, але ён ня думаў над гэтым: ён ніяк ня кеміў, што гэта за штука такая „жаніцьба“. У самы дзень вясельля, як маладые сядзелі за сталом, бацька пазваў яго, наліў яму чарку гарэлкі.

— На, хлабысьні, Юрка!

Юрка узяў чарку, пакаштаваў і пачаў смакаваць, пазіраючы то на таго, то на другога. Госьці сьмяяліся.

— Горкая і сьмярдзючая, — сказаў ўрэшці Юрка і паставіў чарку.

— Ну, — гаварыў далей бацька, — пакажы дзе твая мама? —

— Німа мамы, — сказаў, ня думаючы многа, Юрка.

— Вось твая мама,—зноў сказаў бацька, паказываючы на маладую.

— Гэта Параска-Дзяцел, а не мама,—

гаварыў Юрка, назваўшы мачыху па мянушцы.

Мачыха са стыду пачырванела, а бацька закруціў Юрку за вуха.

— Трэба мамаю зваць, а не Параскаю, вашанё ты.

За што пакараў яго бацька? Юрка так і ня ведаў, адно толькі ён пачуў, што яго пакрыўдзілі несправядліва.

## III.

Пазнаёміліся яны вясною. Юрка цэлы дзень, як злодзей, туляўся па зарасьлях за сялом, па густых лозах на берэзі рэчкі, але ўсюды даймаў яго страх, не даваў нідзе яму супакою. Каб ён гэта ведаў наўперад, то ніколі не рабіў-бы таго, што ён зрабіў. Лепш-бы залез у агарод да Сымоніхі і нашчыпаў-бы там цыбулі, а не шворыўся-б дома у варывеньцы, дзе ён няўмысьля абярнуў збан малака шукаючы сабе пажытку. Такога страху не зазнаваў Юрка ні разу за ўсё сваё жыцьцё, як у той момэнт, калі ён павярнуў гэты збан. Але як сумыслу ўсё так зрабілася. Здаецца і не кранууся да збана, а ён упаў с палічкі

і разьбіўся на дробненькіе чэрапочкі. Юрка так перэпужаўся, што ня мог узварухнуцца, якбы ён акамянеў. І ўжо потым, прыйшоўшы да памяці, кінуўся уцекаць з дому, куды глядзяць вочы. Не дай Божэ, каб застала яго мачыха!.. А мо-б было і лепш. Аддубасіла-б за адным разам і канец. Або мала ўсчувала яго мачыха? Ці не яго гэта плач напаўняў двор бадай ня кожын дзень? Ці ня ён, зневажаны і пакрыўджэны, шчаміўшы зубы, лежаў на цвёрдай пасьцельцы, уткнуўшыся тварам у саламяную сваю падушку, каб спыніць крык болю і утрымаць сьлёзы? Ці не яго гэта грудзі паліліся агнём жаласьці і невыказанай жальбы? А што будзе цяпер? Як вывернешся з гэтаго ліха? Чым болей разважаў Юрка, тым болей даходзіў да пракананьня таго, што не варта было уцекаць з дому. І хто бачыў, што гэта ён павярнуў збан? Чаму-б ня мог зрабіць гэтаго самаго і кот, шэры іх кот — памаўза? Ўскінуў-бы бяду на ката, і канцы с канцамі. А цяпер ужо позна. Да дому варочацца, як ні круці, нельга. Доўга хадзіў Юрка па палёх, пераходзячы з аднаго хмызьняка да другого, аж покі ня выйшаў на узгорак, дзе расла маладая хвойка. І, трэ-

ба сказаць праўду, харошэе тут мейсцачка! Гэта і ёсць той узгорок, за каторы пашла яго мама... Ах, як тут прыгожэ! А сонейка як добрэнька і прыветна грэла тут! Увесь узгорачэк жаўцеў сваім чысьценькім пясочкам, нагрэтым сонейкам. Не так далёка ад гэтуль стаіць іх сяло; цэрква весела выглядае сваімі высокімі вежамі з зялёнаго вянку стройных ліпак і купчастых бярэзін... А самае важнае тое, што адгэтуль можна бачыць ўсё, што робіцца вакруг. Унь там хтось арэ, павольна ідучы за сошкаю; там ходзяць авечкі, і чуваць, як клічуць сабак пастухі. Самога-ж Юркі не відаць. Каб ешчэ лепш разгледзіць усю ваколіцу, Юрка узлез на хвойку. Божэ, якая высачыня! Каб ешчэ падлез столькі, то можэ і гэтые хмаркі шараваліся-б аб яго галаву. А як далёка ўсё відаць! Сяло сусім блізютка, нават можна пералічыць усе калодзіжы. Юрка прымайстраваўся на хвойцы, сеўшы на тым мейсьці, дзе глаўны камель яе дзяліўся ў гары на тры роўные камлюкі. Ад гэтых, камлюкоў ішлі танчэйшые сукі, ад сукоў галінкі, і так яны гожэ разрасталіся, у такім ішлі парадачку, такую слаўную выплеталі верхавіну, што каб і хацеў прыдумаць такую, то не прыдумаў-бы.

Юрка залюбаваўся малюнкамі, якіе адкрываліся яму адгэтуль. Памаленьку ён супакоіўся; страх і трывога яго дзіцячаго сэрца заціхалі. Ён пазіраў на зялёные пагоркі, на маладые ўсходы ярыны. Над ім рассьцілалася сіняе неба. Па небі плылі такіе слаўные хмаркі. Аткуль яны ўзяліся? Куды ідуць? Ці ёсьць у іх дзе прытулак на сьвеці? Ветрык перэстаў падыхаць, у воздусі зрабілася ціха і парна. А з-за берагоў зямлі, дзе неба якбы апускалася на зямлю, усплывалі ўсё новые і новые хмаркі. Юрка пазіраў на іх і сам сабе усьмехаўся. Сярод гэтых хмарак была адна хмурынка. Юрку здавалася, што гэта не хмарка, а нейкі сьвяты стаў на небі і моліцца. Ці ня прарок гэта Божы, сьвяты Ільля? Юрка бачыў на абразох прарока Ільлю і чуў, што гэта ён пасылае дождж, гром і маланкі... Не! што ні кажы, а тут добра. І гэта ён як ня ведаў такой прыўдалай хвойкі і гэтаго мілаго пагорка! Але на што ні зірні, усё цікавіць і радуе душу Юркі. Вось праляцеў беленькі матылёк, як чыстая сьняжынка, блішчучы на сонцы сваімі крыльцамі; а вось снуюць малюсенечкіе матылёчкі, чырвоненькіе, сіненькіе, жоўценькіе, ўсё роўна, як зьбіраюцца яны на баль — так прыгожа

ўсе убраны! Палевые конікі трэшчалі, якбы йгралі ім, самі мігацелі у воздусі, высака патскаківаючы, і чырванелі сваімі крыльлямі. А ў лесі, выбраўшы высокую, старую хвою, сядзеў дзесь недалёка дрозд і сьпеваў. Але гэты ягомасць пазваляў сабе ужо лішняе: Юрку пачулася, што дрозд насьмехаўся з яго бяды, высьвістываючы:

„Аткуль, малы? с села?
А што зрабіў? Збан разьбіў!
Ага! дадуць! дадуць!
Зладзюга-а-а-а!“

Юрка нават зірнуў у той бок, дзе сядзеў дрозд: так ясна выкладаў, шэльма, ўсю Юркаву правіннасць. Юрка цяжка ўздыхнуў і глыбока задумаўся. Аціхшае крыху горэ зноў абудзілася, праклятае.

IV.

У полі пачынала цямнець. Пастухі даўно ўжо пагналі стадкі да дому, і апошні гаспадар пакінуў сваю палоску. Пташкі сьціхлі, нават і дрозд перэстаў пацьвілівацца з Юркі. І страшна стала яму аднаму. А тут ешчэ і есьці зажадалася моцна. І што тут рабіць? Няўжо начэваць? Аднак

чым болей разважаў Юрка, тым часьцей пaглядаў ён на сяло. І ўрэшці Юрку асьвяціла думка — пайсьці да цёткі Тарэсы і там заначэваць. Сяло было не так далёка, і Юрка жыва пачхаў у сяло. Толькі ужо ў самай вуліцы ён спыніўся і пашоў загуменьнямі.

— Ну, ты ужо вячэраў? — спытала цётка Юрку.

— Не, — атказаў Юрка і зірнуў на стол.

— Чаму-ж ты не вячэраў?

Юрка стаяў і маўчаў, спусьціўшы вочы.

— А абедаў - жа ты? — дапытовывалася цётка: — можэ ты і не абедаў.

— Не.

— І не абедаў?!

Тут цётка утаропілася на Юрку і колькі мамэнту не спушчала з яго сваіх вачэй.

— Чаму?

— Я ня быў дома.

— А дзе-ж ты быў?

— Юрка нічого не гаварыў.

— Можэ білі цябе?

— Не, але, мусіць, будуць біць.

Юрка задзіўляў цётку ўсё болей і болей. У канцы яна ня вытрывала і засьмеялася.

— Ці не ўдраў ты якую штуку?

Юрка стаў пазіраць у другі бок, а потым сказаў:

— Цётка: як цётцы здаецца — ці можна зараз зьесьці бохан хлеба?

Гэтым пытаньнем Юрка пабіў ўсё цётчына слецтва, і яна зараз-жэ дастала с печы чыгунчык.

Крапіва с шчаўем, першая новая веснавая страва, была вельмі смачна, і Юрка аплетаў яе з ахвотаю, моцна сёрбаючы і шморгаючы носам. Па вячэры Юрка сказаў, што ён да дому ня пойдзе.

— Не, Юрачка: так ня можна. Дома ня ведаюць, дзе ты, і будуць трывожыцца.

— А мяне біць будуць.

— Ну, ня бойся: я пайду с табою. Пасядзі крыху, покі я ўхаджуся. —

Цётка пыніла у хаці, канчаючы свой працавіты жаночы дзень, і зрэдка перакідалася словам с хлопцам.

Зьеўшы с паўмісы крапівы, Юрка саўсім павесялеў. Гэта страва быц упаіла Юрку, як віно, і развязала яму язык, хоць ён і без таго не зазнаваў вялікаго усьціску ад Юркі.

— Ну, цяпер прызнайся, што ты зрабіў? — спытала цётка.

— Збан абярнуў з малаком.

— На што-ж было лезьці ў шкоду?

— Я шукаў асушка — есьці хацелася.

Але ўсё гэта цяпер ужо не займала Юрку, і думкі яго былі саўсім у другом баку; па тэй прычыне ён і сказаў:

— Ось, як я буду гаспадаром, то няіменна пастаўлю хату на тым узгорку, дзе расьце хвойка, а цётка прыдзеш да мяне у госьці... і мама можэ прыдзе, — зьмяніўшы тон і пазіракчы кудысь у глыб, гаварыў якбы сам сабе Юрка.

— Цётка! мама-ж памерла?

— Што, дзеткі? — не дачула цётка.

— Мама памёрла?

— Памерла. каток, — уздыхнуўшы, сказала яна.

— Але-ж яна ўстане?

— Ўстане... як затрубіць анел у трубы.

— А на што ён будзе трубіць?

— Будзе склікаць усіх умарлых на Страшны Суд.

— Які — Страшны Суд?

— Як будзе скачоны сьвет, тады Бог усіх будзе судзіць. Хто грашыў, той пойдзе у пекла, а хто жыў па праўдзе, таго возьме ў рай.

— А мяне Бог будзе судзіць? — с трывогай спытаў Юрка, ўспомніўшы пра збан малака.

— І цябе будзе і ўсіх.

- А я уцяку!

— Ад Бога, дзеткі, не ўцячэш.

— Ну, то схаваюся.

— І не схаваешся. Бог так зробіць, што ні рукою, ні нагою не ўзварухнеш.

— Ый! — не даваў Юрка веры: — а вось я вазьму і буду варушыць во гэтак.

Тут Юрка стаў на аднэй назе, а другою пачаў махаць туды і сюды, паказываючы, што ён — хоць ты што—а будзе такі рабіць, як яму зажадаецца. А каб ешчэ больш цётка праканалася, што Боскі суд для яго не страшны, Юрка сказаў:

— А я скажу Богу, што кот абярнуў збан... а што? — І Юрка кінуў на цётку такі погляд, каторы азначаў: „А цяпер што скажэш?“

Цётка са скрухаю паківала галавою.

— Які-ж ты, Юрачка, бязбожнік! а які-ж ты дурненькі! Ці-ж гэта можна так гаварыць? Кленьч і гавары пацеры, перапрасі Бога, каб Бог даравaў табе грэх, а то пакарае. Цётка паставіла Юрку на каленьні,

і ў дваіх перапрасілі яны Бога за цяжкі грэх.

— Ну, цяпер хадзем да дому.

V.

Сэрцэ Юркі моцна зашчымела, як цётка сказала яму пра дом. Яму цяпер хацелася, каб яго праступак судзілі не бацька з мачыхаю, а Бог на Страшным Судзе: Бога ён перэпрасіў, і Бог такі добры і міласэрдны, што напэўне не асудзіць Юрку за пабіты збан, дый калі ешчэ будзе той Страшны Суд.

Ужо добра зьмерклася, як Юрка с цёткаю ўзышлі на двор. Юрка крэпка уляпіўся ручкаю за цётчыну спадніцу і перэступіў парог бацькавай хаты.

— Добры вечар! — сказала цётка.

— Добры вечар!

— Ты-ж дзе гэта цягаешся, злодзей? — спытаў бацька Юрку.

— Не крычы ты на яго, Сёмка: ён і так увесь калоціцца, як асіна. —

— Калоціцца! — патхапіла мачыха: — нябось ведаю, калі калаціцца... Ці табе есьці німа чаго, што ты ўсюды ўлезеш? —

зьвярнулася мачыха да Юркі: — ну, скажы — не даю табе есьці? хлеба шкадую? чаго-ж маўчыш? —

— А што ён табе будзе казаць? зноў заступілася цётка: — вядома дзіця. Зажадаецца есьці, ну пойдзе шворыцца. Але ён больш ня будзе рабіць гэтаго... Ня будзеш, Юрка, лазіць, дзе ня трэба? — спытала цётка Юрку. Юрка зразу пачуў, што глаўное ужо мінулася, і ён настолькі асьмеліўся, што выпусьціў цётчыну спадніцу і цьвёрда прамовіў:

— Ня буду. —

— Ну, вось бачыце: хлопец сам кажэ, што ня будзе шкодзіць. —

Адным словам, цётка рабіла усё, што ад яе залежала, каб толькі пагадзіць бацькоў з Юркой, і да дому пашла толькі тагды, як добра пракаканалася, што глаўная іх злосьць прайшла. Праўда, мачыха ешчэ доўго бубніла і гразіла Юрку, што яна ешчэ пападзе яго у свае рукі і надоўга адбярэ ад яго ахвоту варочаць збаны; гаварыла, які дрэнны хлопец Юрка, што ня ўмее цаніць сваю мачыху, каторая глядзіць яго нават больш, як сваю ўласную маленькую Дароту: і абмывае яго, і апшывае, і корміць і глядзіць, і сочыць і німа веда-

ма чаго толькі ня робіць для яго. Каб не яна, то Юрку даўно-б заелі вошы. Юрка маўчаў і толькі дзіўіўся, слухаючы, як многа клапоціцца аб ім мачыха і вушамі сваім ня верыў ён. Ня ужо ён такі дрэнны? Божэ мой! яго так любяць, так яго глядзяць а ён збаны варочае. Але калі яго любяць, то з якой-жэ радасьці трашчыць яго чуб? Чаго-ж па яго галаве, як па Гаману, лупіць рука мачыхі? А што сказаць пра... Э, да што гаварыць, лепш і не ўспамінаць аб гэтым. Юрка толькі пачухаўся і пашыбаваўся у свой куточэк. Развярнуўшы свой берлажок, ён скарцаваўся, прытуліў галаву да каленцэў і скора заснуў. Нацягаўшыся і набедаваўшыса за дзень, Юрка спаў крэпка, але крэпкі сон не пашкодзіў яму прысьніць такіе дзівоты, каторые каб апісаў, то вышла-бы цэлая кніжка. І чаго толькі яму ня снілася! Бачыў ён сваю мілую горку і хвойку на гэтай горцы. Там ён стаяў, а вакруг было так хорашэнька, так добрэнька, што нічога тагды не хацелася, ні аб чым ня думалася, только душа радавалася, і ў сэрцы штось сьпевала. Висока над лесам стаяла сонейка. Неба над ім было зацягнута чорнымі, ў гары купчастымі с чырвонымі кра-

ямі, хмарамі. Знізу гэта чорная хмара патпіралася чырвонымі велізарнымі слупамі. У адным мейсцы хмары растуналіся, і скрозь іх быў відзен якбы глыбокі калодзіж; дно яго было сіняе-сіняе, а берагі былі выложаны вяночкам, сплеценым з вясёлкі І праз гэтые варотцы сталі выходзіць людзі. Валілі і валілі яны без канца, аткуль яны толькі браліся! І ўсё спускаліся на зямлю. Зямлі невідна было за імі... Ах, гэта Страшны Суд! Унь анёл трубіць у залатую трубу, і Сам Бог сходзіць на зямлю. Які-ж ён старэнькі, сівенькі! А што-ж гэта там чарнее ад села? Юрка стаў прыглядацца. Гэта яго мачыха тарабаніць збан, той самы збан ад малака, што Юрка неўмысля разьбіў. Але цяпер гэты збан зрабіўся такі вялікі, што сваімі венцамі упіраўся у хмары. Страшна стала Юрку, і ён пачаў азірацца, куды-б тут шмаргануць, бо відаць, кепскіе выходзілі жарты. Хацеў Юрка пабегчы, ног ня можэ аддзерці ад зямлі, якбы іх хто прымураваў. Юрка прыхіліўся да хвойкі і абняў яе адною рукою.

— Ня бойся! — шэпчэ яму хвойка.

Зірнуў Юрка—гэта ня хвойка, а яго мама. І так яна ласкáва пазірае на хлопчыка, што ўсе страхі яго разлятаюцца, як

летні туман, і радасна яму. Тым часам мачыха падышла саўсім блізка і скардзіцца Богу на распуства Юркі.

І вось узяў Бог Юрку за руку і кінуў яго у гару. Лецючы, Юрка сьцяміў усё: гэта Бог кідае яго у збан, каб перэважыць увесь яго грэх. Калі Юрка сам вылезе з збана, то ён нявінен. Доўга ляцеў Юрка на дно, але яму лёгко, ён толькі скарэй хочэ апыніцца на дне, каб пачаць апраўдацца. Чуць-чуць крануўся Юрка дна і пачаў ўздымацца у гару. Ляціць ён плытка, лёгка, роўна. Вось ён на версі. Але Юрка не зразу спускаецца на зямлю. Ён сумыслу затрымаўся і пачаў паказываць Богу уселякіе штукі, стоючы на венцах збана: куляўся, станавіўся дубка, скакаў на адной назе. А Бог пазіраў і сьмеяўся, і ўсе сьмеяліся і радаваліся, што Юрка ня вінны. А мачыха яго пачарнела і стала зьнікаць.

## VI.

Дзяцінные леты Юркі былі нерадасны і непрытульны: іх не сагрэвала ласка мацеры. І у сям'і другіх дзетак, равесьнікаў

сваіх, ня мог ён знайсьці тэй радасьці, тых супольных інтэрэсаў, таго жывога цэмэнту, што еднае іх дзяціны круг. I не адзін раз, бывала, у нядзельку вечарам, калі бацькі вернуцца з рынку і накупляюць сваім дзеткам і абновак і уселякіх гасьцінцаў, з зайздрасьцью пазіраў Юрка на радасьць сваіх таварышаў, стоячы збоку ад іх, бо і дзеці дзеляцца гасьцінцамі толькі с тымі, ад каго самі могуць атрымаць гасьцінцы. Па той прычыне Юрка перастаў кампанавацъ са сваімі таварышамі і мусіў разважацца сам сабою. Але і пагуляць беднаму хлопчыку не было калі: трэба было няньчыць малую Дароту, а кожную забаўку, гульню прыходзілася купляць цаною папіханак і штурханцоў. Юрка рос закіданым хлопчыкам. А калі і выпадалі сьветлые мінуціны у яго жыцьцю, то за іх ён павінен сказаць „дзякуй“ сваёй цётцы Тарэсі. Праўда, цётка была бедна, у самой не ставала хлеба, але ўсё-ж яна рабіла што колечы, каб даць хоць якую палёгку свайму пляменніку. З-за яго яна пасварылася з мачыхаю Юркі і з братам сваім, яго бацькам, і перэстала заходзіць да іх у хату. У сьвятые дні, бывала, цётка клікала Юрку і ішлі з ім у лес зьбіраць

розные травы і зёлкі — цётка была крыху лекаркай. Гэтые зборы былі для Юркі праўдзівым сьвятам. Покі зойдуць у лес, то нагаворацца яны досыць. А Юрку многае цікавіла. Цётка тлумачыла, на сколькі дазваляў ёй яе розум, розные зьявы Божаго сьвету; і не раз гаварыла яна Юрку:

— Вырасьцеш, Бог дасьць, будзеш няіменно вучоным самае меншае — настаўнікам будзеш. — У лесі цётка гаварыла, для якой надабы належыць якое зёлка, ад якой хваробы ці запаленьня якога, памагае тая ці другая трава і пазнаёміла Юрку з рознымі краскамі: пералётнікам, гарлянкай, румянкам, чабаром, мацердушкой, са смалудамі, каторымі даўней карміліся людзі, з дзягілем і з многімі другімі расьлінамі. А забаляць ногі, сядуць на беразі крынічкі сапачыць і крыху пасілкавацца. Цётка Тарэса была для Юркі тою заступаю, за плячыма каторай Юрка чуў грунт пад нагамі. Апроч таго, у Юркі быў свой асобны сьвет, каторы знаходзіўся у ім самым. То быў сьвет вобразаў, мараў і ўселякіх думак, сьвет, дзе ён быў поўным гаспадаром. Любіў так сама Юрка развагу с самым сабою, забраўшыся у такое мейсцэ, дзе яго не маглі патрывожыць. Такім

мейсцэм была цяпер горка, а хвойка сталася яго найлепшым сябруком. Як той злодзей, выкрадаўся Юрка з дому, хаваючыся ад мачыхі і ад людзей, ціхэнька сунуўся разорамі паміж аўсоў або ячмянёў на поле, а адтуль да сваей улюблёнай горкі і друга — хвойкі. Залезе часамі на хвойку і сядзіць цэлымі гадзінамі, разважае. Хвойка, здавалася яму, шумела весялей; гэта яна напэўне гаворыць яму сваею мовою. Юрка ніяк ня мог забыць, што яму прысьнілася—таго, як з хвойкі сталася мама. Вобраз мамы, добрай ненаглядный мамы, не атступаўся ад Юркі. А можэ гэта і ёсьць яго мама, а не проста хвойка? Юрка, сам ня ведаючы чаму, чуў нейкі страх, і нейкае салодкае заміраньне ахоплівала яго душу. Юрка пачынаў прыслухівацца да шуму хвойкі, У гэту неўцямную людзям мову укладаў Юрка свае думкі, сваё сэрцэ і душу і прыймаў іх ад хвойкі не як творы уласнай фантазіі, а як праўдзівую мову хвойкі і задзіўляўся. А потым сам пачынаў расказываць розные апаведаньня; любіў ён часта гаворыць аб тым, як адзін маленькі хвопчык, заснуўшы, пашоў да Бога у госьці, як спатыкаў і як частаваў яго Бог, як гулялі з ім сьвятые

анёлы. А каб ешчэ больш усьцешыць свайго сябрука, Юрка паказываў, як бляюць авечкі, як сьпевае певень, адным словам, знаёміў хвойку з гутаркаю усялякіх жывёлін.

## VII.

— Не, цётачка, я не ачуняю.

— Сьмейся, каточэк; паляжыш і, дасьць Бог, устанеш. Пакажы сваю галоўку.

Юрка павярнуўся на сьпіну, а цётка прылажыла руку да лоба хлопчыка.

— Есць агонь, але нічога, гарбузенятка ты маё, качанчык ты мой бедненькі, ачуняеш. —

Цётка Тарэса прысела каля хвораго хлопчыка і з ласкаю мацеры старалася разважыць яго, прагнаць нядобрые думкі. Але Юрка быў сусім спакойны і поўны надзеі, што ўжо не ачуняе. Цётка, слухаючы гутарку малога пляменьніка і бачучы яго пакорнасьць сьмерці, разьбівалася ад жалю. А можэ яму і лепш сьмерць, чым такая сірочая доля?

— Ня ўжо-ж ты, саколік, ня хочэш жыць, калі гаворыш усё, што не ачуняеш?— спытала цётка.

— Мяне сягоньня мама клікала да сябе, — сказаў з нейкаю таёмнасц ю ў голасе Юрка: — і жыць я не хачу; толькі ведаеш, цётка, мне шкода цябе! — Цётка нахілілася над Юркам і стала цалаваць яго, а сьлёзы бобам паліліся на твар хлопчыка.

— Цётка! ты плачэш? і ты мяне шкадуеш? —

— Не гавары ты, золатка маё, пра сьмерць, ня думай пра яе: не міне яна нікого з нас. Табе ешчэ жыць трэба, дурненькі ты! —

— А хіба-ж я там ня буду жыць? —

— Будзеш, будзеш, ягадка мая! — цешыла цётка хлопчыка: — але і на гэтым сьвеці трэба пажыць ешчэ, прайсьці сваю дарогу, што Бог назначыў... Ось я табе зелейка напарыла — таго самаго, што мы с табою, помніш — зьбіралі ў Бярозавым лесі. —

Вочкі у Юркі павесялелі, на губах заблукаў сьмяшок: яму прыемна было ўспомніць, як яны хадзілі с цёткаю зьбіраць травы і зёлкі.

Юрка ахвотне узяў з рук цёткі гарнушачэк і напіўся.

— Ось паглядзіш здаровенькі будзеш,—

любоўна сказала цётка. Юрка з уроды быў хірлявы хлопчык, а недаўна ён прастудзіўся і занепаў. Дагляду не было ніякаго, калі не лічыць таго, што калі-не-калі забяжыць да яго цётка і палечыць сваімі зёлкамі. Юрка дзень за дзень гас, як тая куравая газоўка, каторай бракуе газы. На першых часах хваробы яму было цяжка. Покі былі сілы і паможнасьць падымаць ногі, ён соваўся хоць на дварэ. Смуціўся моцна хлопчык спачатку і аб сваёй хвойцы: каб меў крыльля, здаецца, паляцеў-бы туды ужываць той сьвежы, чысты і здаровы воздух, каторага так не ставала тут. Бывала, як меў ешчэ крыху сілы, усьцягнецца, бедны, падыдзе да вакна. На вуліцы гулялі дзеці, здаровые, вясёлые. Толькі Юрка, як пасынак, пазіраў з душнай і смроднай хаты. Што пачувала тагды гэта закінутае дзіця?

— Ведаеш, цётка, каго мне ешчэ шкода? —

— Каго, рыбка?

— Мне шкода хвойкі... Я памру, а яна будзе стаяць адна там, і другі хто-небудзь будзе слухаць яе гоман — гутарку...

— Ссеклі, служка, тую хвойку, тыдзень, як ссеклі! — гаротна прамовіла цётка.

— Ссеклі, ссеклі? —

Юрка змоўк. Потым узяў ён цётчыну руку і доўга-доўга трымаў яе, прылажыўшы к губам, і гарачые сьлёзы абмачылі яе. Праз колькі мінуцін Юрка пачаў гаварыць з агню. Упаміналася тут і мама, і цётка, і хвойка, нават пра збан штось сказаў хлопчык. Крыху счэкаўшы, ён супакоіўся і больш не ачынаўся.

За сялом на пагорку прыбавілася ешчэ магілка. Гэтта пахавалі маленькага Юрку. Над яго магілкаю стаіць высокі крыж. Яго паставіла цётка Тарэса, і крыж быў зроблена з улюблёнай нябошчыкам хвойкі.

---

## Казкі жыцьця.

---

Гэта было самае звычайнае дрэва. А калі яно і звярачала на сябе ўвагу, то хіба толькі тым, што стаяла адзінока. Але той, хто шчыра чытае кнігу прыроды і ўнікнуў у яе жыцьцё, ешчэ прыкмеціў-бы, што гэтае дрэва, апроч сваей адзіноты, мела нешта чыста свойскае, асобнае, што прыналежала толькі яму аднаму. Нават агульны выгляд яго твару — бо і дрэва мае свой воблік — меў характар цікавай асобнасьці. А як такіх шчырых і ўспагадных знайкаў або сусім ня было, або было надта мала, то ніхто не зварачаў на яго ўвагі, і яно стаяла тут, закіданае і крыху зьняважанае людзьмі.

Сьперша нават здавалася, што гэта закіданае адзінокае дрэва стаяла збоку

жыцьця — больш гібела, чым жыло, а на праўду выглядзела, што яно жыло шмат паўней і глыбей пачувала жыцьцё нават тых дрэваў, што расьлі ў лесі. Такі ўжо характар адзіноты, гэта яе ўрода, яе істота. І хто хочэ жыць паўнейшым жыцьцём і гастрэй пранікаць яго цемры - глыбіны, той павінен жыць адзінокім і незалежным. Адзін толькі вецяр любіў часта варушыць лісцьцё гэтаго дрэва, гойдаць яго галінкі і шэптаць яму хітра-лісьлівые рэчы. Толькі вецяр — хоць і часта ён дзьме ў пустых галовах — умее быць сталым, умее маўчаць.

Праўда, крумкач-гарапашнік не адзін раз чуў тые размовы – шэпты ветру і дрэва. Але крумкач залішне важны для таго, каб разносіць чужые гутаркі па сьвеці; хіба так, зьнячэўку прамовіцца калі. За тое-ж крумкач, калі што скажэ, то скажэ праўду. За тым-жэ і вароны паважаюць яго, як жыды рабіна.

Была тут ешчэ адна важная асоба, без каторай не адбывалася ніводная тутэйшая справа. Асоба гэта — ручаёк. І часта бывала, шла жывая гутарка між ветрам, дрэвам і ручаём, а крумкач, начуючы тут, лю-

біў паслухаць іх гаворку і сам нават зрэдка устаўляў сваё мудрае слова.

А што было найдзіўнейшым, дык гэта тое, як вецяр, так і ручаёк крэпка палюбілі адзінокае дрэва; па гэтай прычыне, ніколі ня было згоды між ветрам і ручайком. Кажу „палюбілі“, бо начэй трудна назваць іх такую шчырую прыхільнасьць. Але трэба памятаваць, што бадай ня кожная рэч мае два бакі — паказныя і супраўдзівые. Можэ гэта з паказнога боку здавалася, што ручаёк з ветрам моцна ўкахаліся у дрэва. Нехай аб гэтым судзюць мудрые і кемные людзі, а я толькі раскажу, як усё тут было.

Вясной і ў летку часта-часта прылетаў вецяр да дрэва, абыймаў яго і сваімі пацалункамі асушаў роску з зялёнаго лісьцьця яго.

— Як я люблю цябе, маё ты мілае і прыгожае, — гаварыў вецяр, — ты слухай толькі мяне і больш нікога, спусьціся на маю сьвядомасьць, на сілу маю, на маё моцнае каханьне. Можэ халадно табе? я праганю хмары, ачышчу неба і скажу сонцу, каб грэла цябе. Люблю я дзетак тваіх, бо твае дзеткі — мае дзеткі! І ве-

цяр прынікаў да яго ешчэ цясьней і абыймаў моцна-моцна.

Дрэва ўсё дрыжэла ня то з радасьці, ня то ад трывогі і асыпала, сваё насеньне. Вецяр патхопліваў яго і нёс далёка-далёка. За доўгіе часы ён многа занёс сюды насеньня гэтаго. З насеньня таго вырас цэлы лес, у каторым і спачываў, як было горача, гэты хітры і злы вецяр. Як толькі ён вывіхровываўся у сьвет, пачынаў балбатаць ручаёк, цякучы каля самагокарэньня.

— Ведаеш, рыбка, — журчэў ручаёк:— мне здаецца, што гэты вецяр фальшывы твой прыяцель. Языком ён намеле німа ведама што: ён табе і хмары разгоніць, і сонцу прыкажэ, — слухай яго толькі! А ў восень унь якіе штукі выкідае! А зімой што робіць? Ты заміраеш на ўсю зіму, нічога ня чуеш, што ён тут вытварае. А я хоць праз лёд, ды чую! Сьвістун! Ня слухай ты яго! Дзе твае дзеткі? Усіх разагнаў ён, а ты адно стаіш тут, як сірата, і твае дзеці сьмяюцца с цябе, бо так панавучаў іх вецяр. Іншая справа — я. Перш на перш мы — суседзі, і ў нас так многа супольнаго, што нам трэба моцна трымацца адно другога, бо мы — дзеці зямлі...

Ня скончыў ручаёк гаварыць, бо наляцеў вецяр і сыпнуў са злосьці у ручаёк цэлае воблака пылу.

— Высушу, як шкурат у Пятроўку, — пагразіў сярдзіта вецяр.

— Уй, батрак сусьветны! — сказаў ручаёк, пацямнеўшы ад пылу.

— Што?

— Батрак! батрак! батрак! грымеў ручаёк.

— Я цар усяго сьвету!

— Кажы гэта дурнейшым за самога, а ня мне, валацуга. Ці-ж можна верыць табе, калі ў цябе сем пятніц на тыдні?! — Адным словам угнявіўся ручаёк, ды і цярпеньня не стала, і ён пабег далей, бубнючы ўсю дарогу на вецяр; яму было крыху крыўдна, бо дрэва больш хілілася да ветру, чым да яго.

Чаму?

Ручаёк ніяк ня мог узяць гэтаго на розум. Праўда, урэшці ён застановіўся на думцы, што вецяр больш мае ўвагі ад дрэва за тым, што ён языком леньціць і туды і сюды; не гаворыць праўды, а замазывае вочы рознымі байкамі. Якбы там ні было, а гэта ніколечкі ня цешыла ручайка і яму ад гэтаго ня было лягчэй.



— А што думала само дрэва?

Яно часта нудзілася тут адно. Яму хацелася пабачыць сваіх дзетак, пагутарыць са сваімі роднымі, затым і выглядало яно такім задуменным і сумным. За доўгіе часы яно прывыкла да сваей адзіноты і страх, як любіла азіраць гэта жыцьцё, што кіпела ўвокал, і ўсе зьявы, якіе вынікалі і на небі, і на зямлі. І бывалі ў яго такіе мамэнты, калі нічога ня думалася, было так лёгка і добра, і самі лісьці яго ціха сьпевалі. Любіла яно паслухаць, што гаманіў непасіда вецяр і ручаёк любіла яно, толькі ня ўмела сказаць яму, як яно любіць яго. А ручаёк палічыў гэта за поўную неўвагу к сваей асобі.

Толькі-ж раз паднялася навальніца. Хмары, як мухі над гаршком куцьці, віліся чорным роям над зямлёй, апіразваючыся агнявістымі стружкамі. Страшна было. Але трэба было умешацца тут ветру, і цяпер ён зьявіўся такім, якім ён і ёсць па сваей натуры: буянам і забіякай. Чуць-чуць стрывала беднае дрэва — так рваў і крышыў яго вецяр. Нават крумкач павінен быў моцна ушчаміць кабдзюрамі галіну, каб ня скінуцца.

— Здаецца, я табе не насеньне з гэ-

таго дрэва, што хочэш сарваць і мяне для сваей забаўкі — сярдзіта сказаў крумкач.

Тут у дрэва развязаліся вочы; пазнала яно, які хітры і злы яго прыяцель.

Угнявіўся і ручаёк. Ён надзьмуўся, насупіўся і выкаціўся з берагоў, запеняны ўвесь. Зьневажэны, на яго пагляд, дрэвам, ён адышоўся далей. Убачыла дрэва, што сябры яго пакінулі.

— Што рабіць?

Пусьці глыбей карэнькі ў зямлю, — скакаў крумкач, мудрая птушка, ляцючы на раздабыткі.

---

# ЗМЕСТ.

стр.

